

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 117 July 2004 Ліпень Год выд. 12.


# Ці патрыёты мы?

Зычлівыя, памяркоўныя, няспешныя, асцярожныя — такія мы, беларусы. Талерантныя, як цяпер кажуць. І яшчэ пра нас сцвярджаюць, што, маўляў, чужога не возьмем і свайго не аддадзім. А вось тут, зрэшты, памыляюцца. За час жыцця пры Саветах пад крылом Масквы мы якраз чужое ўзялі, а сваё аддалі. І перш-наперш гэта тычыцца мовы, бо толькі задужа ўпарты можа пераконваць сёння, што з яе ўжыткам у нас поўны парадак. Хутчэй, у гэтым плане мы на шмат больш рускія, чым беларусы.

Ні для каго не сакрэт, што Беларусь, як ніводная іншая рэспубліка ў складзе СССР, выйшла з яго найбольш разгубленай, бо мы ў адрозненне ад прыбалтаў, закаўказцаў і нават тых жа суседзяў-украінцаў ні сном ні духам нават уявіць сабе не маглі, што станем незалежнай дзяржавай. Мы настолькі звыкліся з існаваннем у межах СССР, што, здаецца, і дагэтуль не расшаломкалі, як жыць далей. Быццам чакаем, што ўсё яшчэ вернецца назад, на кругі свае. Таму, можа, у нас і такая моцная настальгія па былой вялікай дзяржаве.

А ўжо б час і ачомацца ды і ўсвядоміць: мы — дзяржава, суверэнная, незалежная, роўная сярод роўных (і не толькі ў былым СССР, а і ў свеце таксама). Са сваім Сцягам, Гербам, Гімнам... Зыходзячы з гэтага і варта будаваць ідэалагічную палітыку. І крый Божа ператварыць яе ў чарговую агітацыйна-прапагандысцкую кампанію. З адзінымі і нфармацыйнымі днямі, штучна надуманымі святамі і акцыямі. Гэта мы ўжо праходзілі, і што з таго атрымалася — усім вядома. Дык ці варта ў другі раз уваходзіць у адну і тую ж рэчку?

Як бы мы не клапаціліся пра развіццё эканомікі і дабрабыт народа, але пры занядбанні нацыянальнай культуры, традыцый продкаў, адсутнасці ўсведамлення "людзьмі звацца" (у дадзеным выпадку чытай: беларусамі) мы ніколі не вырвемся з глухіх сцен уласнай "мястэчковасці". Ведаць багатую і слаўную гісторыю Бацькаўшчыны, ганарыцца яе знакамітымі сынамі і дочкамі — гэта і ёсць той трывалы фундамент, на якім будуецца любая суверэнная дзяржава...

Возьмем хаця б нашы дзяржаўныя атрыбуты: Сцяг, Герб, Гімн. Яны яшчэ, на жаль, не сталі, як кажуць, нашай крывёй і плоццю, а існуюць пераважна толькі на афіцыйным узроўні. І справа не ў тым, які Сцяг ці Герб абраў народ. Ісуса Хрыста ніхто не выбіраў. Але ж пакланяюцца! А з нашымі Сцягам і Гербам хіба так?

Паглядзіце пачатак любога міжнароднага футбольнага ці хакейнага матча, калі пачаргова гучаць гімны дзяржаў, якія прадстаўляюць каманды-саперніцы. Упэўнены: параўнанне будзе яўна не на нашу карысць. Тымчас, як сапернікі беларусаў з урачыста-засяроджанымі тварамі спяваюць гімн роднай краіны, нашы як бы і не чуюць свайго... І тут хоць ты яшчэ пяць разоў мяняй сімволіку, яна ад гэтага не стане даражэйшая, бо справа, пэўна, не ў ёй, а, мабыць, зусім у іншым. Карацей кажучы, нешта не так.

Што не так? Галоўнае, як мне падаецца, у тым, што мы не адчуваем сябе нацыяй, такой, як тыя ж англічане, немцы, французы, чэхі ці палякі. Бо, перадкуючы перад чужым, мы занядбалі сваё. Івана Фёдаравіча аддалі рускім, Адама Міцкевіча — палякам, Ігната Дамейку — чылійцам, Міколу Судзілоўскага — гавайцам... А каго сабе? Суворава, Дзяржынскага, Калініна, Мяснікова? У нас нават "Ленін думае пра Беларусь" (ніякім чынам не хацеў бы тым пакрыўдзіць паэта Генадзя Бураўкіна — " быў час, быў век, была эпоха").

А можа, наспеў час падумаць пра Беларусь самім, і перш-наперш уладу трымаючым? Пагартайце шматтомную энцыклапедыю кніг "Памяць". Якія мы ўсё ж багатыя! Дык чаму ж тады зацыклілі сваю гісторыю толькі на Кастрычніцкай рэвалюцыі?.. А яшчэ — на савецкіх датах ды з'ездах




КПСС. І калгасы з саўгасамі ў нас носяць падобныя назвы, і вуліцы, і перайменаваныя пры Саветах вёскі. У маёй роднай Патапаўцы, што на Буда-Кашалёўшчыне, у свой час вуліцы са спрадвечнымі назвамі продкаў Хутары, Гавельскі Шлях, Салёпаўка пераўтварыліся ў Савецкую, Камсамольскую, Чыгуначную, а мае Крывічы сталі Пралетарскай. Дык вось адзін дзядок, калі я аднойчы запытаў, чаму так назвалі вуліцу, на якой ён жыве, на поўным сур'ёзе адказаў: "Кажуць, нехта пралятаў над ёй". Смех дый годзе. Хаця ці да смеху тут... Неяк прачытаў, што ў новых мікраранах Мінска з'явяцца вуліцы Уладзіміра Мулявіна і Васіля Быкава. А чаму не ў цэнтры сталіцы, падумалася. Ды таму, маўляў, што многія мінчане супраць перайменаванняў, бо з-за іх быццам узнікае блытаніна. Сапраўды, няхай лепш шыльды цэнтральных вуліц сталіцы упрыгожваюць імёны Маркса, Энгельса, Кірава, Калініна. Гэта, зрэшты, таксама ідэалогія. Чужая, між іншым. Дык як жа яна стасуецца з патрыятызмам?

Згадваю яшчэ і такі прыклад. У адным раёне старшыня райсавета дэпутатаў паказваў дакумент на прысваенне звання "Ганаровы грамадзянін горада" вядомаму мне ветэрану вайны. І скардзіўся, што з жывых ганаровых амаль нікога ўжо не засталося. І не сакрэт, бо ўсе яны выйшлі з вайны. Але хто сказаў, што ганаровыя павінны быць толькі з ветэранаў? Нічога не маю супраць слаўных салдат вялікай Перамогі, але няўжо ў раёне няма іншых заслужаных людзей? У віцебскім райцэнтры Дуброўна, напрыклад, такое пачэснае званне носіць пісьменнік-драматург Аляксей Дудараў.

А чаму б тыя ж вясковыя вуліцы не назваць у гонар людзей, якія нарадзіліся і жылі тут, — знакамітага механізатара, старшыні калгаса, настаўніка, ураджэнца вёскі, што праславіў яе дасягненнямі ў навуцы, культуры і імя якога вядома ўсёй краіне? Назвалі ж у Малых Круговічах Ганцавіцкага раёна вуліцу імем пісьменніка-земляка Віктара Гардзея!

Усё гэта — не дробязі. Менавіта адсюль, з назваў нашых родных вуліц, і бярэ свой жыццядайны пачатак патрыятызм, адсюль, як спявалася некалі ў шырокавядомай песні, пачынаецца Радзіма. Не ўсвядомім гэтага — любая ідэалогія, якую б грунтоўную канцэпцыю мы пад яе не падвялі, праваліцца.

Вось чаму мяне так усцешылі словы старшыні Буда-Кашалёўскага райвыканкама Мікалая Чарныша, сказаныя ім на прэзентацыі раённай кнігі "Памяць": "Гэта не толькі вынік нашай шматгадовай працы, а і пачатак новай. Напрыклад, выдаць падобную "памятную" кнігу рэгіянальнага фальклору". І такі праект можна толькі вітаць. Як, зрэшты, і кнігі кшталту анталогіі літаратурнай Полаччыны "Там, дзе званы Сафіі..."

А значыць — не хлебам адзіным жыве чалавек. Добра, калі гэта разумеюць кіраўнікі раёнаў, абласцей, галін народнай гаспадаркі. Бо толькі тыя з іх, хто дбае не пра адно малако, мяса і іншыя вытворчыя паказчыкі, а і пра людзей (і гэта ў першую чаргу!), па-сапраўднаму дбаюць пра дзяржаву — магутную, квітнеючую.

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Так, кадры вырашаюць усё, ва ўсялякім разе — многае. У сферы ідэалогіі да іх асаблівыя патрабаванні. Са старым багажом выхоўваць сённяшняе пакаленне немагчыма. Таму і насцярожвае той факт, што пасады намеснікаў кіраўнікоў прадпрыемстваў, установ і арганізацый па ідэалагічнай рабоце шмат дзе займаюць выйшаўшыя на пенсію самі кіраўнікі. Атрымліваецца, што быць ідэолагам лягчэй, чым кіраваць калектывам. Дык ці ідэолагі тады яны? Мусіць, таму і маем тое, што маем...

Анатоль ЗЭКАЎ /ЛіМ/

*******************************************

# Прабач нам, Янка Купала...

Мінула каля двух гадоў, як мы адзначылі 120-гадовы юбілей вялікіх людзей Беларусі — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прайшоў ён прыстойна, урачыста, пасапраўднаму юбілейна. Якіх толькі ні праведзена мерапрыемстваў у сувязі з гэтай нагоды! І ўсе яны канчаліся пад гучныя воклікі "Жыве Беларусь!" А ці і на самай справе жыве яна сёння? Пытанне гэта хвалюе многіх беларусаў. Не дае яно спакою і мне. Таму і пажадалася супаставіць свае меркаванні пра сучасны стан нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, культурнамоўнага жыцця з тымі думкамі, якія ў свой час па дадзеных праблемах выказаў наш дарагі, незабыўны Купала.

*

Буйныя няўдачы, вялікія страты падчас нацыянальнавызваленчых паўстанняў 1830 —1831 і 1863 —1864 гадоў надоўга спаралізавалі актыўнасць беларускага народа. Хоць рэвалюцыя 1905 —1907 гадоў трохі і абудзіла яго, але не да такой ступені, каб змаганне за волю, прыстойнае нацыянальнае жыццё набыло ўсеагульны характар. Падобнае становішча не магло не хваляваць Янку Купалу, бо ён добра разумеў, што пры пагалоўнай пасіўнасці людзей не забяспечыш роднаму краю так жаданай волі. Вось таму ў артыкуле "Больш самачыннасці" (1919) ён так настойліва заклікаў іх у гэты складаны, адказны час не чакаць дапамогі ад прышэльцаў, а самім брацца за навядзенне належнага парадку ва ўласным доме. "Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця, — падкрэслівалася ў артыкуле, — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе.

(...) Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця". Востры дэфіцыт на такую самачыннасць так і не ўдалося нам пераадолець. На яго мы моцна хварэем сёння, у чым маем права абвінавачваць найперш саміх сябе. Менавіта перыяду 1905 — 1920 гг. Янка Купала даў такую характарыстыку ў прамове да 15-годдзя сваёй літаратурнай дзейнасці: "Ні адно на свеце адраджэнне народу, ні адна вялікая ідэя не пашыралася так шпарка, як ідэя нацыянальнага адраджэння беларускага народу.

(...) Арлiным узмахам агняцветнай думкі аб нашай волі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае на сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе". Значыцца, умелі працаваць з людзьмі, нягледзячы на адсутнасць спрыяльных умоў для гэтага. Каб у людзей выклікаць цягу да вольнага палітычнага жыцця, Купала выступае ў 1919 годзе з вельмі змястоўным па такой праблеме артыкулам "Незалежнасць". У ім даводзіцца чытачу пра тое, чаго ён ніколі не сустракаў у кнігах: у беларусаў багатыя традыцыі дзяржаўнага развіцця, яны маюць усе правы ганарыцца ВКЛ, у якім "беларуская культура высока трымала свой сцяг". Нічога падобнага, адзначалася ў артыкуле, не назіралася, калі наш край апынуўся ў складзе Рэчы Паспалітай, а затым — Расійскай імперыі. Улады адной і другой "глядзелі скоса на Беларусь", глядзелі то як на "крэсы", то як на "окраину", і больш нічога.

Янка Купала не сумняваўся, што ў выніку працяглай ідэалагічнай апрацоўкі беларусаў зацятымі прыхільнікамі рускага і польскага, вялікадзяржаўнага шавінізму ў пэўнай часткі людзей маглі панаваць ілюзіі, што ўсё ж можна здабыць сабе сапраўднае шчасце ў палітычным саюзе ці з Польшчаю ці з Расіяй, таму пра пільную неабходнасць здабыцця Беларуссю поўнай дзяржаўнай незалежнасці яму яшчэ не раз даводзілася пісаць і гаварыць. Не абмінуў гэтага і ў напісаным у 1919 годзе артыкуле "Незалежная дзяржава і яе народы", папярэджваючы чытачоў, што "кожная... дзяржава, якая на рахунак чужых зямель хоча пашырыць сваё панаванне, ніколі не будзе спрыяць для народа гэтых забраных зямель. І якімі прыгожымі ні прыкрываліся б словамі вялікадзяржаўныя нацыі, што ў іх ёсць ці там будзе заведзенае нейкае раўнапраўе для ўсіх нацыянальнасцей, — усё гэта будзе абманам".

Варта ўважліва ўчытацца ў артыкул "За цэласць Бацькаўшчыны", у якім ёсць такія павучальныя радкі: "...перад намі ёсць толькі адна дарога: цвёрда стаяць на грунце нашай дзяржаўнасці. З гэтай дарогі беларусы не павінны, не маюць права сысці ні на адзін момант... Беларусь... можа шукаць апору ў суседзяў хаця б цаной дзяржаўнага саюзу з тым ці іншым паміж іх. Але і робячы саюз, падпісваючы тыя ці іншыя ўмовы, Беларусь павінна рабіць гэта паводле вольнай волі сваёй, павінна выступаць як непадзельная суверэнная дзяржава..."

*

Больш як дзевяноста гадоў таму малады, яшчэ мала каму вядомы Іван Луцэвіч напісаў у Пецярбургу артыкул "Ці маем права выракацца роднай мовы" (1910). Выракаліся ж яе многія, хто закончыў чужацкамоўныя навучальныя ўстановы і пайшоў на службу. Таму, сцвярджаецца ў артыкуле, "асталіся мы на самым апошнім месцы, ніжэй парога, паміж усіх чыста славянскіх народаў; асталіся мы, як аблудныя авечкі, без пачуцця, без веры ў новую светлую будучыню". Да якой гэта вялікай нацыянальнай катастрофы прывядзе беларусаў далейшае выдрачэнне роднай мовы, Купала вельмі добра ведаў і таму хацеў як-небудзь засцерагчы, абразуміць іх. Ну хаця б і такімі словамі: "Самы важнейшы і непераломны закон жыцця — гэта людская мова, праз каторую чалавек стаў найвышэйшай ад усяго стварэння пад сонцам. (...) мова якога-небудзь народа ёсць для яго і скіпетрам, і каронай, яго нічым не апаганенай аздобнасцяй. (...) Праз памяць на магільныя насыпы і крыжы, пад якімі бясчасна змарнеўшыя ў няволі спяць нашы дзяды і прадзеды, праз памяць на сваіх матак, каторыя нас сваёй грудзёй ускармілі, — выракацца роднай мовы не маем права".

Многія прыслухаліся да гэтых прароцкіх слоў. Сцвярджаць падобнае можна таму, што ў беларускай мовы ўсё больш і больш знаходзілася адданых прыхільнікаў, асабліва сярод настаўнікаў, якія ніяк не хацелі мірыцца з тым, што не яе не выкарыстоўваюць ва ўсіх тыпах навучальных устаноў краю. Але міналі гады, змяняліся да горшага абставіны. Колькасць шчырых прыхільнікаў беларускага слова асабліва рэзка стала змяншацца ад часу правядзення камуністычнай партыяй варожай для ўсіх народаў СССР палітыкі на збліжэнне і зліццё іх культур і моваў. Спыніць бяздумнага недарэчнага выдрачэння людзей ад матчынага слова ўдалося толькі на хвалі чарговага беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. Зараз жа толькі зрэдку пачуеш роднае слова ў грамадскім месцы, і мала якая "матка, кормлючы дзіцянё сваёй грудзёй, перадае" яму гэты "найсвяцейшы скарб", бо і сама не валодае ім. Зрэшты, і сямейнага беларускамоўнага асяроддзя яшчэ недастаткова, каб дзеці добра ведалі родную мову. Для гэтага трэба, каб ёю карысталіся яны ў выхаваўчых і навучальных установах, у сваёй штодзённай практычнай дзейнасці. Але ж... Рэдкай з'явай стала выкарыстанне беларускай мовы і ў візуальным афармленні нашых населеных пунктаў. У такіх варунках валодаць ёю аказваецца занадта цяжкай справай. Таму і не падуладна вялікай колькасці сённяшніх беларусаў прытрымлівацца разумнай парады любімага песняра: "...выракацца роднай мовы мы не маем права". Каб такога не назіралася, трэба карэнным чынам мяняць моўную палітыку.

*

Янка Купала ўсё жыццё з зайздросным аптымізмам верыў у стваральную здольнасць народа, спадзяваўся, што ён ніколі не дазволіць сабе растварыцца ў чужой культурна-моўнай стыхіі. Гэты аптымізм пачаў зараджацца ў яго на самым заранку літаратурнай дзейнасці. У напісаным у 1913 годзе артыкуле "Чаму плача наша песня?" чытаем: "...не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ, як адзін к новаму, светламу жыццю..." І такое сям-там назіралася, а вось набыць вялікую моц шмат што замінала яму. Як вядома, у час, калі да актыўнай нацыянальна-культурнай, пісьменніцкай дзейнасці далучыўся Купала, наша Бацькаўшчына зведвала страшэнны дэфіцыт у інтэлігентных сілах, асабліва ў галіне мастацкай творчасці. Тлумачылася гэта не толькі адпаведнай дзяржаўнай палітыкай, але і імкненнем многіх таленавітых ад прыроды людзей працаваць на тую культуру, дзе можна здабыць найбольшую вядомасць. Яго ніколькі не радавала, што беларускага паходжання Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля і шмат іншых, "дзякуючы запанаваўшай у нас чужой культуры, апяялі... характво" радзімы "ў незразумелых для беларуса песнях.

(...) цяперашняя краёвая "польская" інтэлігенцыя нічога супольнага з народам тутэйшым мець не хоча. Частка ж невялікая інтэлігенцыі, каторая прыйшла да нас з Расіі, таксама глядзіць на нас як на матэрыял, добры для пераварачвання на свой капыл. Такім парадкам, людзей светлых, шчыра адданых нашай старонцы і нашаму народу, мы не мелі..."

Вельмі рана Купалу стала вядомым, якой вялікай перашкодай да абуджэння беларускага народа да актыўнай самабытнай культурнай дзейнасці з'яўлялася адсутнасць у яго сапраўднага нацыянальнага тэатра. Украінцы намнога раней за нас зразумелі ролю апошняга і ўжо на пачатку XX стагоддзя дамагаліся тут пэўнага поспеху. Вось чаму гэтая праблема так непакоіла ўсю кагорту нашых нацыянальных адраджэнцаў. У цяжкім для Бацькаўшчыны 1915 годзе, калі ўсё бліжэй падыходзіла да яе межаў лінія нямецка-расійскага фронту, Купалу ўдалося пабыць у Вільні на аперэце "Залёты" (словы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, музыка М. Кімонт) у выкананні Беларускага музычна-драматычнага гуртка. Гульнёй артыстаў застаўся задаволеным, але толькі не іх беларускай мовай. У спецыяльна прысвечаным спектаклю артыкуле пісаў: "...апрача двух-трох артыстаў, аб іншых трудна было падумаць, што іграюць беларусы і па-беларуску са сцэны гавораць. Бедная ты, мова беларуская, як цябе людзі не ўмеюць шанаваць!" Не сумняваюся, што гэтыя словы паўтарыў бы паэт і сёння, пачуўшы, як каверкаюць беларускую мову многія артысты тэатраў, журналісты тэлебачання і радыё, ірваў бы валасы на галаве, прысутнічаючы на юбілейных вечарах артыстаў беларускамоўных тэатраў, калі яны вядуць гутарку з аўдыторыяй толькі па-руску. На гэтай жа мове бальшыня з іх піша і свае мемуары. Словам, усё не так, як меў спадзеў на тэатральныя калектывы Купала.

*

Так сталася, што Янка Купала не вырас у спрактыкаванага педагога-прафесіянала. Зразумела, не меў перад сабою такой мэты. Але як арганізаваць дзейнасць сістэмы народнай адукацыі, каб яна служыла нацыянальным інтарэсу, ведаў, мо, як ніхто іншы. Каб даць аб'ектыўную ацэнку тагачаснай складанай сітуацыі, Купала прапанаваў грамадству задумацца над такімі пытаннямі: "Хіба можа цёмны беларускі абывацель пажадаць беларускае школы, калі ён не ведае, ці прынясе яна яму карысць! Хіба можа ён адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль толькі можна было?" Многія нацыянальна-самасвядомыя беларусы разам з паэтам адказвалі на пастаўленыя пытанні "Не". Каб карэнным чынам змяніць сітуацыю на карысць беларусаў, ён быў думкі, што трэба ствараць толькі такія школы, якія маглі б "прышчапляць вучням любасць да роднага краю, развіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і рыхтаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры. Трэба ж, урэшце, уцяміць, што тут не Расія і не Польшча, а Беларусь, каторая не хоча ніякіх плебісцытаў, накіданых ёй сёння адным, а заўтра другімі..."

Карыстаючыся амаль поўнай незапатрабаванасцю беларускай мовы ў грамадскім жыцці, нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці карэннага насельніцтва краіны, вельмі лёгка дамагчыся згоды людзей будаваць нашу сістэму народнай адукацыі на рускай культурна-моўнай аснове. Хапае і довадаў, каб адвесці маладасведчаных у пытаннях народнай адукацыі людзей ад думкі пра неабходнасць стварэння і развіцця беларускай нацыянальнай вышэйшай школы. З гэтым у нас поўны застой. Не маючы аніводнага нацыянальнага універсітэта, Беларусь на фоне сусветнай практыкі, не кажучы ўжо пра еўрапейскую — працягвае выглядаць "белаю варонаю".

*

Моцна хвалявалі Купалу сур'ёзныя і працяглыя непаладкі ў нашым царкоўна-рэлігійным жыцці, асабліва выкарыстанне чужых для беларусаў моваў: рускай — у праваслаўных, польскай — у каталіцкіх храмах. Высокае духавенства выкарыстоўвала гэта ў якасці падставы, каб першую катэгорыю вернікаў адносіць да рускай нацыянальнасці, другую — да польскай. Нягледзячы на абсалютную абсурднасць

такога падыходу да вызначэння нацыянальнай прыналежнасці беларусаў, пэўная частка іх і сапраўды пачынала лічыць сябе за рускіх ці за палякаў. Падобнае этнічнае раскраданне беларусаў у найбольшай ступені назіралася на сумежных з рускімі і польскімі губернямі. Каб унікнуць шкоднага падзелу, паэт звяртаецца да народа з такімі словамі: "Помніма, братцы, ці мы каталікі, ці мы праваслаўныя, — мы беларусы, а Бацькаўшчына наша — Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю".

І ўсё ж мяшалі і мяшаем па сённяшні дзень.

*

Напісанае мною вышэй — гэта далёка не ўсе запаветы Купалы свайму роднаму народу. Але, як бачым, і яны не знайшлі так жаданага і неабходнага ўвасаблення ў нашым жыцці. Не слухаем свайго Настаўніка. А трэба было б слухацца. Дый не толькі нам, але і нашым суседзям. Звароты паэта да іх не страцілі сваёй правамернасці і пасёння. Вось адзін з іх у апублікаваным у 1919 годзе артыкуле "Торжышча": "Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці..."

І ўсё ж нашай палітычнай незалежнасці найбольшую пагрозу прычыняе не вонкавы, а ўнутраны фактар. Праціўнікам дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, яе культурна-моўнага жыцця на ўласным падмурку ўдалося пахіснуць веру вельмі многіх у магчымасць дасягнення прыстойнага чалавечага шчасця на роднай зямлі. Не да канца ўпэўнены ў рэальнасці купалаўскага прадбачання Беларусі як палітычна незалежнай, этнічна самабытнай нават шмат хто і з інтэлектуальнай эліты... Час гэтак шпарка ляціць, што не заўважым, як прыйдзе і яго 125-гадовы юбілей. І як хацелася б, каб пры такой нагодзе ў нас засталося намнога менш нявырашаным з таго, за што сёння даводзіцца прасіць прабачэння ў Янкі Купалы.

Леанід **ЛЫЧ**, доктар гістарычных навук, прафесар /ЛіМ/

*******************************************************************

# Што такое Саюз беларускіх патрыётаў?

Адным са сведчанняў незгасальнай ідэі адраджэння і незалежнасці нашай дзяржавы быў Саюз беларускіх патрыётаў - падпольная маладзёвая арганізацыя, якая дзейнічала на поўначы Міншчыны і захадзе Віцебшчыны.

Увосень 1944 года, калі фронт ужо адсунуўся да Віслы, у Глыбокім і Паставах былі адчыненыя педагагічныя вучылішчы. Набіралі туды хлопцаў і дзяўчат, якія перад тым падчас фашысцкай акупацыі вучыліся ў Пастаўскай настаўніцкай семінарыі або ў беларускіх школах, дзе настаўнікі-энтузіясты вялі патрыятычнае выхаванне - праз лекцыі па беларускай гісторыі і літаратуры, гурткі мастацкай самадзейнасці. Трапляючы ў савецкія педагагічныя вучылішчы, маладыя людзі сустракалі зусім іншае: варожасць да ўсяго беларускага і татальную русіфікацыю.

Найбольш свядомыя навучэнцы пачалі гуртавацца, што нарэшце прывяло да ўтварэння ў педвучылішчах увосень 1945 года нелегальных патрыятычных груп, якія затым аб'ядналіся ў СБП. Перад бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня" моладзь прымала прысягу: "Я, беларус (імя і прозвішча), уступаючы ў Саюз беларускіх патрыётаў, прысягаю перад Бацькаўшчынай і Беларускім Народам, што заўсёды буду верны ідэалам Свабоды і Незалежнасці Беларусі. Калі ж па слабасці сваёй або ліхім намеры я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, няхай пакарае мяне Бог ганебнай смерцю здрадніка Радзімы".

Менавіта свабода і незалежнасць нашай краіны былі галоўнай мэтай дзейнасці гэтай арганізацыі. Яе сябры займаліся самаадукацыяй і прапагандай сваіх поглядаў сярод прыяцеляў і знаёмых, пашыралі шэрагі аднадумцаў у мясцовасцях, куды траплялі на працу пасля заканчэння вучобы. Рыхтаваліся дзейнічаць не толькі словам - сярод падпольшчыкаў праводзілася таксама і вайсковая падрыхтоўка.

Не маючы практыкі падпольнай работы, без падтрымкі сталых людзей і сувязяў з іншымі нелегальнымі арганізацыямі Беларусі СБП быў асуджаны на правал (тым больш што ў яго шэрагі ўбіўся правакатар). Арышты пачаліся ў лютым 1947 года. Затым былі допыты з запалохваннямі, здзекамі, катаваннямі. Летам і восенню 1947 года, а таксама ў наступным годзе адбыліся судовыя працэсы - у Мінску і Полацку.

Кіраўнікоў Глыбоцкай (Васіль Мядзелец) і Пастаўскай (Мікола Асіненка) груп, а таксама найбольш актыўных сяброў (Валянцін Лагунёнак і Алесь Юршэвіч) ваенны трыбунал асудзіў да расстрэлу, які пазней замянілі на 25 гадоў зняволення. Такія ж тэрміны зняволення атрымалі Янка Бабіч, Пётра Спіркові, Тарэнць Еўдакімаў, Алеся Умпіровіч.

Рэшту сяброў асудзілі пераважна на дзесяць гадоў канцэнтрацыйных лагераў (Алесь Адамовіч, Алесь Амельяновіч, Ніна Асіненка, Віктар Бабіч, Марыя Бабіч, Ангеліна Бароўка, Іван Бароўка, Алена Барсук, Ларыса Барсук, Тамара Барсук, Альберт Бацяноўскі, Леў Бялевіч, Алесь Дзікі, Лявон Казак, Сымон Касарэўскі, Гардзей Кліманскі, Мікола Конан, Людміла Краснадубская, Павел Лапушынскі, Уладзімір Лысёнак, Алена Мацук, Ліда Несцяровіч, Мікола Пачопка, Юстын Протас, Янка Рымдзёнак, Стась Савік, Яўген Сідаровіч, Віктар Стахоўскі, Алег Табола, Антось Фурс, Мікола Церашкевіч, Міхась Шуман, Павел Шуман). Розныя тэрміны зняволення атрымалі і некаторыя бацькі пакараных - "за недоносительство" на ўласных дзяцей.

Не ўсе трапілі ў рукі эмгэбістаў. Некаторым удалося перабрацца цераз мяжу ў Польшчу, некаторыя пайшлі ў лес, каб збройна адстойваць свае ідэалы. На Пастаўшчыне і Мядзельшчыне апавядаюць, як нейкі юнак на лясным хутары, адстрэльваючыся ад эмгэбістаў, абгарнуўся бел-чырвона-белым сцягам і апошнюю кулю пасла́ў сабе ў скронь. Ці не быў гэта колішні сябар Саюза беларускіх патрыётаў?

Далёка не ўсе засуджаныя патрыёты вярнуліся на Бацькаўшчыну. Але ўсюды і заўсёды яны заставаліся вернымі прысязе. Алесь Дзікі, паміраючы, прасіў выбіць на надмагіллі: "Хай сняцца сны аб Беларусі".

Няма сумневу, што ў незалежнай Беларусі нацыянальна-патрыятычныя рухі паваеннага часу - віленскі, глыбоцка-пастаўскі, слонімска-баранавіцкі, навагрудскі, мядзельска-смаргонскі ды іншыя - будуць даследаваць навуковыя інстытуты. Пра нашых, сёння яшчэ амаль невядомых, герояў напішуць кнігі, здымуць кінафільмы, створаць мастацкія палотны. Іхнімі імёнамі назавуць вуліцы і плошчы гарадоў і мястэчак. Ацалелыя ветэраны вызвольнага змагання атрымаюць найвышэйшыя ўрадавыя ўзнагароды са знакам "Пагоні".

Імёны беларускіх патрыётаў, якія за савецкім часам аддалі жыццё ў змаганні за незалежнасць Бацькаўшчыны, замоўчваліся акупантамі ды іхнімі памагатымі. І толькі апошнім часам яны вяртаюцца з забыцця.

Расціслаў Лапіцкі нарадзіўся 1 верасня 1928 года ў вёсцы Касута на Віленшчыне ў сям'і праваслаўнага святара. Падчас Другой сусветнай вайны Лапіцкія апынуліся ў Кабыльніку на Мядзельшчыне. Тут у 1944 годзе Расціслаў упершыню ўлучыўся ў патрыятычны рух, запачаткаваны на Віленшчыне навучэнцамі Віленскай беларускай гімназіі і духоўнай семінарыі. Пры арыштах падпольшчыкаў таксама быў зняволены - за перадрукоўку і распаўсюджванне ўлётак. Як непаўналетні, ён атрымаў тры гады турмы, старэйшы брат Алег - дзесяць.

Вярнуўшыся праз год па амністыі дахаты, юнак спачатку вучыўся ў Кабыльніку, а затым у Мядзельскай дзесяцігодцы. У Мядзеле Расціслаў Лапіцкі і разгарнуў працу па стварэнні новай нелегальнай арганізацыі. Актыўнымі яго памочнікамі сталі Факунда Несцяровіч з Юшкавічаў і Язэп Качарга з Качарог. Сваю пазіцыю Лапіцкі выказваў з юначым максімалізмам: "Калі ведаеш, што ў гэтай хаце заначуе вораг Беларусі - спалі хату, калі хлеб з гэтай нівы пойдзе ворагу Беларусі - знішчы яе".

Увосень 1949 года аўдавелая маці перабралася з сынам да родзічаў у Смаргонь. І там юнак пачаў шукаць тых, каму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны. Назбіралася паўтара дзесятка аднадумцаў. Расціслаў Лапіцкі - рослы, прыгожы, шчодра адораны прыроднымі задаткамі, з вострым розумам і палкім характарам - быў несумненным іх лідэрам. Пачалі з улётак. У вёсачцы над Вяллёй наладзілі невялікую друкарню, і неўзабаве ў горадзе, нават на будынках райкама і міліцыі, забялелі расклееныя пракламацыі, і кожная канчалася заклікам: "Смерць Сталіну!"

Высачыць патрыётаў, не абазнаных у канспірацыі, было няцяжка. Дый сам Расціслаў не хаваў сваіх перакананняў, асабліва на школьных уроках. Пад канец года яго арыштавалі. Тыднёвы допыт не вырваў прызнання, і хлопца часова выпусцілі з вязніцы. Паводле пастановы арганізацыі ён пакінуў Смаргонь і таемна вярнуўся на Мядзельшчыну. Але і там цяжка было знайсці надзейны прытулак, бо людзей апанаваў страх - мядзельскіх падпольшчыкаў ужо выдаў здраднік, і чуткі пра арышты шырока разышліся па раёне. У Кабыльніку знясіленага і хворага Расціслава зноў схапілі эмгэбісты. Гэтым жа часам ужо ішлі масавыя арышты і ў Смаргоні.

На допытах юнакоў і дзяўчат катавалі бязлітасна. Хто вярнуўся жывым з канцлагераў, пасля казаў блізкім, што іголкі пад кіпці было не самае страшнае.

15 чэрвеня 1950 года ў Маладзечне адбыўся суд над патрыётамі - пераважна вучнямі 7-10 класаў Смаргонскай і Мядзельскай школ, некаторымі навучэнцамі з Мінска. Іх абвінавачвалі не толькі ў "вражеской пропаганде", але і ў здзяйсненні тэрарыстычных актаў. Сведчанні Расціслава Лапіцкага на судзе былі прамовамі-абвінавачаннямі рэжыму. Ён гаварыў, як бальшавікі выгналі яго сям'ю зімою з хаты, як яны зневажаюць за веру ў Бога, зачыняюць цэрквы і касцёлы, як прыніжаюць беларускую мову, як душаць людзей непамернымі падаткамі, даводзячы да самагубства.

Большыню падпольшчыкаў засудзілі на 25 гадоў. Лапіцкага ж і Несцяровіча як кіраўнікоў арганізацыі прысудзілі да кары смерцю. Расціслаў адмовіўся прасіць памілавання. Ён з абурэннем заявіў: "Рабеце сваю чорную справу, мне вашае ласкі ня трэба - можаце мяне забіваць. А я, колькі жыць буду, гэтулькі буду вас усіх ненавідзець і буду вам шкодзіць праз увесь час!"

Пасля Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі (пераважна Заходняй) пачалі ўзнікаць нелегальныя патрыятычныя арганізацыі як пратэст свядомай беларускай моладзі супраць гвалтоўнай русіфікацыі, уціску нацыянальнай культуры і мовы, панавання навалачы з усходу.

Увесну 1946 года такая арганізацыя з канспіратыўным назовам "Чайка" з'явілася ў Слоніме. Яе заснавалі ў асноўным настаўнікі, учарашнія школьнікі. Арганізацыя шпарка расла. Згодна з умовамі канспірацыі, кожны з сяброў не павінны быў ведаць больш за шэсць чалавек з падполля. У сваю чаргу кожны з удзельнікаў ствараў толькі яму вядомую групу прыхільнікаў руху. Падобныя арганізацыі і суполкі ствараліся тым часам у Баранавічах, Берасці, Навагрудку ("Саюз вызвалення Беларусі"), Ганцавічах, Жыровічах ды іншых гарадах і мястэчках. На стадыі арганізацыйнага афармлення знаходзіліся суполкі ў Мінску і Гродне.

Улетку 1946 года падпольшчыкі Слоніма, Баранавічаў, некаторых іншых гарадоў аб'ядналіся і стварылі Цэнтр беларускага вызваленчага руху. У яго склад увайшлі Васіль Супрун (кіраўнік Цэнтра), Міхась Агейка, Алесь Барэйка, Мікола Макарэвіч, Міхась Ракевіч, Уладзімір Салавей. На пачатку 1947 года рух перакінуўся на Маладзечанскую і Пінскую вобласці. Узніклі абласныя структуры - гэтак званае Першае кола, іх узначалілі: Алесь Барэйка (Баранавіцкая вобласць), Мікола Макарэвіч (Берасцейская), Сяргей Яноўскі (Маладзечанская), Мікола Ляскавец (Пінская). Абласным структурам падначальваліся раённыя цэнтры падполля (Другое кола), якія ў сваю чаргу гуртавалі першасныя суполкі (Трэцяе кола). Адныммі з найбольш арганізаваных і законспіраваных былі групы на Слонімшчыне.

Мэтамі, якія ставілі перад сабою патрыёты, былі абарона нацыянальных правоў і свабод, дасягненне дабрабыту народа, захаванне і развіццё роднай культуры і мовы і ўрэшце - пабудова незалежнай беларускай дзяржавы. Палітычны кірунак руху - сацыял-дэмакратыя. Сродкі дзейнасці - агітацыя і прапаганда пераважна ў асяроддзі моладзі дзеля абуджэння грамадзянскай свядомасці і нацыянальнай годнасці народа.

З дапамогай правакатараў большына падпольных груп была выкрытая органамі дзяржбяспекі. Цэлае лета 1947 года вяліся арышты. Затым па Цэнтры беларускага вызваленчага руху адбылося некалькі закрытых ваенных трыбуналаў у Баранавічах і Мінску. Беларускіх патрыётаў ашальмавалі як "фашыстаў" і жорстка пакаралі. Некаторыя былі расстраляныя, многія загінулі на савецкай катарзе. Акрамя памянёных кіраўнікоў Цэнтра былі асуджаныя: Кастусь Альшэўскі, Лявон Баговіч, Алесь Гардзейка, Хведар Даўгач, Мікола Ждановіч, Алесь Жукоўскі, Антось Кабак, Леакадзія Кавальчук, Генадзь Казак, Міхась Капціловіч, Уладзімір Кернога, Вячаслаў Краскоўскі, Лазіцкі, Яўген Лішко, Лысенка, Лях, Самсон Пярловіч, Сапежка, Майсей Стома, Міхась Чыгрын, Адам Шабоцька, Алесь Шапавал ды іншыя, прозвішчы якіх яшчэ трэба высвятліць.

Міхась Чарняўскі, Эрнест Ялугін - /Народная Воля/

*******************************************************************



# Вясна ў замку

Мікалай ЛІТВІНАЎ /Зьвязда/

Люблю бываць у Нясвіжы. Гэты старажытны беларускі гарадок нечым прыцягвае да сябе. Неяк хораша становіцца на душы, калі ў чарговы раз завітаеш сюды. А праз нейкі час зноў цягне паблукаць па знаёмых вулках, дзе гісторыю, напэўна, ужо нікому не ўдасца «перакрыць» сучаснасцю. Нездарма Караткевіч называў Нясвіж горадам-помнікам. Такім чынам ён акрэсліў тое месца, якое ў сэрцы кожнага беларуса займаюць гэтыя мясціны, перадаў адчуванне, якое з'яўляецца ад чарговага спаткання з ім. Адчуванне Радзімы. Рэдка ў якім горадзе пашчасціць пабачыць адразу столькі сімвалаў Беларусі.

Вельмі важна захаваць усё гэта харАство. Дзеля дзяцей і ўнукаў, дзеля будучыні. Але якім чынам? Відавочны шлях — праз развіццё айчыннага турысцкага прадукту. Турызм сёння — адзін з найбольш эфектыўных бізнэсаў у свеце. На гэтую сферу зараз прыпадае 36 працэнтаў гандлю паслугамі і 10 — сусветнага экспарту. Усё больш людзей аддаюць перавагу не «пляжнаму», а культурнаму і экалагічнаму турызму. Тэндэнцыя развіцця галіны спрыяльная для нашай дзяржавы. Не выкарыстаць такія магчымасці нельга.

— Паводле афіцыйнай статыстыкі, наш горад штогод наведваюць каля 60 тысяч турыстаў (неафіцыйна лічбу можна смела павялічваць утрая), — кажа намеснік старшыні Нясвіжскага райвыканкама Васіль Грышчанка, — прыкладна 1,5—2 тыс. чалавек — замежныя госці. Гэта вельмі перспектыўны напрамак дзейнасці. Мы добра разумеем, што за турызмам — будучыня. Аднак трэба стварыць па-сапраўднаму прывабны прадукт. Тады можна разлічваць на добрыя вынікі. Адна з асноўных праблем — недахват адпаведнага жылля для турыстаў. Павінна быць не менш чым 10 гасцініц рознага ўзроўню — і танныя, і апартаменты экстра-класа.

У Нясвіжы ўжо пачалі рэалізоўваць некалькі цікавых праектаў у сферы турызму. У іх удзельнічаюць сумесныя прадпрыемствы, грошы ўкладвае як беларускі бок, так і расійскія, нямецкія, польскія і літоўскія інвестары. У межах аднаго з праектаў плануецца пабудаваць невялікі гасцінічны цэнтр з прыстойным рэстаранам, сувенірнымі крамкамі, сучаснай аўтастаянкай. Другі буйны аб'ект — «турысцкая вуліца». Яна злучыць ратушу і касцёл. Пакуль не вырашана канчаткова, якой будзе «стрыт». Адны прапаноўваюць зрабіць прамую вуліцу, другія — адбудаваць яе ў стылі маньерызму, каб можна было ўволю паблукаць і памарыць. З 3 ліпеня адчыніць дзверы і гарадская ратуша. Плануецца, што ў зале, дзе калісьці збіралася на пасяджэнні мясцовая рада, будуць праходзіць цырымоніі кшталту рэгістрацыі шлюбаў, праводзіцца прэс-канферэнцыі, падпісвацца важныя дагаворы. Тут вісяць партрэты князёў Радзівілаў, знаходзяцца гарадскія флаг і герб. Сама «аура» настройвае на ўрачысты лад...

Праз пэўны час Нясвіж стане адным з пунктаў у «залатым коле» Беларусі. Рэалізаваць гэта намечана ў межах свабоднай эканамічнай зоны «Нясвіж—Мір», якая будзе створана. У СЭЗ увойдуць шэраг раёнаў (толькі ў Мінскай вобласці — 6). Маршрут ад Мінска да Гродна будзе праходзіць праз Заслаўе—Валожын—Смаргонь. Назад у сталіцу турысты паедуць на Ліду—Навагрудак — Карэлічы—Мір—Нясвіж—Стоўбцы—Дзяржынск. Гэта «кола», па якому людзі будуць падарожнічаць на працягу некалькіх дзён. Неабходна стварыць камфортныя ўмовы для іх пражывання, наладзіць увесь комплекс патрэбных паслуг. Прыцягнуць увагу інвестараў магчыма за кошт ільготнага падаткаабкладання, выгадных прэферэнцый. Ужо вызначаны мяркуемыя рэзідэнты СЭЗ «Нясвіж—Мір». Робіцца тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне, на падставе чаго будуць рыхтавацца неабходныя фінансавыя дакументы. «Турысцкая» свабодная эканамічная зона будзе непадобная на ўсе СЭЗ, якія існуюць зараз. Галоўная задача «залатога кола» — прыцягненне валюты. Менавіта на гэта робіцца асноўная стаўка.

Не застаецца ўбаку і дзяржава. Шмат сродкаў было ўкладзена ў рэстаўрацыю гарадской ратушы. Ці не галоўны аб'ект увагі — Нясвіжскі замак. Плануецца, што яго рэстаўрацыя будзе завершана ў жніўні 2006 года. На гэта павінна быць выдаткавана каля 65 мільярдаў рублёў. Паводле слоў Васіля Грышчанкі, фінансаванне — традыцыйна «цяжкае» пытанне. У адпаведнасці з праектна-каштарыснай дакументацыяй на выкананне работ па рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля сёлета неабходна 16 мільярдаў рублёў. «Рэальна» ж выдзелена з рэспубліканскага бюджэту 3,8 млрд. руб., што адпаведным чынам паўплывала на аб'ём работ. У першую чаргу плануецца давесці да ладу ўваходную двухпавярховую арку. Тут раней былі архіў і бібліятэка. Робіцца чорны ход (у перспектыве будзе перакідны) і вартавая вежа. Вядуцца работы па разборцы пажаранебяспечных унутраных канструкцый. З замка выносіцца будаўнічае смецце (па праекту яго павінна быць вывезена каля 20 тысяч «кубоў»). Генеральны падрадчык — Лідскі будаўнічы трэст №19. Гэта арганізацыя выйграла тэндар на правядзенне работ. Кожны тыдзень праходзяць пасяджэнні рэспубліканскага штаба па рэстаўрацыі замка. Так што гэтае пытанне знаходзіцца пад самым пільным кантролем улады. Што ўсяляе пэўны аптымізм наконт выканання неабходных работ.

Нам крыху не пашанцавала — якраз падчас прыезду ў замак «зарадзіў» халаднаваты веснавы дожджык. Так што былая рэзідэнцыя Радзівілаў глядзелася менш унушальна. Ды яшчэ і «рамонт» не ствараў належнага настрою. Але ў экскурсійным бюро «рэгістравалася» чарговая група турыстаў: відаць, надвор'е — не перашкода для сапраўдных аматараў даўніны. Кошт наведвання для дзяцей складае 500 рублёў, для студэнтаў — 800, для дарослых — 1,5 тыс. руб., а для замежных турыстаў — 5 тысяч рублёў. Праводзяцца таксама экскурсіі. За паўтары гадзіны вам падрабязна раскажуць (і пакажуць) замак і касцёл. У трохгадзінную экскурсію ўваходзяць, бадай, усе гарадскія адметнасці. Будынак экскурсійнага бюро — невялікая «хатка». Магчыма, будучыя інвестары зробяць нейкі іншы «варыянт». Пакуль жа прыходзіцца задавальняцца тым, што ёсць. Тым не менш, паглядзець на Нясвіжскі замак (ды і ўвогуле на ўсе гарадскія «фішкі») прыязджаюць многія. Паводле слоў работнікаў экскурсійнага бюро, тут былі наведвальнікі з 38 краін. «Нават з тых дзяржаў, пра існаванне якіх мы нават і не здагадваліся», — з усмешкай кажуць экскурсаводы. Так што цікаўнасць да замка вельмі вялікая.

— Яно і павінна так быць, — лічыць вартаўнік замка (як гучыць! — Аўт.) Іван Іосіфавіч Фянько. — Людзей прыцягвае велічнасць і прыгажосць. Я, напрыклад, у замку пяцідзесятую вясну сустракаю, і дасюль не зразумеў усіх яго сакрэтаў. Гэта вялікая таямніца, шкада толькі, што зараз не вельмі прывабна выглядае.

Чарговая вясна старога замка. Аб чым ён марыць пад красавіцкім даджом — хто ведае...

Нясвіж—Мінск.

**************************************************

# Іван ПАШКЕВІЧ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў:

"Спадзяюся, з цягам часу мы прымем заканадаўчы акт, аналагічны таму, які Украіна прыняла зараз, і такім чынам замацуем беларускую мову на беларускай інфармацыйнай прасторы"

Неяк паэт Алесь Разанаў сказаў: "У кожнага народа ёсць хаця б адзін геніяльны літаратурны твор, і гэты твор - ягоная мова".

Другая, не менш вядомая асоба, якая, дарэчы, Разанава не чытала, бо гадавалася "на вершах Быкава", катэгарычна выказалася, што ў свеце толькі дзве вялікія мовы - "русская и английская" (дзіўна, што яшчэ ангельскую ўзгадаў...), а што датычыць мовы беларускай, дык яна, на ягоны глузд, вялікім думкам не пасуе, на ёй проста немагчыма выказаць што-небудзь вялікае.

А герой аднаго анекдота, запаўняючы анкету, на пытанне "Якімі мовамі валодаеце?", напісаў: "Трыма: рускай, камандзірскай і мацернай". Яго паправілі: "Руская, камандзірская і мацерная - гэта адна мова".

Дык вось зараз гэтую "трыадзіную" мову пазбавілі "грамадзянства" на Украінскім тэлебачанні. Цяпер на ўкраінскай мове загавораць і расійскія тэлеканалы, што вяшчаюць на Украіну. Новы парадак прадугледжвае таксама і абавязковы дубляж на адзіную дзяржаўную мову ўсіх фільмаў, якія трапляюць на ўкраінскі тэлеэкран. Выключэнне зроблена хіба што для некаторых класічных твораў савецкага кінамастацтва.

Як няцяжка было прадбачыць, чарговы крок Украіны на шляху ўмацавання свайго палітычнага і культурніцкага суверэнітэту выклікаў нервовую рэакцыю у Маскве. Афіцыйныя расійскія СМІ, прынамсі - урадавыя тэлеканалы, падалі навіну як праяву русафобіі і наезд на правы чалавека. Згодна з гэтай логікай, права на ўласную мову ёсць толькі ў рускага чалавека і толькі руская мова можа лічыцца чалавечай.

Летась я быў ва Украіне і недзе на працягу дзесяці дзён штовечар глядзеў украінскае тэлебачанне. Напачатку ўкраінская мова у "мыладрамах" і трылерах, якія беларусы бачаць выключна ў рускамоўнай версіі, падалася мне не адпавядаючай карціцы на экране. Спрацаваў навязаны нашым тэлебачаннем стэрэатып. Але літаральна праз якую гадзіну на мову не звяртаеш увагі, проста сочыш за сюжэтам. Прызвычаяваешся. Больш таго, нават цікава. І зайздросна, што ўкраінцы могуць сабе такое дазволіць, што нашы браты і суседзі так шануюць сваю мову.

Тое, што для іх проста і натуральна, у нас патрабуе рэвалюцыі у свядомасці. Пры тым, што ў Беларусі нямала людзей, якія віталі б дэрусіфікацыю нашага эфіру, ператтварэнне яго са сродку разбурэння беларускага менталітэту ў чыннік будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы і сцвярджэння духоўных каштоўнасцяў беларускага народа. Прынамсі, такой бачыць ролю электронных СМІ дэпутат Нацыянальнага сходу Іван ПАШКЕВІЧ. Рашэнне ўкраінскіх улад ён пракаментаваў такім чынам:

- Па-першае, агрэсіўную рэакцыю расійскіх СМІ на тое, што тэлебачанне Украіны будзе карыстацца выключна ўкраінскай мовай, а не якой-небудзь іншай, лічу не толькі неэтычнай, але і бязглуздай. Гэта ідзе ад саўковасці, ад тых часоў, калі ўсе жылі чохам пад шыльдай штучнага "савецкага народа" і мусілі аднолькава думаць і на адной мове гаварыць.

Украіна - суверэнная, незалежная дзяржава, а мова тытульнай нацыі - гэта адзін з чыннікаў суверэнітэту. Нацыянальная мова нароўні з афіцыйнай назвай дзяржавы і такімі яе атрыбутамі, як герб і сцяг, з'яўляецца адметным знакам, па якім украінцаў пазнаюць ва ўсім свеце. Наданне гэтаму знаку большай вагі, прэстыжнасці - клопат дзяржавы.

Я быў абураны сюжэтам аднаго з расійскіх тэлеканалаў. Там у з'едлівай форме дэманстравалася, як гучыць украінская мова ў вуснах персанажаў англамоўнага серыялу. Сюжэт быў пабудаваны такім чынам, каб выклікаць смех у пэўнай катэгорыі гледачоў. Яно і насамрэч нязвыкла для рускага вуха, але гэта не падстава абражаць мову чужой краіны. Жарсці вакол Украінскага тэлебачання я лічу правакацыяй пэўных палітычных сіл Расійскай Федэрацыі. З гэтага ж шэрагу і нездаровая цікаўнасць да надуманай праблемы рускіх школ у Латвіі.

Я з жалем канстатую, што, хоць у Беларусі і ёсць тэлеканалы, якія намінальна лічацца нацыянальнымі, але ў нас адсутнічае нацыянальная інфармацыйная прастора. У інтарэсах нашай дзяржавы было б абмежаваць замежны моўны ўплыў на Беларусь. Падабаюцца табе расійскія, ангельскія, нямецкія праграмы - глядзі іх па кабельным тэлебачанні. Спадзяюся, з цягам часу мы прымем заканадаўчы акт, аналагічны таму, які Украіна прыняла зараз, і такім чынам замацуем беларускую мову на беларускай інфармацыйнай прасторы".

Як кажуць у такіх выпадках, хай бы тыя словы ды Богу ў вушы, а "праваслаўным атэістам" - да выканання.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ. / Н. В./

**************************************************

# Шануйма традыцыі!

Дваццаць першае стагоддзе, чацвёрты год якога мы не без цяжкасцяў даказваем сваю здольнасць забяспечыць устойлівае палітычнае, эканамічнае і духоўнае развіццё краіны, пакуль што нічога добрага не абяцае нам. Праўда, і многія іншыя народы маюць сур'ёзныя праблемы з захаваннем сваёй этнакультурнай самабытнасці. Паводле крайне песімістычных прагнозаў вучоных з сусветным імя на працягу гэтага стагоддзя з этнічнай мапы планеты Зямля знікнуць сотні народаў, прычым і такіх, чыя колькасць дасягае да некалькіх мільёнаў чалавек. Прычына тут відавочная: паглыбленне і пашырэнне працэсаў сусветнай глабалізацыі, якая на сваім шляху паглынала і будзе паглынаць народы, што не ўмеюць ці не жадаюць жыць паводле сваіх нацыянальна-культурных традыцый.

У святле сказанага лагічна вынікае, з якой павагай дзяржава, грамадства павінны ставіцца да тых асяродкаў дзейнасці чалавека, дзе нацыянальная ідэя з'яўляецца альфай і амегай для ўсіх і кожнага. Без перабольшвання, у ролі такога асяродка ўжо не першы год выступае Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішкі Скарыны ў Мінску. Яго гісторыя пачалася з 1991 года, г.зн. у той год, калі закончыў сваё існаванне СССР і яго былым саюзным рэспублікам трэба было выбіраць уласны, часта зусім непадобны адзін да аднаго, шлях нацыянальна-дзяржаўнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця. Апошні з названых складнікаў дзяржаўнай палітыкі і стаў галоўным у навукова-асветніцкай дзейнасці Цэнтра. Яго прасякнутыя бацькоўскім клопатам пра лёс Бацькаўшчыны навукоўцы пад кіраўніцтвам Адама Мальдзіса, а пазней Любові Уладыкоўскай-Канаплянік за гранічна сціслы тэрмін паспелі зрабіць вельмі многае па даследаванні найбольш актуальных пытанняў гісторыі і культуры. Увайшло ў практыку рэгулярнае правядзенне па такіх пытаннях "круглых сталоў", сімпозіўмаў, канферэнцый. Ужо сам факт, што такая аўтарытэтная ў свеце міжнародная арганізацыя як UNESCO, у снежні мінулага года на базе Цэнтра праводзіла навукова-практычную канферэнцыю па праблеме "Міжкультурны дыялог у Беларусі: нацыянальна-культурнае і духоўнае развіццё ва ўмовах глабалізацыі", дазваляе гаварыць па высокі прэстыж гэтай навукова-асветніцкай установы ў вачах прагрэсіўных колаў сусветнай цывілізацыі.

Сёння ў нас застаецца процьма неразвязаных гарачых праблем па стварэнні тытульнай нацыі і ўсіх неабходных умоў для прыстойнага самабытнага этнакультурнага развіцця, якому не пагражала б аніякая глабалізацыя. У нас практычна няма аніводнай дзейснай установы, акрамя Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны, якая займалася б навуковай распрацоўкай дадзенай праблемы. Таму нельга апускаць яго статус да нейкай там лабараторыі хоць і вельмі паважанай у нас вышэйшай навучальнай установы – БДПУ імя М.Танка. Самастойнасць Цэнтра забяспечвала яму належны поспех у працы ад моманту заснавання і павінна быць захавана надалей. Нельга ламаць традыцыі, калі яны апраўдваюцца жыццём.

*Леанід Лыч,*

*доктар гістарычных навук, прафесар*

**************************************************



# Мікола Ермаловіч адкрыў нам праўду

Пачатак 90–х гадоў характарызаваўся спадзяваннямі на нацыянальнае адраджэнне. Мы прагна акуналіся ў цудоўныя глыбіні нашай славутай гісторыі ў творах В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, К. Тарасава, А. Трусава і іншых. Але найбольш моцна ўражвалі хвалюючыя старонкі кніг М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь" і "Па слядах аднаго міфа".

Яны адкрывалі праўду, як у VII стагоддзі славянскія плямёны засялялі нашыя мясціны. Як затым, перамешваючыся з балтамі (карэннымі жыхарамі гэтай зямлі) і асімілюючы іх, узнімалі нашыя продкі магутныя дзяржавы: Вялікае княства Полацкае, а з сярэдзіны XIII стагоддзя – Вялікае княства Літоўскае.

Нарэшце, прага цікавасці да аўтара выдатных гістарычных твораў была шчасліва задаволеная: у адной з тэлеперадач выступаў М. Ермаловіч. Нас ягонае з'яўленне на экране літаральна ашаламіла: аказалася, гэтага цудоўнага вучонага мы часта бачылі ў электрычцы. Ён з Маладзечна амаль штодня ездзіў у Мінск у Нацыянальную бібліятэку, дзе працаваў над тэкстамі старажытных дакументаў і летапісаў. 9 жніўня 1995 года лёс звёў майго сына са знакамітым вучоным зямлі Беларускай. Кароткая сустрэча ўзрушыла і ўразіла на ўсё жыццё. Навуковец проста, шчыра і сціпла расказаў, чаму ён аддаўся вывучэнню нашай мінуўшчыны. – У савецкай гісторыяграфіі, – тлумачыў ён, – сцвярджалася, што ў сярэдзіне XIII стагоддзя, быццам бы, старажытная дзяржава наша была заваяваная Літвой. Але ў гістарычных крыніцах пра такую значную падзею – ні слова! Пра нязначныя, нават пра набегі манголаў у гэты час, – звестак хоць адбаўляй. Чаму так? Пачаў вывучаць летапісы і ўбачыў, што ніякага захопу нашай дзяржавы Літвой проста не было! Гэтая хлусня знарок высмактаная з пальцаў нядобрасумленных гісторыкаў, каб сцвярджаць, што Беларусь была ў літоўскім ярме, і яе Маскоўскае княства, а затым Расійская імперыя вызвалялі з цяжкай няволі. Інакш кажучы, гэтая лухта спатрэбілася гістарычным хлусам, каб апраўдаць захоп нашай Радзімы імператрыцай Кацярынай II. І вось тады і напісаў гістарычныя творы, заснаваныя на старажытных тэкстах, а не на міфах і хітрамудрых выдумках невукаў ад гісторыі.

Калі сын папрасіў даць аўтограф, то Мікола Ермаловіч напісаў: "Шаноўнаму Юрасю Наркевічу з падзякай за яго ўвагу да маёй працы". Сусветна вядомы вучоны дзякуе маладому хлопцу за магчымасць адкрыць для сябе цікавыя глыбіні нашай славутай гісторыі. У гэтых словах падзякі – вялікая сціпласць сапраўды незвычайнага чалавека, мудрага і геніяльнага. А праз пяць год – такая страшная бяда, незваротная страта... Загінуў вялікі сын Беларусі, які мільёнам суайчыннікаў адкрыў вочы на гістарычную праўду. Упэўнены, у сэрцы кожнага беларуса памяць пра Міколу Ермаловіча будзе гарэць шчырай па- дзякай за той грамадзянскі подзвіг, які здзейсніў ён, каб адкрыць Вялікую Праўду нашай Мінуўшчыны.

*Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.*

*********************************************************

# Паміж радкамі

Найбольш актыўная частка беларусаў задаецца пытаньнем - куды ж ідзе краіна? І вось адказаць на пытаньне "Куды ідзе Беларусь?" ці дакладней: "Куды яе хочуць павесьці лідэры апазыцыі?" вельмі грунтоўна паспрабавала афіцыйнае, прэзыдэнцкае, дзяржаўнае тэлебачаньне. На гэтым тыдні стала ў вачавідкі, што Беларусь уступіла ў фазу лёсавызначальных палітычных падзеяў. 11 траўня па Беларускім Тэлебачаньні паказалі дакументальны фільм "Шлях ўнікуды". 13 траўня фільм паўтарыў Першы Нацыянальны тэлеканал. Абодва тэлеканалы - прэзыдэнцкія. У фільме лідэры апазыцыі былі прадстаўлены у абліччы, якое атоесамлівалася са здраднікамі радзімы - паслугачамі гітлераўскіх фашыстаў. Называліся лідэры апазыцыі пятай калёнай, наймітамі расейскіх алігархаў, якія атрымліваюць ад тых грошы каб потым распрадаць усю беларускую маёмасьць і ў прыватнасьці нафтагазавыя прадпрыемствы, хцівымі і сквапнымі раскрадальнікамі замежных грантаў. А Шушкевіча паказалі ў момант калі той казытаў пальцам у носе - значыць лідэры апазыцыі нявыхаваныя - такую выснову рабілі аўтары фільму. Фільм цягнуўся 40 хвілінаў. Па сутнасьці абліччы лідараў апазыцыі, якія бэсьціліся, гэта былі абліччы тых лідараў, якія ў той ці іншай форме заявілі, што яны стануць кандыдатамі ў прэзыдэнты. Таму ўсе развагі беларускіх аналітыкаў пра тое, што гэты паказаны двойчы фільм меў сэнс - падрыхтаваць насельніцтва да парламанцкіх выбараў у зьвяз з рэфэрэндумам - яны, на мой погляд, няпоўныя. Ідзе прафілактычная зачыстка і мажлівых кандыдатаў у прэзыдэнты, што сьведчыць аб тым, што парламанцкія выбары гэта толькі этап, і рэфэрэндум гэта толькі этап да маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў.

Традыцыя бэсьціць апанэнтаў на Беларусі лукашэнкаўскага рэжыму - вельмі трывалая. У 1995 годзе, напярэдадні рэфэрэндуму па мове, беларусам паказалі фільм "Нянавісьць - дзеці хлусьні" сумнавядомага Азаронка. А пасьля правялі рэфэрэндум па мове і заканадаўча стварылі варункі па зьнішчэньню беларускай мовы на Беларусі. На пярэдадні рэфэрэндуму 1996 году па радыё прэзыдэнцкія ідэолагі стагналі: "Няўжо ня ведаюць Багданкевіч з Карпенкай, што на Беларусі падчас апошняй вайны загінуў кожны чацьвёрты? Няўжо ня ведаюць, што Чарнобыль панішчыў людзей? Відаць не! Яны хочуць заліць крывёю краіну і заўтра вывядуць танкі насупраць прэзыдэнцкага палаца і разстраляюць законна абранага прэзыдэнта, як зрабіў гэта Ельцын у Маскве!" Напярэдадні выбараў прэзыдэнта ў 2001 годзе ўвесь год выбаршчыкам круцілі фільмы пра адмоўнае аблічча прэтэндэнтаў на статус кандыдата ў прэзыдэнты. І вось чарговая агітка пра ворагаў беларускага народу.

Рэакцыя на фільм была вельмі нечаканай. Калі ранейшыя фільмы выклікалі пэўную пасіўнасьць з боку дыпламатычных структураў, на гэты раз, я ў прыватнасьці, атрымаў заказ каб гэты фільм перапісаць і даслаць практычна ад усіх амбасадаў якія, па той ці іншай прычыне, не пасьпелі запісаць гэты фільм. А ўсе астатнія пасьпелі і паглядзелі яго па некалькі разоў. Гэты фільм павезьлі прадстаўнікі заходніх амбасадаў у сваі міністэрствы замежных справаў. І самае дзіўнае, што на гэты фільм адрэагаваў нават Хайкэн - кіраўнік місіі АБСЕ. Да гэтага часу быў нябачны і нячутны. Па ціху яны вялі маніторынг, па ціху ладзілі свае прыёмы але - у адрозьненьні ад Віка - Хайкэна не было. Ну, замаскіраваўся, як кажуць. І вось на гэты раз Хайкэн адрэагаваў. Ён зрабіў адмысловую заяву і ацаніў гэты фільм, які назваў: "адкрытым паклёпам на адрас вядучых апазыцыйных палітыкаў". Больш таго - Хайкэн зьвярнуўся да ўладаў, да тэлебачаньня, каб яны прадаставілі мажлівасьць лідарам апазыцыі выказаць свой погляд, паказаць сваё аблічча, паказаць альтэрнатыўны пункт гледжаньня. Хайкэн казаў - "я бачу - гэты фільм неадпаведны як стандартам палітычных праграмаў так стандартам свабоднай, непрадузятай прэзентацыі палітычнага плюралізму". Офіс АБСЕ - заявіў Хайкэн - ацаніў зьмест перадачы як відавочную спробу падарваць палітычную апазыцыю напярэдадні парламанцкіх выбараў. Гэта прыемна чуць, што нават нейтральны Хайкэн заняў так актыўную пазыцыю у абарону дэмакратычных правоў на Беларусі, у абарону лідараў апазыцыі.

Але вось што адбываецца ў асяродзьдзі аналітыкаў. Іх бальшыня лічыць, што змагацца зь беларускім тэлебачаньнем - немажліва. Што ня маючы доступу да беларускага тэлебачаньня будуць прайграны ўсе палітычныя кампаніі. Так гэта ці ня так? Я лічу, што галоўная загана лідараў апазыцыі і апазыцыйных структураў у тым, што сёньня яны не даносяць да беларускіх выбаршчыкаў ніякага свайго аблічча. Я ўжо расказваў як месяц таму прадстаўнікі "Пяцёркі плюс", партыйнага блёку, якія аб'ядналіся каб пайсьці на выбары, супрацьстаяць дыктатарскаму рэжыму - пайшлі да прахадных, раздавалі ўлёткі са сваімі праграмамі, сустракаліся з рабочымі пасьля працы. Але гэта праца зацíхла і па сутнасьці няма ніякіх масавых выхадаў у народ. І калі такая пазыцыя захаваецца, калі нашыя лідэры апазыцыі і шэраговыя яе сябры ня пойдуць да людзей, ня будуць тлумачыць сваю пазыцыю, свае праграмы - ня будзе нічога!

А ў фільме, пра які ідзе гаворка, прэзыдэнцкія ідэолагі папярэдзілі людзей - Чакайце! Хутка да вас у дзьверы будуць стукаць-грукаць кандыдаты на парламанцкія выбары ад апазыцыі і тлумачыць, якія яны добрыя. А на самой справе гэта вельмі дрэнныя людзі. Так вось я лічу - калі б сапраўды ўдалося прадстаўнікам апазыцыі пастукаць у кожныя дзьверы, паказаць сваё аблічча, проста паразмаўляць з людзьмі - тады можна было б пераламаць у масавай сьвядомасьці адмоўнае стаўленьне да лідараў апазыцыі і паказаць іх сапраўднае, станоўчае аблічча.

Уладзімір **Падгол**, /Радыё Палёнія/

*********************************************************

# Як Вільня сталася жамойцкім горадам?

У міжваенным перыядзе (1921-1939 гады) Вільня была палітычным і культурным цэнтрам Заходняй Беларусі, яе неафіцыйнай сталіцай. Тут знаходзіліся сядзібы ўсіх беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, працавалі беларуская гімназія, беларускі музей, шэраг навуковых і культурна-асветных установаў, рэдакцыі газет і часопісаў. Праўда, становішча ўвесь час мянялася да горшага, і напярэдадні Другой сусветнай вайны колькасць іх у выніку шавіністычнае палітыкі польскіх уладаў значна зменшылася.

Пасля прыяднання Заходняй Беларусі да БССР беларускае грамадзянства Вільні было перакананае, што горад будзе нарэшце ў складзе беларускай рэспублікі. Афіцыйныя савецкія ўлады нават наладзілі масавую ўрачыстасць з нагоды далучэння Вільні да Беларусі "на векі вякоў". Была створаная Віленская вобласць, пачала выходзіць, як і ў іншых абласных цэнтрах, газета "Віленская праўда" на беларускай мове. Але сталася інакш.

10 кастрычніка 1939 года Сталін перадаў Вільню з Віленскім краем (гэта быў абшар з насельніцтвам 457 тысяч чалавек) Летуве. Нарком замежных справаў СССР Молатаў адзначаў тады: "Мы ведаем, што бальшыня насельніцтва гэтага абшару не летувіская. Але гістарычнае мінулае ды імкненні летувіскага народа цесна звязаны з горадам Вільня, і ўрад СССР уважаў за неабходнае шанаваць гэтыя маральныя фактары". Зразумела, што такое "дабрадзейства" мусіла быць аплочанае. Напачатку Масква атрымала права на размяшчэнне ў Летуве вайсковых базаў, а неўзабаве, як вядома, і ўвогуле "праглынула" яе.

Пасля далучэння Віленшчыны да Летувы жамойцкае насельніцтва горада (а яго ў 1939 годзе было тут 2%) пачало імкліва ўзрастаць за кошт перасяленцаў з этнічных жамойцкіх земляў. Адбывалася гэта і дзякуючы прытоку рабочых рук у прамысловасць, і ў выніку наплыву масы чынавенства, паліцыі, войска.

Становішча беларусаў тут сталася яшчэ горшае, чым за палякамі. Летувіская прапаганда сцвярджала, што яны не беларусы, а "страчаныя летувісы", што ім трэба толькі змяніць прозвішча, дадаўшы "-ас", "-іс" або "-ус", ды навучыцца жамойцкай мове. Беспрацоўе сярод беларусаў павялічылася, яны дыскрымінаваліся пры ўладкаванні на дзяржаўную службу. Тыя ж з іх, хто нарадзіўся па-за Віленшчынай, увогуле не маглі дастаць летувіскае грамадзянства.

У часе вайны ініцыятарамі карных захадаў з боку немцаў супраць нацыянальна свядомых беларусаў часта былі польскія шавіністы. Гэта разам з перадваеннымі сталінскімі рэпрэсіямі спрычынілася да катастрафічнага змяншэння колькасці беларускай інтэлігенцыі ў Вільні. І ўсё ж такі ў вайну тут яшчэ працавалі беларуская гімназія, настаўніцкая семінарыя, пачатковыя школы, выдавалася газета.

Паводле "Каляндарных нататак" Адама Станкевіча, пры канцы вайны летувісы панічна баяліся беларусаў, справядліва мяркуючы, што іхны актыўны калабарацыянізм, з аднаго боку, і шырокі супраціў беларусаў фашысцкай акупацыі ды іх каласальныя ахвяры, з другога, могуць даць падставу для паваеннага перагляду лёсу Вільні. Але Сталін, падобна, не палічыў патрэбным вяртаць да гэтага пытання.

Канчатковае знішчэнне беларускага культурнага асяродку ў Вільні адбылося адразу пасля вайны. Летувіскі ўрад у асобе міністра асветы Ю.Жугжды не дазволіў адчыніць тут ніводнай беларускай школы, чаго дамагаліся А.Станкевіч ды іншыя беларускія дзеячы. Былі ліквідаваныя беларуская гімназія, настаўніцкая семінарыя, славуты музей імя І.Луцкевіча. Усё гэта адбывалася адначасна з новай хваляй рэпрэсій супраць нашай інтэлігенцыі. Практычна ўсе беларускія нацыянальныя дзеячы і іх сем'і падпалі пад арышты і дэпартацыю.

Па ўзгадненні з Масквой і Варшавай замест беларускіх школаў пачалі насаджацца польскія і расейскія, было наладжанае выданне газеты "Чырвоны штандар" на польскай мове. Як і раней, польскія ксяндзы стараліся ўбіць у галовы беларусам-каталікам, што ў сапраўднасці яны палякі. У гэтым былі зацікаўленыя і летувіскія ўлады. Яны, відаць, не бачылі іншага спосабу дэнацыяналізаваць беларусаў Віленшчыны, бо разумелі, што перавярнуць іх на жамойтаў досыць праблематычна.

Тым не менш маючы на мэце змяніць дэмаграфічную сітуацыю на сваю карысць, яны імкнуліся накінуць беларусам хоць бы сваю вонкавую абалонку: дзе толькі магчыма, запісвалі іх жамойтамі, перакручвалі імёны і прозвішчы на свой капыл (Міцкявічус замест Міцкевіч, Васіляўскас замест Васілеўскі, Астраўскайтэ замест Астроўская, Жвірбліс замест Верабей і г. д.).

Адначасова ажыццяўлялася масавае перасяленне ў Вільню сялянаў з этнічнай Летувы. На працягу толькі 1944-1946 гадоў сюды панаехала блізу 100 тысяч жыхароў, а ўсяго да пачатку 1950 года - больш за 150 тысяч. Гэты працэс доўжыўся і ў наступныя дзесяцігоддзі.

Праводзілася таксама татальная летувізацыя тапанімікі Вільні і Віленскага краю (Меднікі сталі Мядзінінкай, Свянцяны - Швянчоніс, Салечнікі – Шальчынінкай, Вострая Брама - Аўшрас і г. д.).

Такім чынам Вільня набыла нязвыклае для сябе аблічча, упершыню за сваю шматсотгадовую гісторыю стаўшы жамойцкім горадам.

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ. /Н. В./

*********************************************************

***СВАБОДУ НЕ ВЫМОЛЬВАЮЦЬ ці ВЫПРОШВАЮЦЬ, а СІЛАЮ ЗАВАЁЎВАЮЦЬ!!!***

**Ванкарэм Нікіфаровіч** /Чыкага/

# Рыцар сумленьня і свабоды

### Старонкі роздуму пра творчасьць Васіля Быкава і ўспаміны аб сустрэчах

Час стагоддзі, як касой сьцінае,
Веры, царствы, догмы йдуць да ценяў…
Усё мінае – Гонар не мінае,
Бо народжаны адным сумленьнем.
Калі сонца выб'ецца з туману,
Толькі іх і ўспомніць хор народаў,
Воінаў сваіх, сьвятых і зраненых,
Рыцараў сумленьня і свабоды.
Уладзімір Караткевіч

1.

19 чэрвеня выдатнаму беларускаму пісьменьніку Васілю Быкаву споўнілася б 80 гадоў. Споўнілася б… На жаль, даводзіцца гаварыць пра яго ў мінулым часе. Яго ня стала год назад. Лёс склаўся так, што апошні прыезд яго на радзіму стаў пагібельным. Васіль Быкаў ня змог жыць у Беларусі ў невыносных умовах, створаных асабіста для яго і для яго справы – таго высокага служэньня літаратуры, якому быў прысьвечаны ягоны талент. У 1997 годзе яго гасьцінна прынялі ў Фінляндыі, потым – у Германіі і Чэхіі. Ён прыязджаў часам у Менск, сустракаўся з сябрамі, безвынікова спрабаваў выдаць сваю новую прозу… З вялікімі цяжкасьцямі незалежнае выдавецтва "Кніга" выпусьціла яго мемуарную кнігу "Доўгая дарога дадому". А неўзабаве прыйшла з Менску трагічная вестка пра смерць Васіля Быкава, вестка, якая толькі падкрэсьліла сімвалічнае гучаньне назвы гэтай апошняй пры жыцьці яго кнігі. Закончылася яго доўгая дарога дадому. У шпітальнай палаце у добра вядомых усім менчукам Бараўлянах (анкалагічная клініка) летась 19 чэрвеня Васіль адзначыў сваё сямідзесяцідзевяцігоддзе. А памёр 22 чэрвеня, у той самы дзень, калі… Трагічнае супадзеньне, праклятая дата. Многія пакаленьні нашчадкаў менавіта з кніг Васіля Быкава будуць пазнаваць усю праўду пра вайну наогул і пра тую, самую жахлівую, што пачалася у той самы чэрвеньскі дзень 1941 года. І ня проста пазнаваць, а думаць, як жыць далей.

Звычайна, адзначаючы юбілей вядомага пісьменьніка, мы прыгадваем яго творы, гаворым пра яго ўклад у нацыянальную і сусьветную літаратуру, вызначаем яго месца ў літаратурным працэсе. Мне здаецца, Васіль Быкаў і яго творчая спадчына сёньня не патрабуе нейкіх асаблівых характарыстыкаў і вызначэньняў. Яго проза сваім высокім мастацкім узроўнем узьняла, з аднаго боку, значэньне ўсёй беларускай літаратуры і цікавасьць да яе ва ўсім сьвеце. З другога, майстэрства гэтага пісьменьніка вызначае ўменьне ў нацыянальнай тэматыцы, у вобразным звароце да свайго чытача на роднай мове выказаць тое, што хвалюе ўсе народы, незалежна ад іх мовы, рэлігій, звычаяў. "Усяму сьвету – свой дар" – гэты заклік Максіма Багдановіча знайшоў сваё ўвасабленьне менавіта ў творчасьці Васіля Быкава, і гэтым сёньня можа ганарыцца уся беларуская літаратура і культура. Ня толькі зьместам, але і сваёй рытмічнай структурай, закончанасьцю формы, спалучэньнем рэалістычных і рамантычна-вобразных інтанацый, эмацыянальнай гармоніяй проза Васіля Быкава бачыцца сёньня ў кантэксьце ўсёй сусьветнай літаратуры побач з творамі Сервантэса, Дастаеўскага, Фолкнера, Камю і іншых выдатных пісьменьнікаў.

Яго першыя аповесьці з'явіліся ў пачатку шасьцідзесятых гадоў XX стагоддзя, першая кніга на роднай мове "Жураўліны крык" датавана 1960-м годам. Менавіта тады пачалося прасьвятленьне многіх, што жылі ў той савецкай імпэрыі. Што б ні казалі сёньня пра так званых "шасьцідзесятнікаў", іх значэньне ў падрыхтоўцы ўсеагульнага разуменьня, што так далей жыць нельга, было вялізным. Своеасаблівым шасьцідзесятнікам па сваіх каранях і вытоках быў і Васіль Быкаў. Пасьля першых публікацый чытачы, асабліва маё пакаленьне, ужо з нецярпеньнем чакалі кожнай новай яго аповесьці. І яны з'яўляліся, прачытваліся імгненна, прымушаючы мацней біцца сэрца і думаць, думаць… Тады ўжо праўда быкаўскай прозы гучала сымбалем супраціўленьня бесчалавечнай сістэме і ўладам, іх ціску. У аснове твораў пісьменьніка, напісаных у шасьцідзесятыя і сямідзесятыя гады, быў перш за ўсё яго асабісты, выпакутаваны вопыт. Амаль усе персанажы аповесьцяў і апавяданьняў Васіля Быкава пра вайну – простыя салдаты, сяржанты і лейтэнанты; яны на сваіх плячах цягнулі ўвесь цяжар вайны і засталіся навек ляжаць на яе палях. Яны перамаглі, але так і не прынеслі радзіме і народу даўгачаканага шчасьлівага жыцьця.

Паступова гучаньне яго прозы рабілася ўсё больш маштабным і сымбалічным. Васіля Быкава хвалявалі ня толькі строга ваенная тэматыка і персанажы ў армейскай форме. Значнае мастацкае адкрыцьцё пісьменьніка – створаныя ім у рамане "Знак бяды" вобразы простых беларускіх сялян Зьмітрака і Сьцепаніды, своеасаблівыя сымбалі адвечнага трагізму жыцьця на зямлі, якую занадта часта палілі агнём і свае ўлады, і чужынцы, сымбалі пакут народа, пазбаўленага права на самавызначэньне і духоўнае адраджэньне, права "людзьмі звацца", аб чым марыў яшчэ Янка Купала. Сьвядомае самаспаленьне герояў "Знак бяды" – гэта усяленскі пратэст супраць зла і насільля, нянавісьці і несправядлівасьці, якія і сёньня яшчэ пануюць на Беларусі ды і ня толькі ў ёй.

Верны высокім ідэалам дабрыні, справядлівасьці, гуманізма, пісьменьнік актыўна адмаўляў прыстасаванства і канфармізм, змагаючыся за правы чалавека супраць ціску любой антынароднай сістэмы і ідэалогіі. Таму, напэўна, таталітарныя ўлады баяліся яго твораў, забаранялі іх выданьне, як было з аповесьцю "Мёртвым не баліць", з кнігай "Сьцяна", з яго апошнімі творамі і зборам твораў, запланаваным дзяржаўным выдавецтвам, але так і не выдадзеным у лукашэнкаўскія гады ў Беларусі.

Удалечыні ад радзімы ён працягваў настойліва працаваць, пісаў аповесьці, апавяданьні, прыпавесьці, поўныя сымболікі і алегорый, прасякнутыя трывожным непакоем за лёсы простых людзей, за іх будучыню. Палымянай і бескампраміснай была ў гэтыя апошнія гады і публіцыстыка Васіля Быкава. Ён увесь час думаў аб тым, што будзе з Беларусьсю і яе народам, думаў пра моладзь.

2.

Мне пашчасьціла пазнаёміцца з Васілём Быкавым на пачатку яго літаратурнай дзейнасьці, часам сустракацца з ім, размаўляць, абменьвацца лістамі, перакладаць на расейскую мову яго апавяданьні і прыпавесьці… У сувязі з яго васьмідзесяцігоддзем прыгадваюцца некаторыя асабліва памятныя і незабыўныя сустрэчы. Першая адбылася ў Гародне, у яго кватэры, было гэта недзе ў 1962 годзе. Я працаваў тады ў так званым Дзяржаўным выдавецтве БССР рэдактарам у рэдакцыі мастацкай літаратуры. Мяркую, што ня без падказкі Алеся Адамовіча (якраз перад гэтым я рэдагаваў яго раман "Вайна пад стрэхамі") галоўны рэдактар Янка Казека даручыў мне падрыхтаваць і здаць у вытворчасьць кнігу, у якую ўвайшлі тры перакладзеныя на расейскую мову аповесьці яшчэ мала тады вядомага гарадзенскага празаіка Васіля Быкава. Здаецца, яшчэ не было нават часопісных публікацый гэтых аповесьцяў на расейскай мове. З беларускай аповесьці "Жураўліны крык", "Здрада" і "Трэцяя ракета" пераклаў і прыслаў у наша выдавецтва нехта Міхась Гарбачоў (быў яшчэ такі), які лічыўся літаратурным кансультантам у апараце Саюза пісьменьнікаў СССР у Маскве, але фактычна працаваў сакратаром партыйнай арганізацыі гэтага Саюзу.

Я стаў чытаць рукапіс і адразу ж зразумеў, што пераклад гэты вельмі дрэнны. Зьнікла дзівосная рытмічная меладычнасьць прозы Быкава, асабліва яго цудоўнай першай аповесьці "Жураўліны крык". Я стаў правіць пераклад, уважліва супастаўляючы яго з арыгіналам. Паправак было, мусіць, занадта многа, таму што калі галоўны ўбачыў перамазаныя, а часам проста перапісаныя старонкі, ён пайшоў да дырэктара выдавецтва і сказаў яму, што мяне трэба тэрмінова адправіць у Гародню, каб узгадніць усе праўкі з аўтарам. Дырэктар нечакана згадзіўся, і я паехаў у першую ў сваёй працоўнай дзейнасьці службовую камандзіроўку.

Прыгадваю, якое цудоўнае ўражаньне зрабіла на мяне Гародня, горад, зусім не падобны на астатнія беларускія, які захаваў нейкую старадаўнюю чароўнасьць. Васіль Быкаў жыў у кватэры на першым паверсе у доме па вуліцы Алега Кашавога, паралельнай адной з цэнтральных. (Ня ўпэўнены, ці захавалася да гэтага часу гэта назва. Ва ўсякім разе назваць адну з вуліц імем Васіля Быкава гарадзенскія ўлады сёньня проста баяцца). Ён сустрэў мяне вельмі ветліва, мы пазнаёміліся і адразу ж прыступілі да працы. Васіль вельмі ўважліва глядзеў мае праўкі пераклада, згаджаючыся абсалютна з усімі. Потым ён прапанаваў пакінуць яму рукапіс на вечар, і мы селі абедаць… Назаўтра мы сустрэліся зноў, зноў абмяркоўвалі гучаньне на расейскай мове некаторых фразаў і абзацаў. Памятую, як Васіль гаварыў тады пра тое, аб чым я часта думаў і з чым практычна сутыкаўся ў тыя свае маладыя выдавецкія гады: пра страшэнныя, як гэта ні дзіўна, цяжкасьці перакладу з блізкай мовы наогул і з беларускай на расейскую ў прыватнасьці. Тады ж Васіль нібы між іншым нагадаў мне і пра своеасаблівы запавет Максіма Багдановіча,


1. Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Куліна Андрэеўна, маці Барадуліна, Георгій Вылчаў, Барыс Забораў. Вушачы, 1964 г. Фота В. Нікіфаровіча.

працытаваўшы фразу з яго артыкула "За тры гады", напісанага ў 1913 годзе: "…Ня толькі нашаму народу, але і ўсясьветнай культуры нясе беларуская літаратура свой дар". Васіль зьвярнуў увагу і на тое, што гэта было, вядома ж, толькі пажаданьне; але хто ведае: можа, пройдзе час, і мара пачне здзяйсьняцца? Мы гаварылі тады доўга пра многае, Васіль адобрыў усю маю рэдактарскую працу, і на трэці дзень, акрылены, я паехаў дадому. Ня ведаю, ці сачыў Васіль Быкаў за маімі ўласнымі перакладамі (я даволі многа перакладаў з балгарскай мовы), але тым не меней у апошнія гады менавіта мне аднаму з першых ён дасылаў з Фінляндыі, Германіі і Чэхіі некаторыя свае апавяданьні і прыпавесьці для перакладу на расейскую мову.

Наступная наша памятная сустрэча адбылася ў 1964 годзе, і была яна даволі нечаканай і незвычайнай. У Менск прыехаў Георгій Вылчаў, балгарскі літаратуразнаўца і перакладчык беларускай літаратуры, аўтар многіх публікацый пра беларуска-балгарскія ўзаемасувязі. Я пазнаёміў яго тады з многімі нашымі пісьменьнікамі, мастакамі, дзеячамі культуры. І вось паэт Рыгор Барадулін, з якім мы да гэтага часу ня проста сябруем, а вельмі блізкія з першага ж дня яго з'яўленьня у 1953 годзе ва ўнівэрсітэце (спадзяюся, што ён згодны з гэтым, дарэчы, ён сам пра гэта пісаў), угаварыў нас з Вылчавым у адзін летні дзень паехаць да яго на радзіму, на Віцебшчыну, у пасёлак Вушачы, дзе жыла маці Рыгора. Мы запрасілі ў кампанію яшчэ Барыса Заборава, нашага сябра, цяпер вядомага мастака, які жыве ў Парыжы, і выправіліся – спачатку самалётам да Полацаку, а адтуль на аўтобусе у Вушачы. Запомніўся маленькі летак, дзе ўсе пасажыры сядзелі ля сценак салону, пазіраючы адзін на аднаго, а сярод іх была адна сялянка з жывой казой. І вось мы дабраліся да роднай хаты Рыгора, нас вельмі цёпла сустрэла яго маці Куліна Андрэеўна, чалавек незвычайнага розуму і памяці, якая ўвабрала ў сябе, можа, усю мудрасьць беларускага фальклёру ды і ня толькі яго. Быў цудоўны вечар: спаць ляглі пасьля апоўначы. А раніцай, толькі прачнуліся і яшчэ не паселі сьнедаць, як пачулі грук у дзверы. Рыгор пайшоў адчыніць: на парозе стаяў Васіль Быкаў.

Рыгор Барадулін потым прызнаўся, што ён

спецыяльна падрыхтаваў для нас гэту неспадзяванку. Асабіста з Васілём ён пазнаёміўся ў Гародне ў 1959 годзе, пасьля першых часопісных



2. Давід Сімановіч, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Ванкарэм Нікіфаровіч. Віцебск, 1991 г.

публікацый іх імёны станавіліся ўжо вядомымі ў беларускай літаратуры. Яны сустрэліся тады і як землякі: вёсачка Бычкі, дзе нарадзіўся Васіль Быкаў, знаходзіцца прыкладна ў 15 – 16 кіламетрах ад роднай Рыгоравай хаты ў Вушачах. Дык вось, ведаючы тады, што Васіль прыехаў у Бычкі наведаць сваіх родных, Рыгор напярэдадні нашай паездкі дазваніўся туды і сказаў, што едзе да сябе ў Вушачы з такімі-та гасьцямі. І Васіль раніцай таго незабыўнага дня узняўся раней і пехатою накіраваўся да Рыгора.

Радасьці нашай не было канца. Здаецца, мы правялі там цэлых два дні, хоць сёньня і цяжка зразумець, як мы там усе разьмесьціліся ў невялічкім дамку. Пра многае мы пасьпелі пагаварыць тады, спрачаліся да хрыпаты, ды і выпілі нямала: усе ж былі яшчэ маладыя. А якія песьні сьпявалі – і беларускія, і расейскія, і яўрэйскія, і балгарскія… Незвычайна смачнай была і бражка, прыгатаваная Кулінай Андрэеўнай, і усё, што яна стаўляла на стол… Рыгор чытаў свае новыя вершы. "Трэба дома бываць часьцей, трэба дома бываць ня госьцем…" Ды і ня толькі гэтыя. Пра сваё бачаньне таго, што адбывалася ў літаратуры і мастацтве, вельмі сьцісла, але глыбока і пранікнёна гаварыў Васіль Быкаў – тады ж толькі пачынаўся ўзьлёт шасьцідзесятніцтва, і ўсе жылі надзеяй. Васіль запомніўся вясёлым, жыцьця радасным, актыўным, поўным аптымізму. Зусім не такім, як падчас нашай апошняй сустрэчы з ім зусім нядаўна, праз 38 гадоў пасьля той, вушацкай… А тады ў мяне быў з сабой навенькі і модны ў той час фотаапарат "Зеніт". Захаваўся, на жаль, толькі адзін здымак, які Рыгор Барадулін зьмясьціў у выдадзены ў 1996 годзе зборнік эсэ, літаратурна-крытычных артыкулаў і ўспамінаў "Аратай, які пасьвіць аблокі". Пасьля выхаду кнігі ён прыслаў мне яе сюды ў Чыкага з вершаваным прысьвячэньнем, якое пачыналася: "Рэм, сябра мой на ўвесь мой век, праз акіян прымі падзяку…" А на тым здымку – шчасьлівая хвіліна: абняўшыся, стаяць Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Георгій Вылчаў і Барыс Забораў, а ў цэнтры ўсьміхаецца мама Куліна Андрэеўна…

3.

Ішлі гады. Васіль Быкаў стаў сусьветна вядомым пісьменьнікам. У мяне было многа розных сустрэч з ім. Зноў прыгадваецца Гародня, куды я суправаджаў балгарскага пісьменьніка Стэфана Паптонева, які потым напісаў цудоўныя кнігі нарысаў "Беларусь – белая балада" (1971) і паэзіі – "Бярозы, я ў палоне ў вас!" (1972). Запомнілася, што ў сябе на кватэры і ў пакоі ў музэі Ажэшкі, дзе месьцілася Гарадзенскае аддзяленьне Саюза пісьменьнікаў, Быкаў адразу ж перапыняў усялякія размовы на палітычныя і нават літаратурныя тэмы: гэта быў перыяд актыўнага кагэбэшнага ціску і цкаваньня пісьменьніка. А калі мы разам з пісьменьнікам Аляксеем Карпюком пайшлі на вуліцы начной Гародні, тут і пачаліся розныя размовы і спрэчкі, свабодныя, адкрытыя. І Быкаў, і Карпюк аніколькі не саромеліся балгарскага калегі, адразу паверыўшы яго шчырасьці і сумленнасьці.

Калі праз некаторы час я прыехаў у Сафію на семінар балгарыстаў, я прыгадаў, як яшчэ падчас нашай сустрэчы ў Вушачах Васіль Быкаў расказваў Георгію Вылчаву і нам усім пра сваю службу пасьля вайны ў Сафіі, пра сваю вайсковую часьць, што стаяла на 4-м кіламетры Плоўдзіўскай шашы, пра свае няўдалыя просьбы дэмабілізаваць яго з арміі, пра тое, як у першыя дні ў Балгарыі салдаты ягонай роты, убачыўшы на будынку надпіс: "Хотел Цар Борис", пыталіся ў яго: "Таварыш лейтэнант, чаго ж хацеў цар Барыс?". Расказаў тады Васіль Быкаў і аб тым, як ён хадзіў са сваімі сябрамі з часьці ў карчму на гару Шыпку і як там прапілі камсамольскія ўзносы… А тады ў Сафіі я спецыяльна вырашыў прайсьціся па ўсіх мясьцінах, пра якія Быкаў расказваў: знайшоў і былыя казармы на 4-м кіламетры шашы на Плоўдзіў, і тую невялічкую карчму на схіле Шыпкі, дзе лейтэнанты, магчыма, адвялі душу… Тады я нібыта зноў сустрэўся з Васілём, увесь час думаў пра яго, узгадваючы і пачутае ад яго, і прачытанае ў яго творах.

Было яшчэ многа сустрэч – і падчас маёй працы на Беларускім тэлебачаньні, і, радзей, калі мяне ў 1982 годзе звольнілі з тэлебачаньня і толькі праз тры гады дазволілі працаваць у тэатры імя Янкі Купалы. Падрабязьней хочацца расказаць пра яшчэ адну знамянальную сустрэчу з Васілём Быкавым. Гэта была нават не сустрэча, а хутчэй сумесны ўдзел у мерапрыемствах, накіраваных на прызнаньне і вяртаньне ў Беларусь і ў Віцебск імя Марка Шагала, якое – у гэта сёньня цяжка паверыць маладым – афіцыйна было да канца васьмідзесятых гадоў забаронена ў Беларусі. З вялікімі цяжкасьцямі, пераадольваючы супраціўленьне афіцыйных уладаў і адкрыта антысеміцкіх публікацыяў у прэсе, Шагалаўскаму камітэту ў Віцебску начале з мужным энтузіястам і фанатыкам паэтам Давідам Сімановічам удалося



3. Васіль Быкаў. Хельсінкі, лістапад, 1999 г.

паставіць помнік Шагалу на радзіме вялікага мастака, паблізу ад дому, дзе ён жыў. На спецыяльна арганізаваныя ў 1991 годзе Дні памяці Марка Шагала у Віцебск быў запрошаны Васіль Быкаў. Я прыехаў тады проста ў госьці да Давіда Сімановіча; мы з ім сябруем вось ужо болей паловы стагоддзя, з першых маіх студэнцкіх дзён. І Давід, які ўзначальваў тады мастацкае вяшчаньне на Віцебскай студыі тэлебачаньня, папрасіў мяне ўспомніць былую прафесію і правесьці непасрэдна ў эфіры саракахвілінную размову з Васілём Быкавым. Я згадзіўся, ахвотна адгукнуўся на запрашэньне і Быкаў. Пра многае нам удалося пагаварыць тады з ходу, без усялякай падрыхтоўкі. І перш за ўсё – пра Марка Шагала. Запіс гэтай гутаркі Васіль Быкаў уключыў у свой невялікі зборнік публіцыстыкі "На крыжах", які выйшаў у 1992 годзе. Мне здаецца, што некаторыя адказы яго на мае пытаньні ня страцілі сваёй актуальнасьці і сёньня, і я дазволю сабе тое-сёе працытаваць. "…З усяго нашага мастацтва час адбярэ для будучыні вельмі нямногія імёны. Але ў ліку іх абавязкова ў наступнае стагоддзе пяройдзе імя Марка Шагала… Пры яго жыцьці ўвесь сьвет пакланяўся перад яго талентам. Гэта, канечне, шчасьлівы лёс. Хіба што гэты лёс мае прыкрае выключэньне на яго радзіме, дзе ён, прынамсі пры яго жыцьці, быў ня толькі не прызнаны, проста яго ня ведалі нашы людзі… Таму было многа прычын. А галоўная з іх – наш дзяржаўны таталітарызм, наша, так бы мовіць, вузкая, недарэчная ідэалагізацыя ўсёй культуры."

Сярод цікавых тэмаў, якія мы закранalі тады ў размове, была і праблема, звязаная з пытаньнем: ці патрэбны наогул ідэйны і эстэтычны ідэал у мастацтве. Тады ж толькі пачынаўся фармальны злом савецкай сістэмы: Саюз афіцыйна распаўся толькі ў канцы таго году. І многія пыталі сябе і адзін аднаго: а што будзе далей, якія маральныя ідэалы будуць натхняць людзей творчых, вызначаць духоўнае гучаньне, эстэтыку іх твораў? Вось што сказаў тады Васіль Быкаў: "Я думаю, што катэгорыю ідэалу ў мастацтве трэба разумець крыху іначай, чым гэта было прынята ў эпоху сацыялістычнага рэалізму. Мы ўжо пражылі тыя часы, калі ідэалы вызначаліся органамі ўлады. Яны былі розныя – і органы, і ідэалы. Час паказаў усю беспадстаўнасьць такой метадалогіі. У мастацтве ідэал павінен вынікаць з агульначалавечых каштоўнасьцей, і такім мне бачыцца толькі гуманістычны ідэал. Кожны мастак, калі ён



4. Васіль Быкаў і Ванкарэм Нікіфаровіч. Менск, 21 мая 2002 г.

гуманіст, павінен бачыць перад сабой перш за ўсё чалавека – канкрэтную асобу ці ўвесь народ, якому патрэбна праўда... Праўда і зьяўляецца сутнасьцю мастацкага ідэалу". Перачытваючы ўсё гэта сёньня, думаецца аб тым, што Васіль Быкаў гаварыў тады і пра свае асабістыя творчыя прынцыпы, пра сваё разуменьне мэтаў і задач творчасьці, якім ён заставаўся верным да сваіх самых апошніх дзён.

4.

У апошняе дзесяцігоддзе мы часам прысылалі лісты адзін аднаму, двойчы сустракаліся ў Менску. У 1995 годзе, калі я прыехаў на юбілей Купалаўскага тэатра, Васіль праз Рыгора Барадуліна зьвязаўся са мной і папрасіў прыйсьці да яго на вуліцу Танкавую, дзе была яго кватэра. Тады ён вельмі падрабязна распытваў мяне пра жыццё ў эміграцыі, пра ўсе тонкасьці і дэталі гэтага жыцьця. Па ўсім адчувалася, што ён таксама рыхтуецца пакінуць радзіму.

Ён зьехаў у Фінляндыю у 1997 годзе і неўзабаве прыслаў адтуль свой фотаздымак і новыя апавяданьні і прыпавесьці для перакладу. "Ад белафіна Васіля Быкава", – гучаў надпіс на фота, дзе беларус у Фінляндыі быў зняты ў лыжнай шапачцы і ў світары. Прыпавесьці – гэта быў новы для Быкава жанр, дзе ў алегарычнай форме выказваўся напружаны роздум пра жыцьцё увогуле і пра лёс беларусаў у прыватнасьці. "Пасылаю табе мае апошнія прыпавесьці, – напісаў ён тады мне ў суправаджальным лісьце. – Можаш перакладаць іх на што хочаш – на расейскую, ангельскую, французскую, санскрыт альбо ідыш. На якую ўмееш. На кожнай з гэтых моваў карысьці будзе болей, чымсьці на беларускай. Бо гэта ўжо такі наш нацыянальны лёс. Наша радзіма – гэта на самой справе ўнікальная краіна з унікальным кіраўніцтвам. Гэта робіць яе прыкметнай сярод іншых ва ўсім сьвеце, а то ж нам зусім не вылучыцца. Толькі якая з гэтага карысьць?.. Тут, дзе я зараз, зусім іншы сьвет. Калі б такі быў там!.. Але тут я буду ўжо нядоўга – да пачатку новага году. Потым – вяртаньне. Што чакае пасьля вяртаньня – вялізная загадка…"

Але Васіль Быкаў тады не вярнуўся, а пераехаў жыць у Германію. Спачатку жыў у Берліне, потым – у Франкфурце. Ён працягваў дасылаць свае новыя творы, часам рукапісы суправаджаліся лістамі. Пісаў Васіль заўсёды сьцісла, тым не менеі некаторыя яго меркаваньні і ацэнкі, як мне здаецца, маюць пэўную цікавасьць. З студзеня 2001 года ён пісаў: "Дарагі Рэм, пасьля нашай размовы пашукаў у сваіх архівах і знайшоў там яшчэ тры прытчы, напісаныя ў Берліне. Пасылаю табе іх, перакладай, друкуй за акіянам… А жыцьцё

маё – цалкам эміграцкае, табе гэта знаёма. Настальгіі хапае, але ж… Сітуацыя на радзіме не схільная да паляпшэньня, хутчэй наадварот, і гэта выклікае… Зразумела, што выклікае".

А вось яшчэ радкі з ліста Васіля, напісанага ўжо ў Франкфурце. "Дзякуй табе за тваю ўвагу і тваю працу над перакладамі – усё атрымаў. У тым ліку і грошы. Відаць, у гэтых адносінах у Штатах інакш, чым у Нямеччыне, дзе нічога, апроч інтэрв'ю, надрукаваць немагчыма… Адно лепш – тут ужо вясна на падыходзе, сьнегу няма (і не было), распускаюцца пупышкі на кустах. А ў Менску яшчэ, кажуць, сьнег. Але ня толькі сьнег, а і дрымучае ідыёцтва ўладаў, якімі кіруе "мазаічная псіхапатыя"… Што-нішто пішу тут, хоць і без асаблівай хэнці. Але што ж, сядзець без справы ў цяпле і сытасьці ніяк не выпадае. Ды і дастаюць землякі…Пасылаю табе яшчэ дзьве прыпавесьці. Паглядзі, можа зацікавяць?" У тым жа годзе Васіль Быкаў прыслаў і спецыяльнае прывітаньне амерыканскім чытачам. Ён пісаў наступнае: "Дарагія заакіянскія чытачы гэтых радкоў, дазвольце перадаць вам мае самыя сардэчныя вітаньні і найлепшыя пажаданьні з нагоды надыходу новага тысячагоддзя і выказаць упэўненасьць, што яно на амерыканскай зямлі будзе шчасьлівым. У нас у Беларусі пакуль шчасьця мала, але мы імкнемся дасягнуць яго на шляхах дэмакратыі і свабоды. Тым болей з дапамогай сусьветнай супольнасьці і нашых заакіянскіх сяброў. З сардэчным прывітаньнем, Васіль Быкаў".

Апошняя наша сустрэча адбылася 21 мая 2002 года. Здарылася так, што мы, ня ведаючы пра гэта, у адзін і той жа час апынуліся ў Менску. І вось у той дзень пазваніў Рыгор Барадулін і настойліва, не тлумачучы чаму, патрабаваў, каб я адразу ж прыехаў у офіс Беларускага Пэн-цэнтру. Я тут жа прыехаў, Рыгор сустрэў мяне і падвёў да аднаго кабінету. "Ну, вось табе зноў мой сюрпрыз", – сказаў ён і расчыніў дзверы. У пакоі за сталом сядзеў і ўсьміхаўся Васіль Быкаў… І зноў былі размовы, роспавяд, успаміны. Быў цудоўны майскі дзень, мы хадзілі па вуліцы Казлова, па праспекце Скарыны, па плошчы Перамогі, прайшлі да Купалаўскага сквера… Васіль быў рады сустрэчы, але агульны настрой яго быў песімістычным: якраз напярэдадні яго разам з невялікай групай іншых вядомых беларускіх пісьменьнікаў афіцыйная прэса назвала "палітычна адсталымі" і заклікала не друкаваць у часопісах іх творы.

А праз год і месяц прыйшла гэтая жахлівая вестка. Апошні прыезд дадому стаў сымбалічным, хоць прыязджаў Васіль Быкаў з жонкай Ірынай Міхайлаўнай у Менск проста ў сувязі са звычайнымі жыцьцёвымі справамі і клопатамі. У яго смерць ня верыцца дагэтуль, не адыходзіць пачуцьцё, што ён заўсёды з намі, што ён і сёньня прысутнічае ў сьвеце як цудоўны майстра, як найвялікшы маральны і літаратурны аўтарытэт. Тое, што ён казаў пра Марка Шагала, можна суаднесьці з ім самім. Васіль Быкаў быў прызнаны пры жыцьці і назаўсёды застанецца для многіх пакаленьняў у будучыні. Застанецца імем, якое сымбалізуе, як і Марк Шагал, увесь глабальны трагізм дваццатага стагоддзя і пакутлівыя імкненьні пакаленьняў гэтага стагоддзя да свабоды. Застанецца, як пасьпеў сказаць пра яго цудоўны беларускі пісьменьнік Уладзімір Караткевіч, адвечным рыцарам сумленьня і праўды.

**********************************************

# "Ён прыехаў, сам памёр, усё спакойна..."

Гэты артыкул у асноўным быў напісаны ў першыя тыдні пасля смерці Быкава - за выключэннем успамінаў некаторых сведкаў падзей, зробленых увосень мінулага года. Але былі абставіны, якія, нягледзячы на парады вельмі паважаных асоб - друкаваць, вымушалі мяне доўгі час устрымлівацца ад публікацыі.

Па-першае, пра некаторыя рэчы не жадала казаць удава Васіля Уладзіміравіча Ірына Міхайлаўна - і гэта, я перакананы, было яе права, і гэтае яе права я не мог не ўлічваць. Па-другое, яшчэ занадта свежыя былі тыя падзеі, шмат што ўспрымалася эмацыйна, і патрэбны быў час, каб ацаніць іх з пэўнай адлегласці.

Час не суняў болю па Быкаве - але я выкрасліў амаль усе ацэнкі, пакінуўшы факты. Зрэшты, сцяна маўчання пра апошнія тыдні Быкава ўжо парушаная - спачатку Зянонам Пазьняком у бюлетэні "Беларускія ведамасці", потым - Генадзем Бураўкіным у інтэрв'ю Сяргею Шапрану ў газеце "БДГ. Для служебного пользования".

Разумею, што мае запісы не могуць прэтэндаваць на паўнату - спадзяюся, што і іншыя, хто меў дачыненне да апошняга перыяду жыцця вялікага пісьменніка, пакінуць свае нататкі. Гэта - абавязак перад гісторыяй і перад ісцінай, якая рана ці позна будзе вядомая.

"Не ведаю, ці дачакаюся звяржэння дыктатара Лукашэнкі..."

Адразу пасля пахавання Быкава улады імкнуліся пераканаць, што ніякага канфлікту паміж ёй і Быкавым не было.

Міністр культуры Леанід Гуляка: "Паміж уладай і Быкавым асаблівых канфліктаў і не было, як вы ведаеце. Некаторыя канфлікты больш падагравaліся і прававаліся, чым яны існавалі насамрэч".

Прэс-сакратар А.Лукашэнкі Наталля Пяткевіч: "Сам факт таго, што пісьменнік вярнуўся на радзіму, і яму была аказаная тут усялякая мажлівая і немажлівая дапамога, гаворыць пра тое, што канфлікту не было".

Пра вяртанне і пра "дапамогу" - пазней. Цяпер - пра тое, як сам Быкаў ацэньваў цяперашняга кіраўніка краіны і тое, што ён зрабіў з Беларуссю. Цытую некаторыя ўрыўкі быкаўскіх інтэрв'ю, якія гучалі на хвалях беларускай службы Радыё "Свабода" і ўвайшлі ў кнігу "Быкаў на "Свабодзе".

Пасля збіцця дэпутатаў БНФ у зале Вярхоўнага Савета: "Сёння ён перамог рукамі "гарылаў" у чорных масках. Ужо пэўна, што ў Беларусі не будзе парлямэнту, дэмакратычных выбараў, знікнуць рэшткі вольнае прэсы. Краінай закіруе прэзідэнцкая хунта... Што ж, можна хіба павіншаваць беларусаў з мінулымі выбарамі (прэзідэнцкімі 1994. - С.Н). Горай - не зробіш. Для сябе, для грамадства, для нашчадкаў - таксама" (16 красавіка 1995).

"Уся КГБісцкая картатэка прадбачліва адпраўленая на Лубянку. Гэтая акалічнасць і вызначыла выбар беларускага кіраўніцтва: не Захад, а Усход" (27 ліпеня 1995).

"У грамадстве, дзе кожны трэці - камуніст, а кожны другі - сексот, цяжка разлічваць на перамогу дэмакратычнымі сродкамі" (30 снежня 1995).

"Камунафашысты, што загадваюць друкам, здымаюць няўгодных рэдактараў, манапалізуюць паліграфічную базу, як гэта шырока практыкуецца сёння ў Беларусі" ( 26 студзеня 1996).

"Падпісанне саюзнай дамовы - гэта не толькі сумная справа, гэта ўвогуле злачынства стагоддзя. Гэта, безумоўна, генацыд беларускай нацыі - канец яе гісторыі" (8 снежня 1999)

"Я ў Мінску не магу пісаць. Па-першае, у мяне халодная кватэра. Я там з маімі хворымі лёгкімі вельмі хутка загнуся...

Яму не патрэбны Быкаў. У яго ёсць згуртаваная, магутная кагорта ўласных пісьменнікаў, якія пішуць яму біяграфіі. Пішуць пра яго, апісваюць ягонае жыццё. І яму гэтага дастаткова. А ўсяго астатняга ён не ўспрымае. Тое, што робіць Лукашэнка і яго рэжым, накіравана на ліквідацыю, на поўную ліквідацыю суверэннасці. Ён абсалютна закабаліў гэты народ" (16 студзеня 2000).

"Апошнімі гадамі ў Беларусі выпрацоўваюцца мадэлі таталітарызму..." (24 сакавіка 2000).

"Праімперскі дыктатарскі рэжым Лукашэнкі трымае кірунак на аб'яднанне з Расеяй, знішчае нацыянальную культуру і беларускую мову" (25 сакавіка 2000).

"Пры цяперашнім рэжыме я не маю магчымасці жыць у Беларусі. Хаця я глыбока перакананы, што жыць трэба дома, дзе ты нарадзіўся" (29 сакавіка 2000).

"Жульніцкія і шулерскія прыёмы не раскрываюцца, а яны, безумоўна, мелі месца ў беларускіх выбарах... (прэзідэнцкіх 2001 года. - С.Н.). У нас да гэтага часу камуністы ходзяць з партрэтамі Леніна-Сталіна. А наперадзе іх ідзе прэзідэнт Лукашэнка. Беларусь выпала з нармальнага, натуральнага гістарычнага еўрапейскага працэсу. Беларусь - гэта анамалія. Выйсце для яе - наперадзе, а яна каціцца назад. Таму інакш як самагубства я не магу гэта расцаніць" (14 верасня 2001).

"Нацыянальная сымволіка - атрыбут нацыі. Але яе ў нас скралі, нахабна абрабавалі нацыю, што страшней за эканамічны рабунак і аналагічна нацыянальнаму генацыду. Ужо адно тое, не кажучы пра рабунак свабоды, робіць рабаўнікоў злачынцамі - злачынцамі перад нацыяй. Нават калі яны спрабуюць падмяніць, падкласці замест святыні фальшыўку і патрабаваць да яе павагі як да святыні. Гэта ўжо падвоенае злачынства" (19 верасня 2001).

"Мне цяжка працаваць там, дзе няма свабоды" (12 лютага 2002).

"Я стары і ня ведаю, ці дачакаюся звяржэння дыктатара Лукашэнкі" (25 сакавіка 2002).

"Назад, у каменны век нас сілай гоніць нашае неасвецкае кіраўніцтва" (16 красавіка 2002).

"Магутныя сілы дзяржавы паставілі сабе задачу ліквідаваць беларускую літаратуру" (9 чэрвеня 2002).

"Калі б Беларусь была менавіта незалежная, няхай бы яна была бедная, неразвітая, адсталая ці слаба развітая, але калі б яна мела незалежнасць, усё астатняе прыкладася б. А пакуль што яна не Беларусь, яна проста ператвараецца ў чарговую губернію Расеі. Хіба не пра гэта сведчыць уся палітыка сучаснага беларускага рэжыму?" (9 чэрвеня 2002).

"Беларуская перспектыва дужа змрочная. Яна такая сумная, што, напэўна, такой яшчэ не было ніколі ў нашай гісторыі" (24 снежня 2002).

"Цяпер ідзе разгром нацыянальнай культуры. Беларускую мову, і без таго пераўтвораную ў помесь, у трасянку, улады канчаткова перасталі падтрымліваць і сказалі, што яна ім непатрэбная" (3 лютага 2003).

У Васіля Уладзіміравіча не было ніякіх ілюзій адносна цяперашняга рэжыму. Толькі адзін прыклад. Летам 2002 года падчас тэлефоннай размовы на ягонае традыцыйнае пытанне пра навіны па-за межамі палітыкі, я сказаў, што ў Аляксандра Старыкевіча нарадзіўся сын. "Віншуйце. Можа, будзе другім прэзідэнтам Беларусі". - "Што прэзідэнтам - дык дай Бог, але, Васіль Уладзіміравіч, чаму другім? Можа, дзесятым..." - "Ды не, будзе другім. Цяперашні будзе яшчэ гадоў сорак, да сьмерці ня сыдзе".

У гутарках з сябрамі, у сваіх лістах Васіль Уладзіміравіч больш драматычна ацэньваў стаўленне да яго Лукашэнкі, чым у інтэрв'ю. Так, у адным з лістоў да ўкраінскага літаратуразнаўцы Васіля Бурана ён пісаў:

"На радзіме рэжым Л. абрынуўся на мяне з усёй сілы. Радыё, тэлебачанне, прэзідэнцкі друк кожны месяц мажуць мяне граззю. Думаю, што маецца на мэце зрабіць маё вяртанне немагчымым. Або рыхтуюць яшчэ больш страшнае. У такой сітуацыі, канешне, хочацца быць здаровым. А тут - хвароба".

Хвароба, пра якую пісаў Васіль Уладзіміравіч, - была не тая, страшная, якая выявіцца пазней. Доўгі час за мяжой Быкаў не меў таго, што прынята называць сацыяльнымі гарантыямі і што ў ягоным ўзросце жыццёва неабходна. Самае ж першае і галоўнае для чалавека, які апынуўся на Захадзе, - гэта медыцынская страхоўка. У лісце Сяргею Законнікаву Быкаў пісаў: "Жыць трэба дома, калі б толькі тое было магчымым. А лячыцца тут няма як".

Дома ж жыць ён, як вядома, не мог зусім не па сваёй волі.

"...Сітуацыя не дае магчымасці для маёй прафесійнай літаратурнай дзейнасці і нармальнага існавання..."

У пачатку 2002 года Васіль Уладзіміравіч сказаў мне, што да канца года магчымасць жыць у Нямеччыне скончыцца. Спробы нямецкіх сяброў Быкава працягнуць побыт натыкаліся на бюракратыю, хаця, як мне вядома, быў задзейнічаны нават прэзідэнт Нямеччыны Рау. Але справа ў тым, што ў дэмакратычных краінах дзейнічае прыярытэт права: ніхто, прэзідэнт ці прэм'ер, не можа загадаць чыноўніку зрабіць тое, што супярэчыць закону. Адзіны варыянт - браць палітычны прытулак - Васіль Уладзіміравіч адвяргаў з шэрагу прычынаў, у тым ліку і таму, што ён выключаў бы магчымасць ездзіць на Радзіму (але павінен сказаць, што адночы такі варыянт мы з ім абмяркоўвалі).

Мае пражскія сябры прапанавалі паспрабаваць чэшскі варыянт і паабяцалі дапамогу. У чэрвені 2002 года Быкаў прыехаў у Прагу і напісаў заяву наступнага зместу (чарнавік ён аддаў мне):

*"Пану міністру Унутраных спраў*
*Чэшскай Рэспублікі*
*Ад грамадзяніна*
*Рэспублікі Беларусь*
*пісьменніка*
*Васіля Быкава*

*Заява*

*У сувязі з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь, дзе я нарадзіўся і пражываў да 1999 году, склалася непрыязная для мяне сітуацыя (найперш палітычная), якая не дае магчымасці для маёй прафесійнай літаратурнай дзейнасці і нармальнага існавання, прашу ўрад ЧР прадаставіць мне права пражывання ў Чэхіі.*
*Разам са мной знаходзіцца жонка Быкава Ірына, якая далучаецца да маёй просьбы.*
*З павагай В. Быкаў".*

Мы пастараліся пазбавіць Васіля Уладзіміравіча большасці клопатаў, звязаных з афармленнем дакументаў. Дапамог ліст з канцылярыі Гавела ды невялікая зачэпка ў законе, хаця, маючы нават ліст прэзідэнта, давялося тры месяцы абіваць парогі ўстаноў (ніякіх выключэнняў там не рабілі; прыйшлося нават браць даведкі аб несудзімасці з усіх тых краін, дзе жыў Быкаў у апошнія пяць гадоў). Прычым нам удалося і для Васіля Уладзіміравіча, і для Ірыны Міхайлаўны аформіць права пастаяннага побыту ў Чэхіі, без неабходнасці працягваць візу, якое ім, як асобам пенсійнага ўзросту, давала і бясплатную медыцынскую страхоўку (тады нават не думалася, як хутка яна спатрэбіцца).

У пабытовым сэнсе жыццё ў Празе ўладкавалася не адразу - былі праблемы і з фінансамі, і з кватэрай. Мне ўжо даводзілася чуць папрокі ў бок Чэхіі на гэты конт, але прэтэнзіі трэба адрасаваць мінскім уладам, якія стварылі Быкаву невыносныя ўмовы на Радзіме. У любым выпадку, Чэхія дала такі прававы статус, які не здолела прапанаваць ніякая іншая еўрапейская краіна.

"Вы ж разумееце, адкуль была каманда"

На час пакутлівай хваробы Быкава і страшнага дыягназу-прысуду прыйшлася публікацыя, якая, як я перакананы, была для яго моцным ударам. Нават калі ўлічваць усе знішчальныя "літаратуразнаўчыя" артыкулы 60-х гадоў ды абразлівыя выказванні "каментатараў" лукашэнкаўскага тэлебачання - гэтая публікацыя пераўзышла паводле агіднасці ўсё ранейшае.

Я вагаюся, ці варта цяпер пра яе ўзгадваць, нагэтулькі яна мярзотная - але замаўчаць яе было б няправільна.

Пра яе мне сказаў сам Васіль Уладзіміравіч, калі быў у шпіталі (не ведаю, хто паказаў яму той часопіс). Пазней Быкаў некалькі разоў прыгадваў публікацыю, хаця ён

быў не з тых, хто скардзіцца на ўласныя непрыемнасці. Я пераконваў, што не варта звяртаць увагі на подласць, хаця сам цудоўна разумеў, што такія рэчы спакойна не ўспрымаюцца.

Аднойчы сказаў яму, што напішу пра гэтую публікацыю. "Не варта, Сярожа, усё гэта бессэнсоўна". - "А калі падаць у суд?" - "Які суд у Беларусі? Вы ж разумееце, адкуль была каманда. Ды і выканана гэта вельмі паскудна і хітра: фармальна прозвішча майго няма". І ўсё ж Васіль Уладзіміравіч даў мне гэты часопіс - я забраў яго ў Нью-Йорк, куды мусіў адляцець на некалькі тыдняў. Але тады мяне адгаварылі пісаць - тым аргументам, што не варта паказваць аўтару і ініцыятарам публікацыі, што ў нечым яны дасягнулі сваёй ганебнай мэты - зрабілі Быкаву балюча. Вельмі шкадую, што не напісаў тады - пішу цяпер. Зараз водпаведзь ўжо не мае сэнсу, але прывяду некалькі цытат, якія выяўляюць духоўнае дый маральнае аблічча як іх аўтара, так і тых, хто за ім стаіць...

Гаворка ў "творы" Яўгена Росцікава "Динамит для лауреата - маленькая повесть о большом человеке" ("Нёман", №1, 2003 г. ) ідзе пра пісьменніка з прозвішчам Дроб, які жыве за мяжой і можа атрымаць Нобелеўскую прэмію. Некаторыя біяграфічныя эпізоды нібыта недвухсэнсоўна ўказваюць на канкрэтнага чалавека, але ўсё астатняе - фантазія самага гнюснага кшталту:

"...перед войной успел два года поучиться в художественном училище...", "подался в областную газету...", "местные черносотенцы с ведома властей забрасывают скромный домик фронтовика камнями за его острые публикации", "переводили на итальянский, французский, немецкий и английский языки...", ..."власть щедро одаривала его премиями, орденами, медалями...", "сделал ставку на рвущихся к власти националистов. Сделал им пару комплиментов в интервью, а лидера их... вообще назвал апостолом...", "из преуспевающего советского писателя он вдруг превратился в великомученика, "совесть нации...", "Разоблачения "гэтай улады"...", "тихий немецкий городок, в котором ему милостиво предоставили виллу. Газеты писали, что... здесь, почувствовав наконец свободу, он плодотворно работает над новым гениальным романом, который должен продемонстрировать весь ужас существующей в его стране системы и одновременно должен стать новым словом в литературе", "...почувствовал, как внутри вдруг что-то взорвалось и, переполнив его, стало вытекать наружу... Он открыл окно, потом включил кондиционер, но запах уже заполнил комнату, проник во все щели ... трупный запах...", "нет, надо что-то делать - бежать, спасаться, пока эти культурные немцы не догадались, что живут рядом с трупом...", "о том, что переполняет его, что он труп, знало и руководство Пен-центра, предложившее ему эту "последнюю акцию" - бегство за рубеж, чтобы властям страны стало стыдно, поскольку они не создали гению надлежащих условий...", "тысяча двести гостей уже заняли свои места за праздничными столами в стокгольмской ратуше, чтобы отдать дань уважения современным гениям - нобелевским лауреатам, и в первую очередь ему - Федору Дробу...", "последнее, что увидел Дроб, - это гостей необыкновенного вечера, которые вместе со всем королевским семейством, с лауреатами и официантами, зажав пальцами носы, ринулись из старинной ратуши вон...", "журналистов в зале не было. Профессиональным нюхом почуяв запах тлена, они уже мчались в редакции, чтобы сообщить миру сенсационную новость о смерти писателя, который маниакально хотел получить Нобелевскую премию..."

Я не прыводжу самыя мярзотныя пасажы гэтага опусу. Скажу толькі, што ў якой іншай краіне аўтар падобнага знаходзіўся б пасля публікацыі на яе тэрыторыі роўна столькі, колькі займае паездка ад кватэры да аэрапорта - пры самым шчаслівым для яго разгортванні падзеяў. Назаву яшчэ склад рэдкалегіі, якая выпусціла ў свет гэтую мярзоту: "Н.Чайка, В.Лукша, И.Лученок, С.Зайцев, Г.Пашков, М.Поздняков, М.Савицкий, Ю.Сидоров, А.Сульянов, Н.Шевцов". Дадам, што кіраўніцтва "холдынгу", куды ўваходзіць цяпер часопіс, прызначалася Адміністрацыяй прэзідэнта, а сам аўтар працуе ва ўрадавай газеце "Рэспубліка".

Пра сапраўдны дыягназ (рак), акрамя лекараў, самога Васіля Уладзіміравіча і Ірыны Міхайлаўны, - ведалі толькі некалькі чалавек. Ва ўсялякім разе так нам тады здавалася.

У канцы сакавіка ў Прагу раптам патэлефанаваў Мікалай Чаргінец (кіраўнік штаба Лукашэнкі на апошніх выбарах і дэпутат "сената") і выказаў жаданне дапамагчы. Пра званок мне распавяла Ірына Міхайлаўна; калі я запытаўся ў Васіля Уладзіміравіча (гэта было на наступны дзень пасля аперацыі), ён сказаў, што не мае з Чаргінцом ніякіх адносінаў.

Чаргінец выявіў дзіўнае веданне стану здароўя Быкава - прычына гэтай дасведчанасці стала зразумелая пазней. Літаральна за некалькі дзён да ягонага званка лекар Сяргей Юрчанка, які апекваўся Быкавым і падчас аперацыі рабіў анестэзію, патэлефанаваў сыну Быкава ў Беларусь і распавёў усю праўду пра дыягназ і верагодныя перспектывы.

Быкаў быў перакананы, што кожны ягоны крок адсочваецца, тэлефонныя размовы яго і блізкіх - праслухоўваюцца (гэта я чуў ад яго шмат разоў, думаю, чулі і іншыя. Напісаў ён пра гэта, як бачым, і ў вышэй працытаваным лісце да украінскага сябра).

Выглядае, што і размову пражскага доктара з сынам Быкава чулі тыя, каму яна была вельмі цікавая. І зрабілі пэўныя высновы.

"...Васіль Уладзіміравіч ацэньваў сітуацыю як спецыяльна праведзеную аперацыю ўлад"

Апошні раз я бачыў Быкава 19 красавіка - на наступны дзень мне трэба было вылятаць у Нью-Йорк. Пра тое, што ён хоча з'ездзіць у Мінск, Васіль Уладзіміравіч казаў даўно, планаваў нават паездку да аперацыі, але прыйшлося адкласці. У той дзень Быкаў сказаў, што паедзе, магчыма, у чэрвені, а мо і пазней. Я тэлефанаваў яму з Амерыкі, і аднойчы Васіль Уладзіміравіч сказаў, што назаўтра разам з Ірынай Міхайлаўнай вылятае ў Мінск, а вернуцца 6 чэрвеня, зваротныя білеты таксама ўжо купленыя. Мяне крыху здзівіла раптоўная змена планаў. Васіль Уладзіміравіч сказаў, што трэба "палагодзіць некаторыя справы", а што ён меў на ўвазе канкрэтна, я не стаў дапытвацца.

Ляцелі Быкавы ў Мінск 23 мая 2003 года самалётам "Белавія" Як-40. Хворы геній беларускай літаратуры быў вымушаны дабірацца на Радзіму самалётам, які і маладыя ды здаровыя людзі з цяжкасцю пераносяць. У тэлефоннай размове Васіль Уладзіміравіч сказаў, што пералёт быў для іх настолькі пакутлівым, што, калі выйшлі ў праход паміж самалётам і будынкам аэрапорта, апусціліся на падлогу, а потым "трымаліся за сцены і ледзь ачуналі".

Цяпер - адносна таго, што Быкаў нібыта прыехаў у Беларусь паміраць. Гэтак заяўляюць прадстаўнікі ўлад, якім хочацца, хай і пасмяротна, прымірыць Быкава з уладай, гэтак кажуць і некаторыя сябры, жадаючы падкрэсліць любоў Быкава да Беларусі. Часам сцвярджэнне набывае характар відавочнай спекуляцыі, аж да заявы ў адным апазіцыйным выданні, што нібыта Быкаў вярнуўся памерці, каб сваёй смерцю ўзняць беларускі народ...

Але Васіль Уладзіміравіч не ехаў ў Мінск паміраць. Магчыма, прыехаўшы, ён зразумеў, што ўжо нікуды з Беларусі не з'едзе, - але паміраць ён не ехаў, і гэтаму ў мяне ёсць доказы.

Праз некалькі дзён пасля прыезду Васіль Уладзіміравіч папрасіў мяне перадаць яму з аказіяй ягоны персанальны камп'ютэр. А яшчэ праз некалькі дзён, калі ўжо быў у шпіталі, праз Ірыну Міхайлаўну ён надыктаваў спіс рэчаў, якія засталіся ў пражскай кватэры і якія я яму таксама перадаў - два блакноты (адзін - з уласнымі малюнкамі, які ён рабіў у Празе - бацькоўская хата на Ушаччыне, дарога ў школу, возера дзяцінства, полацкая Сафія, вайсковыя замалёўкі; другі - з нататкамі і роздумамі над прачытаным, якія потым назавуць "дзённікам"), лісты, на якія не паспеў адказаць, некаторыя рукапісы ненадрукаваных твораў, фотаздымкі. А таксама прыбор для вымярэння ціску, мабільны тэлефон і некаторыя іншыя рэчы - тое, што ён хацеў мець пры сабе. І абавязкова ўзяў бы, калі б ведаў, што з'язджае назаўсёды. І ўжо, канешне, ён не браў бы зваротнага білета ў Прагу.

У дзень, калі Васіль Уладзіміравіч папрасіў перадаць яму камп'ютэр, ён сказаў, што вакол яго адбываюцца некаторыя падзеі, але ён не хоча пра іх казаць па тэлефоне, "вярнуся ў Прагу - тады раскажу". І запытаўся, калі прыедзе ў Мінск Аляксандр Лукашук (дырэктар беларускай "Свабоды"). Аляксандр сапраўды збіраўся ў Беларусь, але паездка адклалася, і я папрасіў яго тэрмінова пазваніць Быкаву (падаю ягоныя словы так, як я запісаў іх летась у ліпені):

Аляксандр Лукашук: "Напрыканцы лютага - на пачатку красавіка я дапамагаў Быкавым стаць на ўлік ў беларускай амбасадзе і запоўніць дакументы на атрыманне новага пашпарта для Ірыны Міхайлаўны. На маіх вачах былі запоўненыя формы, консул Андрэй Уладзіміравіч Валавік заявіў, што Ірына Міхайлаўна мае права атрымаць новы пашпарт у амбасадзе, бо мае дазвол на сталае пражыванне. Прапіска ці права на жыллё ніяк не ўзгадвалася. Консул вызваліў Быкавых ад аплаты збораў.

8 мая Быкавым пазванілі з амбасады і сказалі, што пашпарт гатовы. Назаўтра прадстаўнікі амбасады заехалі за Быкавым, каб запрасіць яго на ўскладанне кветак да магіл савецкіх салдат на Альшанскіх могілках, і ўручылі пашпарт Ірыне Міхайлаўне. У ім не было штампа прапіскі. З гэтай нагоды Ірына Міхайлаўна адмовілася аддаць у амбасаду стары пашпарт.

Пасля нечаканага ад'езду Васіля Уладзіміравіча і Ірыны Міхайлаўны з Прагі ў Мінск 23 мая я ўпершыню гаварыў з Васілём Уладзіміравічам недзе праз тыдзень. У той дзень Сяргей Навумчык сказаў, што Васіль Уладзіміравіч гаварыў пра надзвычайную навіну, але не хацеў даваць падрабязнасці па тэлефоне. Я спытаўся пра гэтую навіну - Васіль Уладзіміравіч пацвердзіў, што ёсць навіна, і яшчэ якая, і яна тычыцца яго.

Недзе праз некалькі дзён я зноў гаварыў з ім па тэлефоне і зноў спытаўся пра важную навіну. Васіль Уладзіміравіч расказаў, што іх пазбавілі прапіскі. Па ягоных словах, прапіскі пазбаўлены і ён, і жонка. І няясна, ці могуць яны ўвогуле цяпер знаходзіцца ў гэтай кватэры, якая не была прыватызавана. Васіль Уладзіміравіч сказаў, што ў ЖЭСе яму паказалі нейкі закон і інструкцыю, з якой вынікала, што яны выпісаныя цалкам законна. Ён некалькі разоў спасылаўся на гэтыя дакументы".

Паводле ведамасных інструкцый МЗС і МУС (інструкцый, а не закону!), асобы, якія стала пражываюць за мяжой, павінны падаць заяву аб адмове ад прапіскі ў Беларусі - у тым разе, зразумела, калі яны хочуць мець беларускі пашпарт і легальна наведваць радзіму. Гэтае правіла не распаўсюджваецца на тых, хто мае часовую ці, напрыклад, гадавую візу. У Быкавых была пастаянная чэшская віза. З другога боку, тэрмін дзеяння візы быў 15 гадоў ("Мне гэтага хопіць", - казаў Васіль Уладзіміравіч), што давала б беларускім уладам магчымасць разглядаць яе як часовую. Наогул, інстытут прапіскі - гэта савецкі анахранізм, сутнасць якога патлумачыць заходняму чалавеку практычна немагчыма, аднак у беларускіх умовах прапіска значыць даволі шмат. Падобная праблема з прапіскай была і ў мяне (калі я запытаўся ў генконсульстве РБ ў Нью-Йорку, на якіх умовах мне далі б беларускі пашпарт), тады даволі шмат пісалася пра гэта ў "Народнай волі". Пасля адной з такіх публікацый (гэта быў студзень 2003 года), Васіль Уладзіміравіч сказаў, што яны з Ірынай Міхайлаўнай устрывожаны, ці не здарыцца тое ж самае і з імі, гэта значыць - ці не запатрабуюць ад іх выпісацца. Тады я сказаў, што наўрад ці ўлады асмеляцца зрабіць такое з Быкавым. "Ды яны зробяць з намі што захочуць", - быў адказ.

Праз некалькі месяцаў стала зразумела, што Быкаў больш рэальна ацэньваў стаўленне да сябе улад...

Першае, што я прапанаваў Васілю Уладзіміравічу, калі пачуў пра сітуацыю з прапіскай, - гэта даць інфармацыю ў прэсу. Мы былі гатовыя сказаць пра гэта па "Свабодзе" ў той жа дзень. Аднак Васіль Уладзіміравіч настойліва папрасіў гэтага не рабіць: "Так хоць застаецца якаянебудзь надзея, а калі іх раззлаваць - тады проста выкінуць з хаты". Перад шпіталізацыяй я некалькі разоў размаўляў па тэлефоне з Васілём Уладзіміравічам, і ён увесь час быў занепакоены гэтай праблемай. У адной з тэлефонных размоў ён нават сказаў маёй жонцы, што вось, маўляў, пакуль яшчэ жывуць на Танкавай, не выселілі, "пакуль ніхто не ўнёс сюды свае чамаданы, а могуць і засяліць якога перадавіка вытворчасці з трактарнага завода"...

Ізноў слова Аляксандру Лукашуку: "На пытанне, што ён плануе рабіць, Васіль Уладзіміравіч адказаў напаўна - маўляў, раюся. На той момант ён не звяртаўся да афіцыйных асоб, хаця ўжо яму званілі намеснік міністра культуры, пазней, здаецца, дэпутат Чаргінец, а потым званіў міністр культуры Гуляка.

Я патэлефанаваў у амбасаду дарадцу Віктару Міхайлавічу Казлову, які неаднаразова бываў на афіцыйных сустрэчах Радыё "Свабода", распавёў пра стан спраў і выказаў меркаванне, што амбасада выглядае ў гэтай сітуацыі двухсэнсоўна як праваднік аперацыі спецслужб. Пазней мне перазваніў консул Валавік, якому я таксама паўтарыў гэта. Абодва выказвалі здзіўленне, казалі, што гэта глупства на месцах, да якога амбасада і МЗС не маюць ніякага дачынення. Валавік абяцаў неадкладна ўсё высветліць і дапамагчы палагодзіць".

У тэлефонных размовах Васіль Уладзіміравіч у тыя дні і мне казаў, што звярнуўся па дапамогу да сябра, і, магчыма, нешта ўдасца зрабіць. Гэтым чалавекам быў Генадзь Бураўкін, і вось што прыгадаў ён па маёй просьбе для кнігі "Быкаў на "Свабодзе":

Генадзь Бураўкін: "Васіль сказаў мне пра цяжкасці з прапіскай, якія ўзніклі ў Ірыны Міхайлаўны, але зазначыў, што нічога ні аб чым прасіць уладу не будзе. Прыкладна ў тыя ж дні са мною звязаўся кіраўнік прэзідэнцкай Адміністрацыі Урал Латыпаў і запытаўся: ці не мог бы асабіста ён чымсьці дапамагчы Быкаву?"

Перарву Генадзя Мікалаевіча. Уражвае гэтае імкненне самага высокапастаўленага чыноўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі дапамагчы "асабіста" - пасля таго, як гэтай самай Адміністрацыяй было зняважана ўсё тое, што для Быкава было дарагім - мова, нацыянальныя сімвалы...

Генадзь Бураўкін: "І я тады ж сказаў, што Васіль не хоча звяртацца да прадстаўнікоў улады з нейкімі просьбамі, але ў яго ёсць пабытовыя цяжкасці, якімі, я перакананы, ён не павінен займацца. І распавёў пра цяжкасці з прапіскай. На што Латыпаў сказаў: "Генадзь Мікалаевіч, гэта не праблема. Мы вырашым". Але я яго папярэдзіў, што Васіль баіцца паўтарэння сітуацыі з Генадзем Карпенкам, калі пасля пахавання таго Лукашэнка сказаў, што на ягонае ўказанне ўлада нават чаравікі купляла для нябожчыка. І таму Васіль Уладзіміравіч баіцца, што нейкія жэсты з боку чыноўнікаў будуць пададзеныя як ласка ад найвышэйшага кіраўніцтва... Пытанне з прапіскай праз некалькі дзён было вырашана".

Гэтыя словы Бураўкіна я запісаў у кастрычніку; пазней Генадзь Мікалаевіч распавёў некаторыя дэталі ў інтэрв'ю для газеты "БДГ. Для служебного пользования". Бураўкін паводзіў сябе як сапраўдны сябра.

Ірыне Міхайлаўне выдалі новы пашпарт, але, каб вярнуцца ў Чэхію, ёй ужо спатрэбілася б браць візу, бо пашпарт з пастаяннай візай быў здадзены. А потым, у Празе, аднаўляць той штамп, які даваў права на пастаяннае жыхарства. І яшчэ: калі б пашпарт прыйшлося мяняць Быкаву, у яго б таксама забралі той, дзе была пастаянная чэшская віза.

Мая перадапошняя размова з Васілём Уладзіміравічам адбылася 4 чэрвеня - я папрасіў яго выказацца наконт ліквідацыі Беларускага нацыянальнага гуманітарнага ліцэя, і словы "трэба змагацца за родную мову" сталі апошнімі словамі ягонага апошняга інтэрв'ю. Тады ж Васіль Уладзіміравіч сказаў мне, што праблема пашпарта Ірыны Міхайлаўны вырашана, хаця невядома, што будзе з ягоным пашпартам, калі спатрэбіцца замена. Але гэта ўжо не турбавала Васіля Уладзіміравіча, ён адчуваў сябе вельмі дрэнна, і я запісаў ягоныя словы: "Сярожа, цяпер паперкі, штампікі ў пашпарце мяне ўжо не цікавяць. Могуць быць, а могуць і не быць..."

На наступны дзень Васіль Уладзіміравіч сказаў, што кладзецца ў Бараўляны.

Ну а тое, ці была гэтая гісторыя выпадковай і якая ў ёй роля улад, у тыя ж дні вызначыў сам Быкаў.

Аляксандр Лукашук: "Васіль Уладзіміравіч ацэньваў сітуацыю як спецыяльна праведзеную аперацыю ўлад, ён і жонка былі надзвычай знерваваныя гэтым здарэннем і цяжка перажылі гэты ўдар".

У тым, што гэта забрала ў Быкава апошнія сілы, перакананыя ўсе, каму Васіль Уладзіміравіч палічыў патрэбным пра яе сказаць. "Васіль быў у адчаі", - прыгадвае Рыгор Барадулін.

У "Беларускіх ведамасцях" Зянон Пазьняк напісаў, што "хвораму Быкаву прыйшлося гэтую нізасць

пераадольваць ды пераажываць і з-за яе застацца ў Мінску, ён планаваў вярнуцца ў Прагу. Там сябры чэхі і беларусы выстараліся яму рэдкае лякарства (20 тысяч долараў адна таблетка). Чалавека, нават смяротна хворага на рак, яно магло патрымаць у жыцці яшчэ год або два..." ("Беларускія ведамасці", №4, 2003 г.)

Паколькі Пазьняк пісаў з майго расповеду (гутарка была па тэлефоне адразу пасля смерці Быкава), павінен зрабіць некаторыя ўдакладненні.

Але спачатку - цытаты з перадачы БТ "Панарама". У інтэрв'ю, якое прагучала на наступны дзень пасля смерці Быкава, 23 чэрвеня 2003 года, дырэктар НДІ ў Бараўлянах Іосіф Залуцкі сказаў (цытую па стэнаграме): "Его прооперировали 7 марта в Чехии. Он получил два курса химиотерапии, но никто за ним не наблюдал, курсы оказались неэффективными. Мы в таком случае всегда смотрим за больным". "Урачы адзінага ў краіне аддзялення інтэнсіўных метадаў лячэння, дзе знаходзіўся Васіль Быкаў, таксама шкадуюць, што час быў упушчаны", - дадаў карэспандэнт.

Дарэчы, аперацыю Быкаву (і не 7 сакавіка, а 27 сакавіка - тут, пэўна, звычайная агаворка) рабіў лепшы пражскі хірург - той самы, які апераваў Вацлава Гавела. Таму каментарый дырэктара НДІ, мякка кажучы, некарэктны. У Празе медыкі былі здзіўленыя такімі словамі.

Як і тым, што ніхто з мінскіх медыкаў не звязаўся з пражскімі калегамі, якія лячылі Быкава на працягу апошніх месяцаў (Быкаву перад ад'ездам далі запіс асноўных параметраў хваробы і аналізаў, а таксама каардынаты пражскіх медыкаў - але з імі так ніхто і не скантактаваўся).

У сваім артыкуле Пазьняк прыводзіць кошты амерыканскіх аналагаў тых лекаў, якімі лячылі Быкава ў Празе; у Еўропе яны не такія астранамічныя, але таксама немалыя (адзначу, што ўсё пакрывала страхоўка). Гэтыя лекі - якраз і ёсць тыя самыя курсы хіміятэрапіі, пра якія сказаў дырэктар бараўлянскага НДІ. Іх адметнасць, у адрозненне ад хіміятэрапіі праз кропельніцу, у тым, што яны мінімізуюць пабочныя эфекты. Зянон Пазьняк піша, што лякарства чакала Быкава ў Празе, але некалькі ўпаковак гэтых лекаў Васіль Уладзіміравіч узяў з сабой у Мінск. Іншая справа, што ў Бараўлянах была абраная іншая методыка лячэння.

Самае большае, чаго баяліся пражскія лекары, - што ў Мінску будзе прыменена хіміятэрапія не праз таблеткі, а праз кропельніцу ("Ён яе не перанясе", - сказаў мне пражскі доктар яшчэ да таго, як Быкаў быў шпіталізаваны ў Бараўляны). Але хіміятэрапію праз кропельніцу прымянілі. Я разумею, што ёсць розныя методыкі лячэння, розныя традыцыі, урэшце, розныя магчымасці, і, верагодна, у мінскіх медыкаў не было іншага выбару. Але ў трагічным выніку не варта вінаваціць іншых.

З чым можна пагадзіцца - гэта з тым, што час сапраўды быў упушчаны, бо пра хваробу даведаліся са спазненнем на год ці нават болей. Доўгі час у замежжы ў Быкава не было магчымасці, прайсці медыцынскае абследаванне. Прычыны ж, якія вымусілі яго пакінуць Радзіму, ляжаць, як вядома, зусім не ў медыцынскай сферы.

* * *

Яшчэ калі Васіль Уладзіміравіч быў жывы, я даведаўся пра адну размову, якая калі не канчаткова, дык у значнай ступені патлумачыла тое, што рабілася вакол Быкава ў апошнія тыдні. Да дня нараджэння Васіля Уладзіміравіча я напісаў невялікі артыкул і 16 чэрвеня размаўляў з галоўным рэдактарам "Народнай волі" Іосіфам Сярэдзічам. Ён і паведаміў пра размову (пазней я папрасіў Іосіфа Паўлавіча паўтарыць свае словы пад запіс).

Іосіф Сярэдзіч: "Літаральна на наступны дзень пасля вяртання Васіля Быкава з Прагі ў Мінск я сустрэўся з адным добрым знаёмым, чыноўнікам высокага рангу, які ў бліжэйшым атачэнні Лукашэнкі. І Вы ведаеце, я заўважыў прosta, як ён, ледзь не паціраючы рукі, сказаў, што "я вось пераконваў, усе пагадзіліся", і менавіта толькі дзякуючы яму і бліжэйшаму атачэнню Лукашэнкі Васіль Быкаў "прыехаў паміраць" - менавіта "паміраць" - на Радзіму. Таму што, "калі б Васіль Быкаў памёр у Празе, як бы яго сустракала ўся грамадскасць на чыгуначным вакзале альбо ў аэрапорце, калі б самалётам, гэта вылілася б у вялікую, можа, маніфестацыю. А тут - ён прыехаў, сам памёр, усё спакойна..."

У смерці Быкава яны бачылі сваю перамогу. І, як маглі, паскорылі яе.

*Сяргей НАВУМЧЫК.* Прага.2003-2004 /Народная Воля/

**************************************************

# ІСЬЦІНА СУПРАЦЬ ПЕРАМОГІ

**19 чэрвеня спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.**

Тым летам у Бараўляны я езьдзіў часта – у анкалягічным шпіталі зь безнадзейным дыягназам ляжаў мой цесьць. Мінуўшы КПП са шлягбаўмам, наведнік нібы трапляў у іншы сьвет, дзе раптоўна зьнікалі ўсе жыцьцёвыя праблемы, дзе кожны незаўважна ставаў экзыстэнцыялістам, узважваючы на вагах разважаў толькі два словы: жыцьцё й сьмерць. Felix opportunitate mortis. Шчасьлівы, хто памірае своечасова. Хацеў бы я павадзіць аўтара гэтага выслоўя па шматлюдных шпітальных калідорах, па падземных пераходах, па густа заселеных палатах, дзе паўсюль заўважалася й адчувалася адно – прага жыць. Не бывае сьмерці своечасовай.

У адзін са сваіх прыездаў я паведаміў цесьцю, што ў іхні шпіталь паклалі Васіля Быкава. Але ён пра гэта ўжо ведаў, пра Быкава нехта пачуў па Радыё Свабода й расказаў у курылцы.

Навіна імгненна абляцела Бараўляны, і, як мне падалося, узбадзёрыла хворых. Узбадзёрыла, бо нават невідочная прысутнасьць моцнага духам чалавека заўсёды падтрымлівае слабейшых. Распавядаў я цесьцю й ягоным супалатнікам і пра "ракавы корпус" Салжаніцына, прывозіў кніжку Алеся Белакоза, дзе гэты мудры й непахісны ў перакананьнях чалавек расказваў пра сваю перамогу над ракам. Але рэдка хто выходзіў з гэтага двубою пераможцам....

**Страта**

А дзявятай вечара, 22 чэрвеня, — званок Алеся Пашкевіча. Васіль Быкаў памёр… Назаўтра з раніцы зьбіраемся ў Саюзе пісьменьнікаў, куды падыходзяць людзі, у тым ліку сын пісьменьніка Сяргей Васільевіч. Абгаворваюцца неабходныя ў падобных сытуацыях пытаньні: час пахаваньня, адпяваньне, катафалк… Андрэй Дынько прапануе несьці труну да могілкаў на руках. Яму пярэчаць – Усходнія могілкі далёка, не данясем.

Патрабуецца добры фотаздымак Быкава, і я еду шукаць Віктара Жыліна, які шмат здымаў пісьменьніка. Знаходжу таго ў Доме прэсы. Удалыя нэгатывы ёсьць, але чорна-белыя. Кідаюся ў адно фотаатэлье, другое, у трэцім, на вуліцы Чарнышэўскага, бяруцца дапамагчы. Дырэктар сам бярэ плёнку й зьнікае за шырмай. Праз пятнаццаць хвілінаў выносіць гатовыя здымкі й кажа, што за Быкава грошай ня возьме. Па Доме літаратара ходзяць вайскоўцы (палкоўнікі й адзін генэрал), заглядаюць ва ўсе куткі. Потым зьбіраюцца на ганку й абмяркоўваюць, як яны будуць выносіць труну, як падгоняць катафалк ушчыльную да сходаў, як павязуць. Да Дому літаратара нагналі тэхнікі й рабочых – сьпешна кладуць асфальт, мяняюць бардзюры. У творцаў настрой змрочны – зразумела, што хаваць народнага пісьменьніка ўлады задумалі па сваім сцэнары.

Раніца, 24 чэрвеня, 7.20. На двух легкавіках едзем у Бараўляны – Сяргей Васільевіч, Генадзь Бураўкін, кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў. На сьветлафорах адна машына адстае, чакаем яе перад шпітальным КПП. І тут на вялікай хуткасьці (вартаўнік ледзьве пасьпявае падняць шлягбаўм) праносіцца картэж: аўто ДАІ зь мігалкай, катафалк, аўтобус з салдатамі. Подбегам сьпяшаемся да моргу – паўз корпус, дзе ляжыць мой цесьць, малю Бога, каб ён не глядзеў з вакна… У моргу вакол труны зь целам Быкава стаяць салдаты на чале з палкоўнікам, які раз-пораз перамаўляецца па рацыі. Абстаноўка напружаная. Чакаем сына, які затрымаўся з другой машынай. Прашу палкоўніка вывесьці салдат – навошта трымаць труну зь нябожчыкам пад канвоем? Палкоўнік нечакана згаджаецца.

**Пахаваньне**

Прыблізна праз гадзіну жалобны картэж пад'яжджае да Дому літаратара. Там ужо людна, на вынасе з катафалка зачыненую труну хтосьці накрывае бела-чырвона-белым сьцягам. Гэта асабліва нэрвуе генэрала Чаргінца, які адчувае сябе галоўным распарадчыкам і пачынае аддаваць загады. Труна ўстанаўліваецца на сцэне, вакол яе адразу зьяўляюцца вышкаленыя салдаты з роты ганаровага каравулу. Гучыць каманда ўсім, апрача б лізкіх, пакінуць памяшканьне. Мы з Барысам Пятровічам вырашаем не падпарадкоўвацца. Бачым, як каржакаватыя дзецюкі са спэцсувязьзю ў вушах блякуюць усе ўваходы й выхады. Салдаты здымаюць вечка з труны, адзін зь іх акуратна згортвае й перадае мне сьцяг. У галавах нябожчыка адразу зьяўляецца другі – чырвона-зялёны, крыж адстаўляецца за кулісы. Падыходжу да Сяргея Васільевіча й прашу дазволу накрыць нябожчыка бела-чырвона-белым. Ён маўчыць. Накрываю. Да мяне тут жа падбягае Чаргінец і патрабуе прыбраць "негосударственную символику". Мая адмова бянтэжыць і раздражняе генэрала, адбываецца першы збой у зацьверджаным уладамі сцэнары. Хвілінаў дзесяць два сьцягі знаходзяцца ў маўклівым і недарэчным супрацьстаяньні. З прыходам удавы Ірыны Міхайлаўны чырвона-зялёны імгненна зьнікае, разам з ганаровым каравулам. Крыж займае сваё ранейшае месца. Пачынаецца адпяваньне паводле ўніяцкага абраду, на якое праз падахоўныя дзьверы ўсё ж прасочваецца чалавек з паўсотні. Падчас адпяваньня ў залі зьяўляецца міністар культуры Гуляка – старшыня дзяржаўнай камісіі па пахаваньні. Пастаяўшы колькі хвілінаў, ня выказаўшы спачуваньня родным Быкава, увогуле не прамовіўшы ні слова, паважна сыходзіць. Пасьля багаслужбы да мяне мо ў пяты ці шосты раз падбягае мітусьлівы Чаргінец і зноў патрабуе прыбраць нацыянальны сьцяг. Тлумачу, што гэта сьцяг Быкава, і на ляцкане ягонага пінджака прышпілены такі ж самы. "Ну, тады дзяржава адсюль сыходзіць!" – заяўляе генэрал і кіруецца да выхаду. І сапраўды, ваенныя пачынаюць пакідаць залю, а праз паўгадзіны знаёмы яшчэ з Бараўлянаў палкоўнік з палёгкай, як мне падалося, паведамляе, што няма кім камандаваць — зь ім засталося ўсяго некалькі салдатаў. Дзьверы разблякаваныя, народ запаўняе залю, вэстыбюль, лесьвіцы, пачынаецца разьвітаньне. Выходжу на сьвежае паветра й бачу цэлую вуліцу людзей, хвост калёны хаваецца за рогам будынку, там дзе крама "Жако". Пачатак грамадзянскай паніхіды даводзіцца адкласьці на дзьве гадзіны, але людзей ня меншае, а, наадварот, прыбывае. І цяпер чарга пачынаецца проста ад станцыі мэтро "Плошча Перамогі".

На грамадзянскай паніхідзе выступаюць Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Алесь Пашкевіч, Валянцін Тарас, Аляксандар Лукашук, ад Украіны – Вячаслаў Мядзьведзь, ад Нямеччыны — Крыстафэр Гойбнэр, ад Расеі – Валянцін Аскоцкі... У вушах пранізьлівым рэфрэнам працягваюць гучаць радкі дзядзькі Рыгора: "Засталася Беларусь бяз Быкава бедны хатай без гаспадара". З дынамікаў чуецца голас самога Быкава: "Нават калі нічога ніхто не пачуе, усё роўна абавязак творцаў – тварыць, памятаючы, што ісьціна ўсё-такі за намі. За імі, тымі, хто выступае супраць, — перамога, а за намі ісьціна".

Калі труну зь целам Быкава вынесьлі й разьмяркоўвалі між людзей вянкі й цэлую гару разьвітальных кветак, высьветлілася, што ніхто ня хоча браць прэзыдэнцкі вянок. Ён, па-мойму, так і застаўся на сцэне. На Плошчы Перамогі шматтысячная пахавальная працэсія выйшла на праспэкт Скарыны, які міліцыя не перакрыла. Ахоўны ланцужок зладзілі хлопцы з БНФ і "Маладога фронту". Сотні машынаў спыняліся й сыгналілі. Даішнікі стаялі адно на скрыжаваньнях і толькі потым перакрылі палову праспэкту. Да плошчы Якуба Коласа труну несьлі на руках, потым паставілі ў катафалк. І тут улады ў апошні раз паспрабавалі перахапіць ініцыятыву ў свае рукі. Кіроўца атрымаў каманду ехаць хутчэй. Людзкі натоўп тут жа шчыльна самкнуўся перад катафалкам, і я чуў, як шафёр рашуча крычаў некаму: "Я па людзях не паеду!" Шэсьць аўтобусаў, замоўленых дзеля падвозу людзей, так і не зьявіліся, і старэнькія бабулькі мусілі з апошніх сілаў ісьці дзясятак кілямэтраў. (Поруч са мной ішла васьмідзесяцігадовая Валянціна Выхота, прыціскаючы да грудзей збаночак з васількамі.) Калі працэсія зайшла ў браму Ўсходніх могілак, сотні галасоў зацягнулі "Магутны Божа". Мяне штурхнуў пад локаць Аляксандар Лукашук, паказваючы на вянок ад прэзыдэнта, які невядомым шляхам апынуўся-такі на могілках. Я прыгледзеўся – яго несьлі тыя самыя мацакі са спэцсувязьзю ў вушах, якія раніцай не пускалі людзей на адпяваньне.

Ля магілы прамаўлялі пісьменьнікі й палітыкі, у тым ліку экс-кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Памятаю, як, разьвітваючыся, горка, не па-мужчынску, зарыдаў Уладзімер Някляеў. Нехта з быкаўскай радзіны, адужаўшы няблізкую дарогу да могілак, у апошні момант ня вытрымаў, самлеў. На памінальную вячэру дабіраліся таксама хто як мог, прыгадваючы нядобрым словам міністра-гуляку, які на падтанцоўках у прэзыдэнцкай сьвіце падчас славянскіх базараў прагуляў, падобна, апошняе сумленьне. Потым ён пацьвердзіць гэта, ня даўшы ні рубля на памінкі, хоць жалобны стол адпачатку быў замоўлены Мінкультам. Атрымалася, што кавярня Дому літаратараў усё зрабіла за свой кошт. Дзякуй яе дырэктару.

**Хлусьня**

Асобна варта згадаць усю тую вакханалію, якая пачалася літаральна ў дзень пахаваньня ў дзяржаўных СМІ. Тон задаў прэзыдэнт, заявіўшы, што "труну зь целам пісьменьніка да васьмі гадзінаў вечара цягалі па менскіх вуліцах, ператварыўшы пахаваньне ў палітычную акцыю". Хлусьню з прэзыдэнцкіх вуснаў падхапіў і "творча разьвіў" на старонках "Советской Белоруссии" Алесь Карлюкевіч, які з усёй прыдворнай журналісцкай брацці напісаў мо найбольш паскудна. Ладна, прэзыдэнт у дзень пахаваньня перабываў зь неадкладным візытам у Сьветлагорску, інфармацыю атрымліваў з другіх-трэціх вуснаў, але ж ты, пухавіцкі краязнавец Карлюкевіч, бачыў, як народ хаваў свайго прарока. Бачыў і ўсё ж паглуміўся і над памяцьцю Быкава, і над сьветлай народнай жалобай. Саюз пісьменьнікаў быў вымушаны выступіць з адмысловай заявай, пратэстуючы супраць "хлусьні на дзяржаўным узроўні, якая выклікала абурэньне й агіду ва ўсіх сумленных людзей".

**Ушанаваньне**

Мінуў год зь дня сьмерці Васіля Быкава. У Рэспубліцы Беларусь не зьявілася ні вуліцы імя Быкава, ні ўнівэрсытэту, ні нават бібліятэкі. У дзяржаўным выдавецтве ня выйшла ніводнай быкаўскай кнігі. Улада працягвае сваю зацятую вайну зь пісьменьнікам, ідзе спрадвечнае змаганьне зла з дабром, цемры са сьвятлом. Але духоўнаму правадыру нацыі зусім неабавязкова быць фізычна прысутным між людзтва. Наадварот, голас адтуль заўсёды больш пераканальны й заглушыць яго немагчыма.

P.S. Прыйшоў ліст з Украіны, з Кіраваграду, з тае зямлі, дзе Васілю Быкаву стаіць помнік – як загінуламу на фронце. Піша ўзрушаны Васіль Бондар, якому я месяц таму ў Кіеве падараваў кнігу "Быкаў на Свабодзе": "Я люблю Быкава за глыбокую праўду вайны й маленькага чалавека на вайне, якую ён, як ніхто ні ва

украінскай, ні ў расейскай літаратуры, падаў у сваіх аповесьцях. Нялёгка сёньня беларусам, вялікай нацыі ў цэнтры Эўропы, але калі ў яе ёсьць такая зьява, як Быкаў, нацыя перажыве ўсе выпрабаваньні й збудзецца". Сябра Васіль ужо надрукаваў у рэдагаваным ім часопісе "Вежа" апавяданьне "На Чорных лядах", а задумаў перакласьці на ўкраінскую й выдаць у Кіравагрядзе кнігу быкаўскіх навэляў "Сьціяна". Спрыяй табе Божа, браце Васіль. І памятайма Быкава: ісьціна — за намі.

**Міхась СКОБЛА,** намесьнік старшыні Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. /Газэта Слонімская/

*********************************************

# Васіль БЫКАЎ

## Парадоксы жыцьця

## Запісы розных гадоў

...Як і ў дзень Перамогі, перад вялізнай шматтысячнай калонай БНФ, якая ішла ўскладаць кветкі да абеліску Перамогі, паўстала сьцяна міліцыянтаў. Тую сьцяну калона прарвала, амаль не спыняючыся. Тады вырасла шарэнга АМАПу. І тую мы прарвалі. Спыніліся толькі перад узмоцненай, шматраднай шарэнгай АМАПу ля самай плошчы.

Стаялі доўга. Гарачыня, цеснавата. Нада мной, каб засцерагчы ад сонца, увесь час хлопцы трымалі бел-чырвона-белы сьцяг, і ў тым мне ўбачыўся вялізны Боскі сімвал. З такім сімвалам дай Бог і загінуць. І з такімі людзьмі побач.

* * *

У 1939 годзе адбылося "ўзьяднаньне", "далучэньне", "вызваленьне" ці як там Заходняй Беларусі. Ад мае вёскі да былой польскай мяжы было якіх 2 км. Па той бок засталася маміна радзіма, вёска Завулак, яе брат і іншая радня. Усе гады аж да 39-га, я чуў яе расповеды пра Завулак, іхняе бліжняе мястэчка Празарокі, азёры, мясьціны. Але ня бачыў нічога. 20 гадоў - ніякай сувязі. Увосень 39-га мяжа перасунулася аж за Беласток. Але старую не зьнялі. Пагранічнікі вартавалі, як і раней. А ў нас, як і ўсе калгасныя гады, галаднавата, паснавата. І маці надумала. Неяк цёмнаю восеньскай ночкай пайшла ў Караваінскі бор - парушаць граніцу. Колькі натрывалася страху... Але прайшла. Туды і назад. І прынесла на плячах торбачку мукі і бараноўю лапатку - гасьцінцы ад брата. Заходняга селяніна. Які гібеў ад белапольскай акупацыі. А мы раскашавалі Заходняга селяніна. Які гібеў ад белапольскай акупацыі. А мы раскашавалі пад роднай савецкай уладай. І гадамі сядзелі бяз хлеба.

Наплакалася мама. Да й бацька... А мы радаваліся: займелі магчымасьць добра паесьці...

* * *

У 1939-40 гадах пасьля т.зв. вызваленьня Заходняй Беларусі НКВД навербавала ў ёй нямала сексотаў, картатэка на якіх хавалася ў абласных цэнтрах і, вядома, у Маскве. У 41-м з пачаткам вайны чэкісты так рванулі з Гродна, што пакінулі тую картатэку немцам. Немцы разабралі яе і... перавербавалі сексотаў (каб ня траціць час на вярбоўку іншых). Адмоў, вядома, не было. Тыя добра працавалі ўвесь час акупацыі. Але ў 1944 годзе прыйшла Чырвоная армія. Сваю картатэку чэкісты не знайшлі, прывезлі з Масквы копіі ранейшай. Тыя самыя сексоты пачалі рабіць на сваіх першых гаспадароў.

Во ўніверсальнасьць сістэмы!

* * *

У гады вайны ўся партызанка была пад кіраўніцтвам Масквы. Адтуль дасылаліся розныя групы. У тым ліку і чэкісцкія, - пад выглядам разьведвальных. Але што было выведваць у глыбокім нямецкім тыле? У лясах, балотах ды глухіх вёсках? Я ўсё думаў, што тут нешта ня тое.

Аказалася, сапраўды ня так. Чэкісцкія групы мелі больш пэўнае заданьне: вынішчаць "класава чужды элемент". Не данішчаны ў перадваенныя гады. Што яны і рабілі з апорай на мясцовы актыў. Часам самі, часам рукамі немцаў - як Менскае падпольле. А разьведка - гэта любімая "крыша" ўсіх чэкістаў.

* * *

У маёй вёсцы яшчэ, памятаю, да вайны К. кепска жыла са сваім мужыком. Як прыйшлі немцы, пасьля чарговае сваркі яна схадзіла ў Кублічы да немца-каменданта і паскардзілася на мужа. Сказала, нібыта ён звязаны з партызанамі. Назаўтра ў вёску прыехаў камендант з групай паліцаяў, загадаў сабраць народ. Калі ўсе папрыходзілі, аб'явіў свой прысуд: К. за паклёп на мужа 15 шампалоў. А мужу 10 - за тое, што кепска выхоўвае жонку.

Партызанаў тады яшчэ не было.

* * *

**Кацюшы, кацюшы...**

Колькі пра іх складзена міфаў, колькі прысьвечана ім паэтычных радкоў. А на справе ўсё тое блеф, створаны, як і ўсё, камуністычнай прапагандай. Кацюшы гэтыя - болей прадукт камуністычнага ўзьдзеяння на псіхалогію. На фроньце іх не любілі. Пехацінцы іх праклiналі. Яны давалі адзін-два залпы - невядома куды, падымалі хмару пылу і дыму і хуценька зматваліся. Праз 5 хвілінаў па тым месцы пачынала малаціць нямецкая артылерыя і дужа даставалася тым, хто ня мог змыцца. Пяхота не магла, яна і плаціла за гэтыя залпы. Эфектыўнасьць іх была мізэрная, бо білі яны па плошчы, без прыстрэлкі і рабілі куды болей вэрхалу, чым карысьці.

* * *

Пасьля вызваленьня Беларусі, недзе ўвосень 44 году сястра Валя, якой тады было 18 гадоў паграздзілася ісьці ва Усходнюю Прусію, каб прыгнаць адтуль у раён каровы. Сказалі, як прыгоняць, усім прыгоншчыкам дадуць па карове. Сястра абрадавалася - сваёй каровы ўжо не было. Гналі той статак доўга, трэба было даіць і пасьвіць, і самім карміцца. Напакутвалася страшэнна. А як прыгналі, кароў усіх размеркавалі па калгасах, а прыгоншчыкам - дулю.

У каторы раз ашукала начальства.

Пасьля такога ашуканства было безьліч.



*Да 205-й гадавіны з дня нараджэння А.С.Пушкіна*

**Цімафей Ліякумовіч, Chicago**

# Нязгаслая пародненасць

Аляксандр Сяргеевіч Пушкін быў упэўнены, што яго ўспомняць добрым словам "і горды ўнук славян, і фін, і покуль дзікі тунгус, і стэпаў друг калмык". Паэтава перакананне ў сваім нерукатворным помніку і вера ў доўгую народную прыязнасць грунтаваліся на тым, што ён у свой няўмольны век уславіў свабоду, "літасць да нябог гукаў" і "лірай добрыя пачуцці абуджаў".

У горкія для сябе дні – спачатку па дарозе ў паўднёвае выгнанне (1820), а потым у Міхайлаўскую вязніцу (1824) – Пушкін меў магчымасць сваімі вачыма ўбачыць цяжкае прыгоннае жыццё беларускага селяніна ("Пад посвіст бізуноў, з пахілай галавой, Тут рабства беднае пляцецца баразной і шле няўмольнаму валадару праклёны") і прасякнуцца да яго шчырым пачуццём спагаднасці. Пясняр вольнасці адным з першых звярнуў увагу сучаснікаў на пакуты "народа, спрадвечна нам роднага". У прыязных спачуваннях, у марах пра радзіму, асвечаную свабодай, пра "шчаслівы дзень святла і брацтва" паэту бачыўся вызваленым з-пад ярма і беларускі народ.

Беларусь з удзячнасцю адгукнулася на пушкінскую спагадлівасць. З часу з'яўлення паэмы "Тарас на Парнасе", аўтар якой з захапленнем паставіўся да генія рускага слова, Пушкін апынуўся ў эпіцэнтры развіцця беларускай літаратуры, садзейнічаў яе адраджэнню, самасцвярджэнню, майстэрскаму абагачэнню.

Увогуле без уліку мастацкіх адкрыццяў вялікага рускага пісьменніка немагчыма паспяховае развіццё ні адной са славянскіх літаратур. "Пушкін нам – як ласка, падараваная Богам", -- сцвярджаў Пімен Панчанка. Беларуская літаратура, якая абрала высакародную мэту служэння роднай зямлі, роднаму народу, убачыла ў рускім паэце гордага вяшчуна свабоды, заклапочанага "лёсам чалавечым, лёсам народным". Для Пушкіна "зарука сапраўднага таленту" суадносілася з "глыбокім добрасумленным даследаваннем ісціны". Пошукі ісціны вызначылі магістральныя шляхі беларускай літаратуры, якой Пушкін, гаворчы словамі Фёдара Дастаеўскага, спрыяў зразумець "народ свой і святую праўду яго". Пушкінскую пропаведзь абароны чалавечай годнасці, спагаду да лёсу людзей працы беларускія пісьменнікі ўспрынялі як сваё кроўнае, блізкае, як адпаведнае ўласным уяўленням. Беларускія мастакі слова таксама захапляліся невычэрпнай глыбінёй і бліскучасцю мыслення рускага паэта, дасканаласцю формаў пушкінскіх твораў, прыгажосцю фразы, натуральнымі інтанацыямі, лёгкасцю і класічнасцю стылю. "Люблю я Пушкіна за яго прыгожы, чароўны верш. Люблю за багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх – ад малога да вялікага... Я люблю Пушкіна за тое, што ён жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва", -- прызнаваўся Янка Купала, чый мастацкі свет, падобна пушкінскаму, акумуліраваў у сябе гіганцкую гістарычную энергію свайго народа.

Асэнсаванню асаблівасцей пушкінскай паэтыкі, пранікненне ў творчую лабараторыю геніяльнага рускага мастака слова спрыяла праца беларускіх пісьменнікаў па перанясенні яговых радкоў на родную мову. Пры перакладзе нашы паэты імкнуліся перадаць сэнс і форму, інтанацыі і рытм арыгінала – усе кампаненты, якія вызначаюць мастацкі голас аўтара. Сімвалічна, што першым на беларускай мове атрымаў другое жыццё верш "Рэха" (у перакладзе А.Гурыновіча) – роздум аб узаемаадносінах мастака з грамадствам.

"Медны коннік" у перадачы Янкі Купалы. "Палтава" ў трансфармацыі Якуба Коласа прызнаны класічнымі ўзорамі беларускага перакладчыцкага майстэрства. Аўтар "Новай зямлі" з прыемнасцю ўспамінаў пра надзвычайнае натхненне, якое суправаджала яго ў час працы над перакладам паэмы: "З вялікім узрушэннем я пачынаў пераклад "Палтавы". Выключная суразмернасць (ва ўсіх трох песнях, бадай, аднолькавая колькасць радкоў!), абмалёўка характараў, дынамічнасць дзеяння і, нарэшце, верш! Пушкінскі верш! Бязмежна ясны, лёгкі, у якім перадаецца не толькі рух, але нават дыханне. Усё гэта ставіла цяжкасці, здавалася б, неадольныя, але колькі сапраўднай творчай радасці прынеслі тыя гадзіны, калі з гурбы чарнавікоў узнікалі ўжо гатовыя вобразы і ўрыўкі. Гэта была работа "па мандату абавязку", абавязку перад паэтам, які некалі адкрыў мне дзівосную магчымасць гаварыць вершам". Кузьме Чорнаму належаць пераклады "Станцыйнага даглядчыка", "Дуброўскага", "Капітанскай дачкі", Пятро Глебка пераклаў трагедыю "Барыс Гадуноў", Рыгор Барадулін – "маленькія" трагедыі, Андрэй Александровіч – паэму "Руслан і Людміла", Алесь Якімовіч – казкі.

Аркадзь Куляшоў пакінуў беларускай літаратуры ў спадчыну натхнёны пераклад "Яўгенія Анегіна". Ён лічыў, што "па-сапраўднаму перакладаць Пушкіна – гэта значыць, у якойсьці меры ўступаць у адзінаборства з ім. І няхай у гэтым адзінаборстве пераможцам акажацца Пушкін, але ўжо тое, што набыў паэт у спаборніцтве і духоўнай пароднёнасці з ім, у творчым далучэнні да яго вялікіх твораў, ужо адно гэтае на многія і многія гады абагачае паэта-перакладчыка". Такой жа думкі прытрымліваўся і М.Танк: "Для кожнага з нас – гэта не проста праца над перакладам, а вялікая падзея ў творчым жыцці. Пераклады з Пушкіна – экзамен на сталасць мастака, выпрабаванне для ўсёй літаратуры, сведчанне яго росту, развіцця, узроўню мастацкай культуры".

Сярод перакладчыкаў пушкінскіх твораў – Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Сяргей Грахоўскі, Міхась Стральцоў, Янка Сіпакоў і іншыя выдатныя майстры беларускай паэзіі. Яны праявілі высокае мастацкае майстэрства і вынаходлівасць пры пераўвасабленні сродкамі роднай мовы маштабнасці пушкінскіх твораў, нязмушанасці і імклівай лёгкасці ягонага радка. Аб гэтым, напрыклад, сведчыць і пераклад Петруся Макаля вядомага верша "Я вас кахаў...", у якім у беларускай трансфармацыі, як і ў арыгінале, натуральна гучыць кожны пушкінскі радок, а твор поўнасцю перадае велікадушнасць пушкінскага лірычнага героя.

Я вас кахаў: яшчэ ў душы, магчыма,
Маё каханне згасла не зусім;
Не ўзнікну больш у вас перад вачыма;
Я не хачу вас засмучаць нічым.

Я вас кахаў маўкліва і журботна,
То з рэўнасцю, то з роздумам цяжкім.
Я вас кахаў так шчыра, так пяшчотна,
Як дай вам Бог каханай быць другім.

А вось як натуральна гучаць у барадулінскім перакладзе радкі славутага верша "Я помнік збудаваў сабе нерукатворны":

Пачуй, о муза, слова боскае з пашанай,
Не бойся крыўды ты і пра вянок не дбай;
Паклёп і пахвалу прымай з душой рахманай
І ў спрэчку з дурнем не ўступай.

Актыўная праца па перакладзе твораў рускага класіка на родную мову сведчыць аб імкненні беларускіх пісьменнікаў наблізіць Пушкіна да свайго народа. Гэта дзякуючы іх захопленасці, пачуццю адказнасці як перад пушкінскім, так і родным словам, творчым гарэнні і таленце, класік рускай літаратуры ўпэўнена загаварыў па-беларуску. Наша літаратура з годнасцю вытрымала складаны экзамен параднення з пушкінскім геніем, пераканала ў разнастайнасці версіфікацыйных магчымасцей беларускай мовы, якая абагачалася ў працэсе перакладу пушкінскіх твораў. Невыпадкова ў 1987 годзе Рыгору Барадуліну, як аднаму з пераможцаў сусветнага творчага спаборніцтва "за шчодрае і душэўнае прадстаўленне свайму народу творчасці расійскага генія Аляксандра Сяргеевіча

Пушкіна", уручаны ганаровы дыплом і прэмія.

Першая кніга Пушкіна на беларускай мове "Выбраная проза" з'явілася ў 1936 годзе: у яе ўвайшлі "Аповесці Белкіна" і "Капітанская дачка". У 1937 годзе асобнымі выданнямі ўбачылі свет "Барыс Гадуноў", "Медны коннік", "Каўказскі нявольнік", "Домік у Каломне", "Казка аб залатым пеўніку", "Казка пра папа і пра парабка яго Балду", у 1938 годзе – "Руслан і Людміла", "Бахчысарайскі фантан", "Палтава", "Казка пра рыбака і рыбку", у 1949 годзе – да 150-годдзя з дня нараджэння пачынальніка сучаснай рускай літаратуры – ладны том "Выбраных твораў", у якім былі прадстаўлены лірыка, паэмы, трагедыі, раман у вершах "Яўгеній Анегін", проза, казкі. З выданняў апошніх гадоў удзячную ўвагу чытачоў выклікалі з густам афармленыя "Выбраныя творы" ў 2 тамах (1993) і зборнік лірыкі "Нет, весь я не умру…"(1993), у якім змешчаны паралельна арыгіналы і пераклады. Гэтыя выданні адразу ж сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, што сведчыць пра нязгасную, надзвычай высокую цікавасць беларускай культурнай грамадскасці да пушкінскай літаратурнай спадчыны.

Як вялікае нацыянальнае свята ў 1999 годзе на Беларусі адзначалася 200 гадоў з дня нараджэння чарадзея рускага слова. Знакаміты Год Пушкіна істотна ўзбагаціў беларускую Пушкініяну. Асабліва трэба адзначыць кнігу "А.С.Пушкін і Беларусь", якая падвяла вынікі даследвання суадносін паэта і ягонай літаратурнай спадчыны з Беларуссю і адкрыла новыя далягляды для беларускага пушкіназнаўства.

Мела рацыю Алена Васілевіч, калі сцвярджала: "І не трэба нам сёння… апантана…, гвалтам вылузвацца, зняважліва адмахвацца- адмаўляцца ад высокай культуры і яе ўдзячнага святла, якое суправаджала нас і ўзвышала ў нашым свядомым жыцці (хто здольны быў яго ўспрымаць)… А тут сёння можна пачуць ужо, што і Пушкін нам не патрэбны і не цікавы. (А Купалу ён быў цікавы). Сёння "прымытыўныя" ўжо і "навошта яны нам?" – і высокае мастацтва і музыка ўсім светам прызначаных майстроў. Толькі таму, што яны не былі… беларусасмі? А мы ж на кожным кроку пнемся даказваць, што мы э ў р а п е й ц ы ".

Беларускай літаратуры няма неабходнасці адмяжоўвацца ад вялікага паэта. Пушкін застаецца для яе надзейным арыенцірам і аб'ектам прыцяжэння, бо яна ў асобах сваіх лепшых прадстаўнікоў імкнецца да маштабнасці адлюстравання жыццёвых з'яў, не спрабуе перайначыць свае ўзвышаныя ідэалы, працягвае абараняць інтарэсы народа, шукае праўду і не прымае хлусні, хоча заставацца на ўзроўні класічных узораў, прытрымліваецца высокіх духоўных і мастацкіх крытэрыяў. Пушкін неадрыўны ад Беларусі і яе прыгожага пісьменства. Пятрусь Броўка з удзячнасцю ад імя беларускага народа і беларускіх майстроў слова пісаў:

Ягоны геній
З калыханкі
Натхніў нас сілай і красой,
Як гоман хваль,
Як бляск маланкі,
Як буры рокат над зямлёй.
Прайшоў
Праз пушчы ён і горы,
Святлом сабе праклаўшы
Шлях.
Ягоным словам, быццам
Зорам,
Гарэць нязгаслым у вяках.

* * *

# «Ще не вмерла Україна...» — з ёю танчыць уся Еўропа!

Вікторыя ЦЕЛЯШУК
«ЕЎРАБАЧАННЕ-2004»

...Вось яно, адбылося і нават скончылася — і зараз з поўным правам можна яхідна паціраць рукі і ўзгадваць: «А я ж гаварыла, я ж папярэджвала!». Украінская спявачка Руслана перамагла 15 мая на фінале конкурсу «Еўрабачанне-2004» у Стамбуле ўсіх сапернікаў. Так што свой юбілей (50 гадоў!) конкурс адзначыць у 2005-м у Кіеве...

Можна, канешне, спрачацца, што галасаванне на «Еўрабачанні» сумніўнае, а гонар перамогі — гэта не толькі вялізнае шоу ў Кіеве, але таксама і вялізная дзіра ў бюджэце. Але факт застаецца фактам: насуперак прадказанням скептыкаў, маўляў, фолк у Еўропе сёлета не ў фаворы, браты-славяне «ўзарвалі» залу і завялі гледачоў, сцвердзіўшы, што можам — калі вельмі хочам!

**У кадры і за ім**

24 фіналісты — гэта, шчыра кажучы, многа. Палову выканаўцаў дакладна не запомніш, калі не будзеш рабіць сам сабе спецыяльныя паметкі-адзнакі ў блакноце (а што, мы, гледачы — і ёсць самае галоўнае журы; калі, канешне, здолеем «прабіць» тэлефонную лінію, але пра гэта і так вядома). Для тых, хто не бачыў трансляцыі — а ў Беларусі гэта можна было зрабіць толькі з дапамогай БТ, — коратка нагадаю сэнс і змест падзеі. У 49-ы раз артысты з розных краін, якіх сёлета налічвалася ажно 36, з'ехаліся на своеасаблівае песеннае спаборніцтва. Зрэшты, чым далей, тым лепш бачна, што з конкурсу песні «Еўрабачанне» ператвараецца ў конкурс шоу. Аголеныя жывоцікі (ці іншыя часткі цела), яркая знешнасць, падтанцоўка, святло і гукавыя эфекты адыгрываюць куды большую ролю, чым выдатны, добра пастаўлены вакал (прывітанне ізраільцяніну Дэвіду Д'Ору, які з голасам салавейкі — куды там Баскаву — не здолеў усё ж перасячы мяжу паўфіналу).

Нагадаю, беларускія ўдзельнікі — дуэт «Аляксандра і Канстанцін», якія ў ліку 22 паўфіналістаў спрабавалі прабіцца на фінальны канцэрт, атрымалі па выніках галасавання 10 балаў (19 месца) і ў далейшым спаборніцтве ўжо не ўдзельнічалі. Ведаеце, што ў гэтым самае крыўднае? Што Андора, якая ў фінал трапіла, набрала ўсяго на 2 балы больш! У ліку апошніх у паўфінале апынуліся таксама Манака (10 балаў), Славенія (5 балаў) і Швейцарыя (0!).

У дзесятку шчаслівых фіналістаў увайшлі Сербія і Чарнагорыя, Мальта, Галандыя, Албанія, Украіна, Харватыя, Боснія, Македонія, Грэцыя, Кіпр. Дарэчы, з паўфінальным галасаваннем, як высветлілася толькі нядаўна, адбыліся пэўныя накладкі. У Манака, скажам, галасаванне не адбылося па тэхнічных прычынах, але славутая камп'ютарная праграма «падлічыла» неіснуючыя галасы; Харватыя ўмудрылася даць балы сама сабе — і зноў камп'ютары прапусцілі памылку. У выніку арганізатары конкурсу ў спешным парадку ўвялі правіла: калі ў ходзе тэлефоннага галасавання атрымана менш як 100 галасоў, яго вынікі замяняе галасаванне журы.

**Пад уражаннем**

Страціўшым шанцы на перамогу, беларусам заставалася толькі сачыць за фіналам выключна ў якасці балельшчыкаў: усё ж трое суседзяў — Расія, Украіна, Польшча — да першага месца імкнуліся і на нашы добрасуседскія адносіны (і, адпаведна, галасы) разлічвалі.

З фіналу туркі — а збольшага самі ўдзельнікі — зрабілі сапраўднае шоу. Столькі сцягаў, фарбаў, светлавых эфектаў! Праўда, вось гук... Кажуць, усяму віной турэцкі перадатчык: у зале выступленні гучалі нармальна, а вось пры тэлетрансляцыі з галасамі і мелодыямі адбывалася нешта жахлівае. Прынамсі, многія канкурсанты зрабілі ўсё, каб саставаць уражанне аб сабе самастойна. Скажам, дуэт з Мальты, Жулі і Людвіг. Змрок! Опера ў спалучэнні з папсой, ды яшчэ частковая стылізацыя пад «ABBA» (у гэтым годзе, між іншым, адзначалася 30-годдзе перамогі шведскага гурта на «Еўрабачанні») — гэта ўсё адно што Іосіф Давыдавіч Кабзон танцаваў бы балет. А «прышыблены льдзінай» гарачы ісландскі хлопец з невымоўным імем (скарочана Йонсі), які тры хвіліны спяваў калыханку і перыядычна нервова рухаўся, — пэўна, гэта павінна было абазначаць страсны танец...

А малады чалавек Дзін з Босніі і Герцагавіны — калі б да яго песні пра дыскатэку не дадаваліся, гм... «пятыя кропкі» дзяўчат, глядзець было б зусім няма на што. А слухаць — тым болей. У гэту ж кампанію можна было спісваць секстэт ірландцаў — мноства хлапцоў у чорным, адзін, саліст і былы кікбаксёр, у белым. Санда Ладосі з Румыніі нагадвала рэкламу бялізны: фігура ў дзяўчыны, безумоўна, добрая, і канцэртны касцюм — гэткая пародыя на купальнік — гэта падкрэсліваў, а вось голас спявачка, напэўна, дома забыла...

Яшчэ з паўфіналу запомніўся грэк Сакіс Рувас. Малайчына чалавек: яркі, запамінальны прыпеў, танцавальнасць кампазіцыі, выгляд мачо, драныя джынсы і раздзяванне дзяўчат на сцэне — усе элементы шоу. Шэйк. Шык! Нядрэннае ўражанне пакінуў англічанін Джэймс Фокс, падобны на Элтана Джона ў маладосці (адзінокім дзяўчатам для шматгадзіннага прaслухоўвання рэкамендуецца). Турэцкая «Athena», паводле трапнага выразу нашага тэлекаментатара Алеся Круглякова, амаль што «Ляпісы» — гэткія ж нефармальныя і вельмі каларытныя музычныя хуліганы. Універсал Жэлька Яксімавіч з Сербіі і Чарнагоры хадзіў у прэтэндэнтах на перамогу задоўга да фіналу — так прыгожа вылаваў фолк не здолеў ніводны іншы выканаўца...

**Матэматыка з геаграфіяй**

Асобны сказ — пра суседзяў-славян. Сказаць, што Расія расчаравала — гэта значыць не сказаць нічога. Выпускніца «Фабрыкі зорак» Юля Савічава экзамены ў шоу-бізнэс правяліла — як на «Worldbest», так і на «Еўрабачанні». Паненка з невядомымі мэтамі караскалася на целы паўголых расфарбаваных мужыкоў, ледзь не падаючы адтуль. Складвалася ўражанне, што музычныя фразы Юля не дапявае, а глытае, забываючыся на хаду словы. А касцюм... Гісторыя з джынсікамі на «Worldbest» не навучыла расійскіх дызайнераў працаваць над памылкамі. Глядзець на Юлю было сумна (ой, дастанецца ёй зараз на радзіме!) і нават крыху сорамна: Юля Савічава — гэта ж яшчэ не ўся Расія... Можа, прадзюсар Максім Фадзееў прыдумаў і неблагі тэкст, аднак разабраць яго не было ніякай магчымасці. Тым больш смешнымі выглядалі 12 балаў, «падораныя» нашай краінай (беларусы, дарэчы, былі першымі, хто хоць неяк падтрымаў расійскую спявачку). Праўда, далей галасаванне пайшло па добра накатанаму геапалітычным шляху: Расію не абышлі ўвагай Сербія і Чарнагорыя, Кіпр (ну, зразумела, а то ўвесь турбізнэс накрыецца), Фінляндыя (асаблівасці нацыянальных узаемаадносін), Эстонія, Грэцыя, Ізраіль (без каментарыяў), Літва, Латвія і Украіна. У выніку — 67 балаў і 11-е месца.

Зусім іншая справа — Украіна. Нехта з замежных журналістаў зазначыў: вакал слабаваты. Па-першае, паспрабуйце хто-небудзь адначасова спяваць і танчыць! Па-другое, за апошні час — аддамо даніну павагі Руслане Лыжычко — вакал спявачкі істотна палепшыўся. Шоу «Дзікія танцы» на аснове гуцульскіх рытмаў яна прыдумала сама з пачатку да канца, сама ж — пры дапамозе мужа-прадзюсара — паставіла шоу-балет «Життя», запісала драйв-этна-дэнс альбом — нават уласнаручна выканала партыю барабанаў, праехала з прома-выступленнямі па 15 краінах Еўропы, сама сябе «вывезла» на «Еўрабачанне», дзе таксама раскруціла моцную групу падтрымкі. І прымусіла скакаць — праўда, не пад дудку, а пад трэмбіты — усю Еўропу! Як высветлілася, менавіта такая, крыху ацывілізаваная, «дзікасць» і была запатрабаваная — а зусім не славуты салодкагалосы «еўрапоп». «Я ганаруся, што дадала пазітыву ў вобраз сваёй краіны, — адзначыла пасля перамогі Руслана. — Няхай цяпер усе да нас прыедуць і ўбачаць, як многа ва Украіне сяброўства, любові, адкрытасці». Як стала вядома, з перамогай Руслану адным з першых павіншаваў асабіста прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Варта адзначыць, што ніводная (!) краіна не прапусціла Украінку пры галасаванні і не дала менш як 4 балы. У выніку — 280 балаў і перамога з вялізным адрывам (у Сербіі — 263, у Грэцыі — 252 і ў Турцыі — 195 балаў адпаведна).

Падкрэслю, што ўсе чатыры ўдзельнікі, якія акупіравалі верхнія радкі рэйтынга «Еўрабачання», агульнапрынятым поп-стандартам НЕ адпавядалі і ўласны нацыянальны каларыт выкарыстоўвалі па поўнай праграме. Добры повар вам скажа: не так важна, з якіх інгрэдыентаў прыгатаваная страва, галоўнае — чаго колькі ўзяць і як гэта падаць. З 24 фіналістаў сёлета больш як палова «салодкіх хлопцаў» арыентаваліся на Таркана, капіравалі папулярны стыль, а ў выніку... Месца ў фінале «Еўрабачання-2005» забяспечылі сабе: Украіна, Сербія, Грэцыя, Турцыя, Кіпр, Швецыя, Албанія, Германія, Боснія, Іспанія, Расія, Мальта, Францыя, Вялікабрытанія (гэта з улікам так званай «вялікай чацвёркі» краін, якія выдзяляюць на правядзенне конкурсу больш за ўсіх грошай і таму ніколі не вылятаюць з фіналу).

**Свая кашуля**

Калі ж вярнуцца да Беларусі... Вельмі хочацца сказаць, што дэбют — яшчэ не правал (узгадайце Нарвегію, якая ў фінале атрымала толькі 3 балы — ад Швецыі, і тое з пачуцця міласэрнасці), а жорсткі ўрок, што не трэба шукаць вінаватых, а трэба выпраўляць памылкі... Перад тэлетрансляцыяй паўфіналу генеральны пра- дзюсар БТ Уладзімір Максімкаў (ён «курыраваў» беларускіх канкурсантаў на ўвесь час падрыхтоўкі) сказаў, што гатовы несці за дуэт адказнасць і нават пакінуць сваё месца, калі выступленне будзе правальным. Пасля эфіру на Уладзіміра Яўгенавіча балюча было глядзець, але ад сваіх слоў ён не адмовіўся. Прэтэнзій насамрэч многа да ўсіх: тэлевізіёнікаў, дызайнера, харэографа (а ён увогуле з кім-небудзь працаваў?), бэк-вакалу, саміх выканаўцаў. А прыклад, як трэба рабіць. — вось ён, перад вачамі, далёка хадзіць не трэба. Патрэбны грошы? Канешне. Больш часу? Натуральна (Руслана, да прыкладу, шліфавала свой «плацінавы» альбом год, вучылася майстэрству ў саміх Led Zeppelin). Менш амбіцый? Не. Менш прэтэнзій. Больш адказнасці. І стопрацэнтная аддача!

**************************************************



# Якую ролю адыгралі савецкія спецслужбы падчас нямецкай акупацыі Беларусі?

Яшчэ задоўга да вайны савецкія спецслужбы пачалі ствараць на тэрыторыі Беларусі сакрэтныя базы для магчымага вядзення партызанскай барацьбы, дзе захоўваліся зброя, медыкаменты, харчаванне. У выпадку акупацыі Беларусі яны меліся стаць цэнтрамі партызанскіх групаў і аддзелаў (атрадаў) НКВД, асноўныя задачы якіх - дэзарганізацыя работы варожага тылу, знішчэнне ў тыле жывой сілы праціўніка, выведка і контрвыведка, а таксама "вядзенне палітыка-растлумачальных мерапрыемстваў" сярод ворага і насельніцтва. Але ўжо ўвосень 1939 года на загад Сталіна гэтыя базы былі зліквідаваныя. Таму з пачатку вайны ва ўмовах імклівага наступу немцаў разгарнуць шырокі партызанскі рух не было як.

Увосень 1941 - увесну 1942 года па ўсёй Беларусі дзейнічалі (паводле афіцыйных звестак) 16 аддзелаў НКГБ. Найбольш вядомыя з камандзіраў спецаддзелаў - Кірыла Арлоўскі і Станіслаў Ваўпшасаў. Як правіла, чэкісцкія аддзелы былі невялікія і мабільныя. Дзейнасць іх распаўсюджвалася на вялізныя тэрыторыі: так, аддзел "Вторые" кантраляваў Быхаўскі, Бялыніцкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі, Крычаўскі, Прапойскі, Рэчыцкі, Кармянскі, Рагачоўскі, Брагінскі, Васілевіцкі, Калінкавіцкі, Хойніцкі і Палескі раёны; аддзел "Ходоки" дзейнічаў у Гомельскай, Брэсцкай, Чарнігаўскай, Сумскай, Жытомірскай і Валынскай абласцях.

У мэтах лепшай падрыхтоўкі партызанскага руху ЦК КП(б)Б супольна з камандаваннем Заходняга фронту ў сярэдзіне ліпеня 1941 года арганізавалі Вучэбна-аперацыйны цэнтр, дзе ў навучанні будучых партызанаў актыўны ўдзел бралі работнікі НКГБ.

Дыверсійная дзейнасць савецкіх спецслужбаў мела на мэце справакаваць з боку нямецкіх акупантаў меры ў адказ. І сапраўды, акцыі чэкістаў спрычыняліся да карных экспедыцый немцаў супраць мірных беларускіх жыхароў. А карныя аперацыі ў сваю чаргу выклікалі пратэст насельніцтва, шмат каго вымушалі ісці ў партызаны… Чэкісты разам з падпольшчыкамі і партызанамі праводзілі тэрарыстычныя акты супраць буйных прадстаўнікоў акупацыйных уладаў, збіралі выведкавую інфармацыю.

Акрамя таго, яны вялі ўлік "предателей и врагов Советской Отчизны", перадусім супрацоўнікаў створанай немцамі мясцовай цывільнай адміністрацыі, якіх каралі смерцю разам з сем'ямі, не шкадуючы ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Удзел інтэлігенцыі ў арганізацыі беларускага школьніцтва, культурнай працы і нават выкананне сялянамі накладзеных на іх акупацыйнай уладай абавязкаў па здачы сельгаспадарчай прадукцыі таксама трактаваліся як "измена Советской Родине".

У 1942-1944 гадах НКГБ былі закінутыя дзесяткі групаў, якія акрамя выканання спецыяльных задач павінны былі разам з падпольнымі органамі займацца арганізацыяй партызанскага руху. Яны вылучаліся жорсткасцю да мясцовага насельніцтва, у іх асяроддзі нярэдкімі былі даносы, неабгрунтаваныя арышты і расстрэлы на месцы.

У складзе партызанскіх аддзелаў, брыгад і злучэнняў, паводле звестак Беларускага штаба партызанскага руху, знаходзіліся болей за 1850 камуністаў-чэкістаў. Да лета 1944 года ў выведцы і контрвыведцы партызанскіх аддзелаў Беларусі працавалі больш за 560 чэкістаў. Агульнае кіраванне іх дзейнасцю ажыццяўляла аператыўна-чэкісцкая група НКГБ па БССР, якую ўзначальваў Лаўрэнцій Цанава.

Тацяна ПРОЦЬКА.

****************************************************

# «Ідэальна было б, каб пасада прэзыдэнта перайшла да палітыка залатой сярэдзіны»

**Прымаючы дапамогу Захаду, апазыцыянэры ператвараюцца ў дысыдэнтаў, лічыць Аляксандар Рар. Палітоляг А.Рар — галоўны ў Нямеччыне экспэрт па Беларусі.**

**Яго лічаць «голасам Эўропы» пры камэнтаваньні падзей у нашай краіне. 45-гадовы А.Рар з 1994 г. працуе ў Нямецкім таварыстве замежнай палітыкі, дзе ўзначальвае аддзел СНД і Расеі. Гутарка з палітолягам адбылася ў Празе падчас сэмінару «Новыя суседзі Эўразьвязу».**

**«Наша Ніва»**: Ці бачыце вы нешта новае ў палітыцы Беларусі?

Аляксандар Рар: Не. Няма знакаў, што Беларусь неяк па-новаму асэнсоўвае сваю геапалітычную і геастратэгічную ролю ў новай, вялікай Эўропе. Адзінае новае — зыгзагі ў дачыненьні да Расеі. Аднак і тут разрыў настолькі істотны, што прэзыдэнт Беларусі ўсё больш трапляе ў ізаляцыю, цяпер ужо ня толькі ад Эўразьвязу, у якой ён знаходзіцца ад 1997 г., але і ад Расеі. І гэта ўжо для эканамічнага разьвіцьця краіны, для будаўніцтва незалежнасьці Беларусі небясьпечна.

**«НН»**: Вы думаеце, Расея можа адыграць пазытыўную ролю ў Беларусі ў бліжэйшыя гады?

**А.Р.**: Расея цяпер занятая кансалідацыяй уласнай дзяржаўнасьці. У ёй пераважаюць аўтарытарныя, а не дэмакратычныя тэндэнцыі. Гэта зьвязана з унутранымі праблемамі. Яна не ідзе ў бок дыктатуры, але змагаецца з карупцыяй, алігархіяй, аднаўляе дзяржапарат, перабудоўвае адносіны цэнтру з рэгіёнамі. У Расеі няма цяпер замежнапалітычных магчымасьцяў настолькі ўплываць на дэмакратычныя працэсы ў Беларусі, як гэта можа рабіць Эўразьвяз, разам з новымі членамі арганізацыі. Але нельга дапусьціць, каб Беларусь стала каменем спатыкненьня, аб'ектам геапалітычных баталій паміж Расеяй і ЭЗ, хоць многія экспэрты лічаць, што тыповай праблемай у адносінах паміж Расеяй і пашыраным ЭЗ менавіта і можа стаць не Украіна, а Беларусь, бо яна сапраўды «краіна ў памежжу», шэрая зона, што можа стварыцца між ЭЗ і Расеяй.

Беларусь больш не разглядаецца як пераходная краіна. Рэформы закончыліся. Кіраўніцтва прыняло для сябе рашэньне быць там, а ня тут.

**«НН»**: Якое ўражаньне зрабіла апазыцыя ў Брусэлі й Бэрліне?

А.Р.: Калі ў выніку гэтых паездак апазыцыя зьяднаецца вакол аднаго кандыдата, палітычна прымальнага для цэнтрысцкага электарату, — гэта адно. Аднак калі апазыцыя едзе на Захад, каб шукаць фінансавай дапамогі для барацьбы з рэжымам, то гэта будзе пераход у такую небясьпечную фазу, калі яна перастане быць апазыцыяй, а стане дысыдэнтвам. Дысыдэнты былі ў савецкія часы сьмелымі людзьмі і нават пакутнікамі, але палітычны працэс ад гэтага не абавязкова выйграваў. Я спадзяюся, што палітычны працэс у Беларусі ўсё ж будзе адбывацца па-іншаму, што апазыцыя не ператворыцца ў дысыдэнцкае асяродзьдзе, што яна будзе шукаць кампрамісаў. Я не гавару пра кампрамісы з Лукашэнкам, але з тым істэблішмэнтам у Беларусі, які знаходзіцца як бы «паміж» і таксама ня мае вялікага ўплыву на беларускую палітыку. Ідэальна было б, каб пасада прэзыдэнта перайшла да Лукашэнкі, які б не балятаваўся ўжо ў трэці раз, да нейкага палітыка залатой сярэдзіны. Дастаткова дэмакратычнага, эўрапеізаванага, але й дастаткова кансэрватыўнага для беларускага электарату.

**«НН»**: Ці выжыве грамадзянская супольнасьць пад такім прэсам, як цяпер, без дапамогі з-за мяжы? А калі ня выжыве, ці можна будзе гаварыць пра палітычныя перамены?

**А.Р.**: Я згодзен з такім аргумэнтам, ён важкі. У той жа час трэба абдумаць і іншае. У якой ступені ў вачах беларусаў дапамога Захаду, ідэнтыфікацыя толькі з заходнімі праграмамі, з заходнімі надзеямі, з заходнімі плянамі да Беларусі ў палітычным пляне прыводзіць да таго, што частка людзей не разглядае прадстаўнікоў апазыцыі як сапраўды незалежных, нацыянальных палітыкаў? Ва Украіне, напрыклад, грамадзянская супольнасьць не абавязкова грунтуе свой уплыў і свае магчымасьці толькі на дапамозе Захаду, а далучае да свайго крэда і рэсурсы знутры краіны. Не хачу ні ў чым абвінавачваць беларускую апазыцыю, тым больш што яна робіцца ўсё больш кансалідаванай сілай, бо Лукашэнка не ідзе ні на якія кампрамісы, ды ўсё ж хацелася б, каб гэтыя палітыкі-героі ішлі ў народ і не абмяжоўваліся тымі магчымасьцямі, якія яны маюць дзякуючы заходнім структурам, а шукалі супольную мову з кансэрватыўна і нацыянальна настроеным электаратам, які мае шмат пытаньняў да таго, што ўяўляе сабой сёньня Захад.

Ня выключана, што змагацца з такім аўтарытарызмам, як беларускі, сапраўды можна толькі дысыдэнцкімі мэтадамі. Але, на жаль, эфэкт ад дысыдэнцкага змаганьня абмежаваны. Не дысыдэнты развалілі Савецкі Саюз, і не яны сталі палітыкамі ў постсавецкіх краінах.

Гутарыў Мікола Бугай

****************************************************

# 20 траўня — Дзень зьяўленьня Жыровіцкага абраза Маці Божай

**Штогод 20 траўня ў Жыровічах адзначаецца свята зьяўленьня Жыровіцкага абраза Маці Божай. У гэты дзень Жыровічы наведваюць тысячы праваслаўных вернікаў.**

Паводле царкоўнага падання, абраз з'явіўся дзесьці ў 1470 годзе на грушы-дзічцы. Яго знайшлі пастушкі мясцовага пана Аляксандра Солтана. Яны прыйшлі папіць вады да крыніцы. Падыходзяць і бачаць дзіва-дзіўнае: з грушы зыходзіць зззянне чароўнае — ад абразка. Аднеслі яны абразок Солтану, той яго ў куфэрачак схаваў. А вечарам намерыўся гасцям паказаць. Адкрыў куфэрак — а там пуста. На другі дзень пастушкі зноў пайшлі напіцца вады і зноў убачылі ікону Божай Маці на грушы. Пасля гэтага Солтан пабудаваў на тым месцы драўляную царкву, куды і перанеслі ікону з мясцовага жыровіцкага храма, дзе яна спачатку захоўвалася. З цягам часу вакол царквы пачалі сяліцца людзі. Пазней там і манастыр з'явіўся. Колішнія Жыровічы ў той час былі на адлегласці вярсты са тры ад цяперашняга мястэчка, але хутка там усё прыйшло ў заняпад, і цэнтр утварыўся вакол манастыра. Так сведчыць паданне.

Пакланіцца Жыровіцкаму абразу Маці Божай прыязджалі людзі розных саслоўяў, у тым ліку і каралі Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV, Ян III Сабескі, Аўгуст II, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ды іншыя вялікія асобы. У 1730 годзе на абраз ўсклалі пры вяселлі з Рыма кароны, зрабілі аправу, кароны аздобілі каштоўнымі камянямі, падараванымі Ганнай Сангушкай.

У 1660 годзе абраз вывозілі ў Быценскі кляштар базыльян, а ў 1915 — у Маскву, адкуль ён вярнуўся без большай часткі аздаблення. А ў першай палове XVI стагоддзя яго пашкодзіў пажар. Тым не менш абразок Жыровіцкай Божай Маці захаваўся, і цяпер ён знаходзіцца ва Успенскім саборы манастыра. 20 траўня там і адбываецца ўсе ўрачыстасці з нагоды з'яўлення гэтай цудатворнай іконы.

# Анастасія Бурачэўская: "Конкурс прыгажосці ў Варшаве праходзіў вельмі шчыра"

**Як мы ўжо паведамлялі, юная слонімская прыгажуня Анастасія Бурачэўская па вынi- ках рэспубліканскага кастынгу Нацыяналь- най школы прыгажосці стала пераможцай і ўзяла ўдзел у Міжнародным конкурсе прыгажосці ў Варшаве, дзе заняла другое месца.**

Насця вучыцца ў СШ №8 горада Слоніма і наведвае школу мадэлей “ЛеОна”, якая дзейнічае пры ўстанове пазашкольнага выхавання і навучання “Скарбніца” аддзела адукацыі Слонімскага райвыканкама. Сёння яна адказвае на пытанні карэспандэнта “ГС”.

**— Насця, віншуем цябе з першаю сур’ёзнаю перамогаю і зычым новых удач. А як наогул успрынялі ў школе тваю перамогу?**

— Вельмі добра. Усе віншавалі, пыталіся, як праходзіў конкурс. А настаўніца музыкі наогул радавалася за мяне больш, чым я. Мой класны кіраўнік Алена Мікалаеўна Ракевіч таксама павіншавала і сказала: “Так трымаць!”

**— А бацькі**

— Мама з татам , як і я, яшчэ ў гэты поспех не вераць. Мусіць, ім здаецца, што ўсё гэта пакуль дзіцячая гульня.

**— Хто праводзіў гэты конкурс і фінансаваў тваю паездку ў Варшаву?**

— Спонсарам конкурсу было англійскае мадэльнае агенцтва “Лук модэл менеджмент”. Яно ўсе мае затраты і аплачвала.

**— Што табе, Насця, спадабалася і запомнілася падчас конкурсу?**

— Найперш гэта зносіны паміж канкурсанткамі і знаёмствы. Гутарылі мы толькі на англійскай мове, а ўдзельнічала ў конкурсе 41 дзяўчынка з 20 краін. Мне спадабалася там усё, таму што адчувалася, што конкурс праходзіў вельмі тактоўна, шчыра. А пераможцай стала дзяўчына з Македоніі.

**— З кім ты найлепш пасябравала?**

— У адным пакоі я жыла з дзяўчынкаю са Швецыі. Практычна за ўвесь час мы ўсе і перазнаёміліся. А каб блізка пасябраваць, проста нам не хапіла часу.

**— Акрамя мамы з татам, хто яшчэ за цябе перажываў?**

— Сябра яшчэ няма. Хаця, як і ўсе дзяўчаты майго ўзросту, люблю наведваць дыскатэку, асабліва люблю школьныя танцы, падабаецца жартаваць, весяліцца. У нас вельмі дружны клас. Але з 21-го вучня ў нашым 8 “А” класе толькі трое хлопчыкаў. І мне здаецца, што хлопчыкі ў нас у класе менш сталыя, чым дзяўчынкі.

**— Якое тваё хобі?**

— У Варшаве нам без падрыхтоўкі прапанавалі правесці “Вечар талентаў”. Часу на падрыхтоўку не было. І я вырашыла сыграць на раялі. Для мяне спецыяльна прывезлі гэты музычны інструмент, і я выдатна сыграла. Усім вельмі спадабалася. Музыка і з’яўляецца маім захапленнем, бо я ўжо сем гадоў з ёю не развітваюся.

**— Як праходзіў сам конкурс?**

— Спачатку выбіраліся 14 прыгажунь, а пасля з іх толькі тры. І пераважна іх выбіралі на рэпетыцыях, а падчас конкурсу было толькі пацверджанне.

**— А што вы журы паказвалі?**

— Сябе. Спачатку ў касцюмах, пасля ў купальніках, потым у майках і спадніцах і г.д. І мне дасталося другое месца і прыгожы крыштальны прыз.

**— І да якога наступнага конкурсу ты рыхтуешся?**

— Пакуль яшчэ не ведаю. Але прапановы, спадзяюся, будуць.

**— Няхай табе спадарожнічае поспех!**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

****************************************************

# Якія войны прынеслі найбольшыя страты народу Беларусі?

Найбольшай трагедыяй сталася для Беларусі расійскае нашэсце, якое распачаў у 1654 годзе цар Аляксей Міхайлавіч. Тады на знясіленую за 6 гадоў казацкімі наездамі Беларусь рушыла 100-тысячнае войска пад камандаваннем Шарамецева. Актыўныя ваенныя дзеянні цягнуліся 7 гадоў, і гэтыя гады сучаснікі параўноўвалі з патопам. У бітвах, пры аблогах гарадоў, ад гвалту загінулі 52 працэнты насельніцтва Беларусі, у некаторых жа мясцінах - да 75 працэнтаў жыхарства. Расійцы вывелі ў свае гарады і вёскі болей за 300 тысяч беларусаў. Значная частка гэтага палону была прададзеная ў рабства. Былі разрабаваныя палацы, храмы, манастыры, вывезеныя ўсе друкарні, кузні, запасы жалеза. Сельская гаспадарка і прамысловасць былі разбураныя расійскімі войскамі дашчэнту. Вынікам гэтай вайны было і тое, што антымаскоўскія настроі стымулявалі рост паланізацыі. Варта адзначыць, што Батыева нашэсце, з часу якога мінула ўжо сем з паловаю стагоддзяў, расійцы прыгадваюць дагэтуль, а ў нас пра расійскае нашэсце сярэдзіны XVII стагоддзя забаранялася абмовіцца нават словам.

Кожным трэцім жыццём сваіх дзяцей заплаціла Беларусь за развязаную Пятром І Паўночную вайну. Нашыя землі сталіся арэнай змагання чатырох дзяржаў і шматгадовай расійскай акупацыі. Зноў вынікам вайны былі паўсюдныя магілкі, спаленыя вёскі і гарады, зганеныя людзі, няшчасныя сіроты. Шасцімесячная вайна Расіі з Напалеонам каштавала беларусам мільёна чалавек - кожнага чацвёртага.

Паўтара мільёна беларусаў загналі ў магілу Першая сусветная вайна, польская і бальшавіцкая акупацыя.

Сталінскі генацыд у 30-40-х гадах, паводле падлікаў навукоўцаў, каштаваў беларускаму народу блізу 2 мільёнаў жыццяў.

Другая сусветная вайна, распачатая Гітлерам і Сталінам, забрала на той свет у Беларусі, паводле ўдакладненых звестак, кожнага трэцяга чалавека.

****************************************************

# Хрыстас Пургурыдэс: «У верасьні будзе вырашана, якія супраць беларускіх уладаў будуць ужытыя санкцыі»

*У Кіеве ў памяшканьнях Вярхоўнай рады завяршыліся грамадзкія слуханьні "Нацыянальныя і міжнародныя мэханізмы абароны ахвяраў гвалтоўных зьнікненьняў: Украіна, Расея, Беларусь". На форуме прагучала ініцыятыва пра стварэньне міжнароднага фонду падтрымкі ахвяраў палітычных зьнікненьняў у Беларусі. У выніковай рэзалюцыі кіеўскага форума прагучаў заклік да краінаў, заканадаўства якіх прадугледжвае прынцып унівэрсальнай юрысдыкцыі, ініцыяваць крымінальны перасьлед службовых асобаў у Беларусі, Расеі і Украіне, на якіх падае падазрэньне ў датычнасьці да гвалтоўных зьнікненьняў. Праваабаронцы таксама зьвярнулі ўвагу на гэтыя злачынствы Міжнароднага крымінальнага суда.*

Кіраўніца ўкраінскай Кааліцыі за міжнародны крымінальны суд Натальля Дульнева паведаміла, што згодна з Рымскім статутам, які рэглямэнтуе дзейнасьць гэтага суда, зьнікненьні апанэнтаў беларускага прэзыдэнта могуць разглядацца ім як злачынствы супраць чалавечнасьці, якія ня маюць тэрміну даўнасьці.

Прыклады судовага перасьледу ў краінах Эўропы за такога роду злачынствы, раней былі зафіксаваныя па выніках падзеяў у Руандзе, былой Югаславіі, Аргентыне й іншых краінах. Такім чынам адпаведны досьвед ёсьць, і цяпер дзьве эўрапейскія краіны ўжо вывучаюць магчымасьць завядзеньня крымінальных справаў супраць вышэйшых беларускіх чыноўнікаў.

Акрамя таго форум праваабаронцаў запатрабаваў ад беларускіх уладаў выканаць красавіцкую рэзалюцыю Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, прысьвечаную палітычным зьнікненьням у Беларусі. Аўтар справаздачы ў ПАРЭ на гэтую тэму, кіпрскі дэпутат Хрыстас Пургурыдэс паведаміў, што ў верасьні Рада Эўропы вернецца да гэтай тэмы, каб ацаніць рэакцыю беларускіх уладаў. Тады ж, паводле спадара Пургурыдэса, будзе разглядацца і пытаньне магчымых санкцыяў супраць беларускага кіраўніцтва. Пасьля красавіцкай рэзалюцыі міжнародная супольнасьць дала Беларусі час на рэагаваньне, на правядзеньне рэальнага дасьледаваньня справаў зьніклых, заявіў спадар Пургурыдэс.

*"Я мяркую, што тэрмін зараз падыходзіць да канца, паколькі беларускім уладам было дадзена дастаткова часу, але як бачым, няма ніякага адказу. Такім чынам я ўпэўнены, што міжнародная супольнасьць у найбліжэйшы час, магчыма ўжо на пачатку верасьня будзе канчаткова вырашаць, які від санкцыяў будзе ўжыты супраць беларускіх уладаў. Звычайная практыка такая, што міжнародная супольнасьць пачынае са слабейшых санкцыяў, напрыклад, з адмены візытаў у Беларусь усіх адказных асобаў, уключна з міністрамі ўрадаў, і з адмовы ў прыёме візытаў беларускіх чыноўнікаў. Я ўпэўнены, што гэта будзе першым крокам. Далей жа, калі зь беларускага боку ня будзе адказу, міжнародная супольнасьць можа ўвесьці больш жорсткія санкцыі, уключна з забаронай на экспарт пэўных тавараў і матэрыялаў зь Беларусі, якая не павінна нэгатыўна адбіцца на народзе".*

Да гэтых патрабаваньняў Рады Эўропы далучыліся прэзыдэнцтва Эўразьвязу і ААН. Менавіта гэтыя арганізацыі і могуць увесьці такія санкцыі, зазначыў спадар Пургурыдэс. Ён падкрэсьліў таксама, што міжнародная супольнасьць занепакоеная ня толькі палітычнымі зьнікненьнямі ў Беларусі, але і масавымі парушэньнямі правоў чалавека, перасьледам незалежнай прэсы.

У часе дыскусіяў у Кіеве Хрыстас Пургурыдэс заявіў, што ціск і санкцыі на беларускія ўлады эўрапейскія краіны даўно пачалі б, калі за сьпінай Аляксандра Лукашэнкі не стаяла Расея.

Беларускія ўдзельнікі кіеўскіх слуханьняў засталіся задаволенымі іх вынікамі. Чакаецца, што ў верасьні падобная акцыя пройдзе ў Маскве...

# ХРЫШЧЭНЬНЕ МОВАЮ

**"Царкоўнаславянскі" народ.**

Месяц таму хрысцілі майго пяцігадовага ўнука Данілу. Чаму так позна? Чакалі пакуль прыедзе хросны Андрэй з Амерыкі і хросная Наташа з Краснаярска. Хрысцілі ў праваслаўным кафедральным Свята-Духавым саборы. Перад тым як ісці ў хрысцільню трэба было зарэгістравацца і заплаціць грошы — 40.000 рублёў. Старая жанчына (ці не тая самая, што калісь непісьменна надрапала на паперцы "заздраве", калі прыйшоў ставіць свечкі ў гэтай жа царкве) пачала звяглівым голасам дапытвацца: хросныя хрышчоныя? А бацька-маці хрышчоныя? Я не вытрываў, кажу, а хоць бы бацька-маці былі нехрышчоныя — галоўнае, каб хросныя былі хрышчоныя... Тут яна ўзвілася і давай мяне павучаць, а хутчэй панесла нейкую недасведчанную лухту пра таемнасць праваслаўнага хрышчэння. Мне, у якога дзве паліцы кніжак па хрысціянстве! Сказаў ёй колькі важкіх навуковых слоў, яна змоўкла і надзьмулася. Пацершыся каля бацюшак, яна ўдумала, што займела дастатковы досвед і самога Бога за бараду трымае.

У час таемнага абраду, калі малады прыгожы бацюшка прыемным голасам прамаўляў павучальную казань, адчыніліся дзверы ў хрысцільню і сагнутая ў крук старая пратэпала да замаскаванай пад лаву скрыні, падняла вечка і пачала грымець вёдрамі, трэсці нейкімі анучамі... Бацюшка з прыкрасцю і дакорам скасавурыўся на старую, але тая відочна не разумела дзікунства сваёй прысутнасці на таемнасці. Благавейнасць з нас як ветрам здзьмула. Нарэшце старая пасунулася са сваімі вёдрамі за дзверы, бацюшка ўздыхнуў і прабачальна паглядзеў на нас. Казань палілася далей. Я сачыў за Данілам і бачыў на яго твары разгубленасць і непаразуменне. Ён не разумеў, пра што гаворыць бацюшка. Дома бацька-сібірак і маці (мая дачка) гавораць з ім па-руску (так хоча бацька). Я гавару з ім па-беларуску. І ён нас добра разумее. Дарэчы, першым ягоным словам было не "мама". Вазіў яго маленькага ў калясцы па прыгарадным лесе — раптам з галінкі на галінку руды агеньчык скок-скок. Вочы ў малога зрабіліся па яблыку! "Ва-вёр-ка, — расцягнуў я па складах і паўтарыў, — вавёрка!" Праз якую хвіліну ён раптам выдыхнуў таксама па складах: "Ва-вёл-ка..." Цяпер мы з ім карыстаемся гэтым словам як паролем... Націскаем кнопку дамафона і кажам бабулі: "Вавёрка!" Асабліва Даніла разгубіўся, калі бацюшка змушаў яго адказваць на незразумелыя словы. "Вокрещаешся?" — пытаў поп. "Вокрещаюся", — падсказваў яму на вуха хросны. "Вокрещаюся..." — ніякавата шаптаў Даніла. Калі выйшлі з храма, унук тузануў мяне за рукаво: "Дзед, гэта ён па-польску гаварыў ці па-балгарску?" "Па царкоўна-славянску", — кажу. Унук недаверліва зазірае мне ў вочы — жартуе дзед, ці што? Хіба ж ёсць такі народ — царкоўныя славяне?

І сапраўды, праваслаўныя цэрквы ў Сербіі, Чарнагорыі, Румыніі, Грэцыі вядуць набажэнствы на нацыянальнай мове. Палясцінская праваслаўная царква — нават па-арабску. Таго ж трымаецца і каталіцкі касцёл. І толькі руская і беларуская цэрквы — на дрэнна зразумелай вернікам царкоўнаславянскай. Надарыўся неяк выпадак запытаць пра гэта ў экзарха Філарэта. "Традыцыя", — кажа. Дык у згаданых краінах не пабаяліся парушыць "традыцыю", абы вернікам было зразумела, пра што прамаўляе да іх святар.

**Член КПСС**

Да трыццаці васьмі гадоў я быў нехрышчоны і непрычашчоны. Калі нарадзіўся ў Глуску за два тыдні да смерці Сталіна (у той жа дзень, 5 сакавіка 1953 года памерла мая апошняя бабуля Алекса), дык хрысціць мяне не было дзе — за год да таго мой бацька Юзік Гаўрон, які працаваў дырэктарам райпрамкамбіната, па загадзе першага сакратара райкама партыі Гімельштэйна садраў зачэпленым за трактар тросам цыбуліну купала з мясцачковай драўлянай царквы. Толькі калі мне было ўжо сем гадоў і жылі мы ў Юрацішках на Гродзеншчыне, маці са сваёю сястрою Аленаю намерыліся пахрысціць мяне ў мясцовай царкве. Пачуўшы пра гэта, я як прававерны акцябронак збег на копанку, дзе ў нас з сябрукамі быў дыхтоўна складзены будан, і мяне шукалі два дні. Так пытанне з маім хрышчэннем не вырашылася тады і пастунова забылася. Хадзіў сабе ў піянерскім гальштуку, потым быў камсамольцам. Як камсамольца ў дваццаць сем гадоў прызначылі мяне загадчыкам аддзела публіцыстыкі "Маладосці". Кіраваў аддзелам да 90-га года без партбілета. Неяк сходзіла з рук. Толькі гасцюючы дома ў бацькоў, трапляў пад пільны Юзікаў позірк: "Ну, у партыю ўступіў?" — пытаўся бацька сурова. "Ды чарга там і ахвочых да халеры.." "Якая яшчэ чарга?! Нацдэм ты, вось што я табе скажу, таму цябе і не прымаюць!" Я не спрачаўся — ну, нацдэм дык нацдэм... А ў 89-м паклікаў мяне аднакурснік Васіль Драгавец адказным сакратаром ва ўсесаюзны рускамоўны часопіс "Парус". Калі я занатаваў картку асабовага ўліку, Драгавец вылупіў вочы — дык ты беспартыйны?! Масква не зацвердзіць! На зацвярджэнне трэба было ехаць на бюро цэкамола... Тады намеснік галоўнага рэдактара "Маладосці" Генрых Далідовіч і парторг Казімір Камейша хуценька правялі рэдакцыйны партсход, дзе прынялі мяне кандыдатам у члены КПСС. Тут якраз падаспеў партсход у Саюзе пісьменнікаў. Праз два тыдні я ўжо стаяў перад дзядамі з парткамісіі Партызанскага РК КПБ. На гэты час усе мае сябры падралі і папапілі свае партбілеты. Дзяды з камісіі дзівуюцца: усе з партыі выходзяць, а гэты нацдэм, што чэша па-беларуску артыкулы Статута КПСС, ідзе ў партыю. Прынялі мяне аднагалосна. І ў Маскву я паехаў ужо кандыдатам у члены КПСС. І быў зацверджаны. Прайшоў год-паўтара, звоняць з райкама: "Відаць, вы перадумалі ўжо ў партыю ўступаць?.." Мне зрабілася ніякавата, нават сорамна. Чаму перадумаў, кажу, буду ўступаць... На прыёме з дзядамі адбылося тое, што і раней у Партызанскім райкаме. Так ў сакавіку 1991 года стаў я членам КПСС, а ў жніўні партыю разагналі. Зараз маім партбілетам забаўляецца ўнук Данілка.

**Набліжэнне да Тварца**

З Богам жа адносіны ў мяне былі своеасаблівыя. Са студэнцкіх гадоў шмат чытаў філасофскай і атэістычнай (другой жа не было) літаратуры. Экзістэнцыяліст Карл Ясперс пераканаў мяне, што Бог усё ж ёсць. Сам пра гэта здагадваўся. Толькі замяняў Ягоны назоў рознымі псеўданавуковымі эўфемізмамі — трансцэндэнтная сіла, космас, вышэйшы розум і да т.п.

Сваю першую Біблію прывёз з ГДР, куды трапіў у 80-м годзе са спартыўнай дэлегацыяй пасля маскоўскіх Алімпійскіх гульняў. У Карл-Маркс-Штаце (зараз яму вярнулі стары назоў — Хемніц) побач з нашым гатэлем натыкнуўся на кірху. Зайшлі туды з чэмпіёнам свету па класічнай барацьбе грузінам Аўтандзілам Майсурадзэ. Ля амбона на століку зглядзеў я стосы нейкіх кніжак. Адгарнуў вокладку — Біблія! Але ж чамусьці па-польску... Нашыя здзіўленыя здагадкі пачуў служка і, падняўшы ўгару палец, сказаў — moment! Праз якую хвіліну паклаў перад намі з дзесятак Біблій на рускай мове. "Віфель костэт?" — спытаў я, пацёршы вялікім пальцам па ўказальным: што азначала — колькі каштуе? Служка паказаў на жалезную скарбонку з прарэзам зверху. На ёй па-нямецку было напісана: ахвяруйце на храм... Мы з Аўтандзілам як мага мацней бразнулі ў тую скарбонку па пару алюмініевых марак і ўзялі... па пяць Біблій. Усю дарогу ў Савецкі Саюз мы трэсліся ад страху — хаця б хто не "стукнуў"! Але абышлося. Адну Біблію (высветлілася, што яна пратэстанцкая і выдрукавана ў ЗША!) пакінуў сабе, астатнія раздаў сябрам. На чытку пайшло з паўгода. Асабліва цяжка даўся Стары запавет — Аўрам нарадзіў Якуба, Якуб нарадзіў... Чорт нагу зломіць у тых дванаццаці каленах цароў ізраілевых! Затое якая асалода было ў Новым запавеце чытаць мудрага Эклізіяста і Найвышэйшую песню Саламонаву! Хацеў выкінуць атэістычную пахабшчыну Ямелі Яраслаўскага-Губельмана, але заўсёды шкадуючы кнігу, пераставіў яе на паліцу даведачнай літаратуры. Такім вось чынам пачаў я набліжацца, калі можна так сказаць, да Бога, разумець неабходнасць ягонай прысутнасці ў гэтым свеце. У мяне, былога студэнта-фізіка, тэорыя вялікага касмічнага выбуху, які нібыта даў пачатак нашаму Сусвету, з юначых гадоў выклікала жудасць неразумення да шавялення валасоў на галаве. А наяўнасць Творцы, які за шэсць дзён зрабіў зямлю, ваду, неба над імі, жывёл і людзей пад ім, неяк утульней клалася на паганскую маю душу. Таму канчаткова адпрэчыўшы гэтыя філасофскія фішкі-пешкі пра трансцэндэнтную сілу і космас, усё што непадуладна майму розуму і досведу, чаму не знаходжу ў жыцці зямнога вытлумачэння, пачаў называць у думках Богам. Толькі перад Богам адчуваю боязь пакарання, толькі на Ягоную ўсемагутнасць і літасцівасць спадзяюся.

**Хрышчэнне моваю**

Сам я чалавек кампанейскі, люблю працаваць у камандзе, талакою. Маю шмат сяброў і таварышаў. Але сталася так, што пад канец 91-га года, адчуў невытлумачальную адзіноту і самотнасць. Пачаў зазіраць у цэрквы ды касцёлы, прастойваючы там гадзінамі ў одуме, спадзеючыся знайсці душэўную раўнавагу і заспакоенасць. Заўважыў, што на праваслаўным набажэнстве ў царкве падсвядома перакладаю ўслед за бацюшкам ягоную царкоўнаславянскую казань на родную мову. А ў касцёле ксяндзы раптам загаварылі па-беларуску! Цяжка было назваць іхнее шварканне з моцным польскім пранонсам беларускаю моваю, але я ўсё роўна спакусіўся, як той Казлевіч з "Залатога цяляці". Вядома, не вельмі соладка слухаць як біскуп Свёнтак гаворыць па-нашаму, але ж ён робіць гэта старанна, хаця і з высілкам.

Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года, калі адміністрацыйна нашая царква зрабілася падлеглай Ватыкану, а набажэнскі чын, прадмет веры і абраднасць засталіся грэцка-праваслаўнымі, ва уніяцкіх храмах паранейшаму панавала старабеларуская мова. Пакуль у пачатку XVIII стагоддзя на беларускіх землях не з'явіўся цар Пётра І, які сілком і гвалтам адбіраў у вернікаўуніятаў іхныя храмы і асвячаў іх у праваслаўныя цэрквы. Ведама ж, у каго моц, у таго і праўда. Прынамсі, сённяшні Свята-Духаў кафедральны праваслаўны сабор — былы уніяцкі храм, збудаваны ў XVII стагоддзі ў стылі віленскага барока. І калі ўсходнееўрапейскія святарскія ідэолагі наракаюць на касцёл за жудасці інквізіцыі, дык варта зазірнуць у савецкую "Гісторыю праваслаўнай царквы" — бальшавікі без прыхарошвання яе падавалі: там знойдзецца напамінак як Іван Жахлівы марыў голадам у порубе цараградскага мітрапаліта, вымагаючы таго стаць першым маскоўскім патрыярхам, і пра Аляксея Ціхмянага, што сек галовы ерэтыкам на чале з Сільвестрам Мядзведзевым на Чырвонай плошчы, і пра Пятра Шалёнага, які жудасна здзекаваўся з раскольнікаў...

Адным словам, што каталіцкае, што праваслаўнае начальства — і тым, і тым заўсёды было дасгадобы катаваць уласны народ і іншадумцаў. Таму не гісторыя гэтых хрысціянскіх канфесій была вызначальнай у маім выбары паміж царквою і касцёлам. Продкі бацькікамуняка былі вядома уніятамі, маці і ўсе яе сёстры і браты былі праваслаўнымі. Майго старэйшага брата Валодзю хрысціліў партызанскім сямейным лагеры. Падпітага святара прывёз такі ж вясёлы камісар атрада Юзік Гаўрон. Сабралі ўсю нехрышчоную-непрычашчоную малечу, паставілі іх у шыхт і бацюшка распачаў "таемнасць" абраду. Было лета, дзеці бегалі басанож, ногі парэпаліся ад бруду і струпоў. І калі поп ставіў пэндзлем крыжыкі на іхных нагах, адна з мацярок не вытрывала: "Бацюшка, яшчэ памазок запэцкаеце!.." ...Мне падбіралася пад сорак ужо, а я заставаўся нехрысцем. І каб болей не перакладаць у галаве папоўскую казань на родную мову, пачаў хадзіць у

касцёл. Балазе, з'явіліся маладыя ксяндзы з тутэйшых, якія ўжо не шварокалі з польскім акцэнтам, а правілі пабажэнства на добрай беларускай мове. Асабліва ўпадабаў хадзіць у касцёл на Залатой Горцы. Там жа філарманічны арган грае, а пад музыку роднае пабожнае слова зачароўвае яшчэ мацней! Шмат хто з маіх сяброў, як Зміцер Падбярэзскі, перахрысціліся ва уніяцкага святара Яна Матусевіча. Я ж яшчэ вагаўся... Аднойчы на набажэнстве ў Чырвоным Касцёле святых Сымона і Алены ксёндз Уладзіслаў прычашчаў вернікаў. Дайшла чарга да мяне, святар працягнуў мне аплатку. Разгубіўшыся, я ледзь выціснуў з сябе: "Нехрышчоны..." Ксёндз Уладзіслаў прыпыніўся, пільна паглядзеў на мяне. І кажа: "Дык прыходзьце заўтра а дзесятай..." Назаўтра ён спытаў тое-сёе з Катэхізісу, я прачытаў яму па-беларуску "Ойча наш". "Папасціцеся з тыдзень, — сказаў ён, — ды прыходзьце з ранку нашча". Праз тыдзень быў я пахрышчаны ў католікі. Нікому пра гэта не сказаў, толькі жонцы. Калі потым даведаліся сябры, адзін з іх — грузін уздзенскага разліву Валодзя Хачыравілі — скрушна сказаў: "Пшэк, ён і ёсць пшэк..." Дарэчы, гэтае пашыванне беларускіх каталікоў у палякі — даволі прыкрая і шкодная завядзёнка. Ды прайшло колькі часу і сябры звыкліся з маім каталіцызмам, толькі незласліва пад'ёўзвалі мяне: "Яму зараз добра — на свой Вялікдзень разгавеецца, праз тыдзень — на жончын!" Каб адбіцца, жартую: "Затое вы на Новы год валіцеся ў вялікі грэх — яшчэ тыдзень каляднага посту, а вы ўжо п'яце пад елкаю!" Вось так і пікіруемся больш дзесяці гадоў.

* * * * * * *

Хрысціўшыся каталіком, што я страціў ці што набыў? Ды нічога! Хаця я і кампанейскі чалавек, ды прамаўляю да Бога на адзіноце. Інтымная гэта справа. Таму, як раней недалюбліваў тоўстых папоў, дык зараз з недаверам стаўлюся да вечна халастых ксяндзоў. Прыйду ў касцёл і мала ўжо прыслухоўваюся да набажэнскай казані святара. Сяджу і думаю пра сваё, прамаўляю ў думках да Бога: "Даруй, Усемагутны і Літасцівы, за ўсё..." І добрая, шчырая гаворка па-беларуску здараецца між намі іншы раз. Дык уздумаю, грэшны, тады: "А навошта нам пасярэднікі?."

Алесь ГАЎРОН

# Вольга Захаранка жыве надзеяй на хуткі канец рэжыму Лукашэнкі

Валер Каліноўскі, Кіеў

Вольга Захаранка ўжо чатыры гады знаходзіцца ў Нямеччыне, дзе разам зь сям'ёй яна атрымала палітычны прытулак пасьля таго, як неўзабаве пасьля зьнікненьня Юрыя Захаранкі зьявіліся пагрозы і на адрас ягонай сям'і. Цяпер Вольга Захаранка ня можа прыехаць у Беларусь, але калі яна даведалася, што ў Кіеве ладзіцца канфэрэнцыя па праблемах беларускіх зьніклых, дык адразу пагадзілася ў ёй удзельнічаць. Яна была радая сустрэцца там зь Зінаідай Ганчар, Вольгай Завадзкай, беларускімі апазыцыйнымі палітыкамі й праваабаронцамі. Спадарыня Захаранка адчула, што пра яе мужа й іншых зьніклых людзі памятаюць ды нястомна дабіваюцца ад уладаў праўды пра іхны лёс.

Прайшло болей за пяць гадоў з часу зьнікненьня былога міністра ўнутраных спраў Беларусі, аднаго зь лідэраў апазыцыі Юрыя Захаранкі, але ягоная жонка па-ранейшаму не губляе надзеі:

(Вольга Захаранка:) "Я спадзяюся, так, бо ў мяне як бы іншага выйсьця няма. Я ўсё ж спадзяюся на тое, што ёсьць вышэйшыя сілы, што ўсё роўна гэтае злачынства будзе пакаранае. Рана ці позна. Гісторыя сьведчыць, што калі яго асабіста не пакараюць, то нешта адбудзецца зь ягонымі нашчадкамі. Я веру ў гэта. Ну і спадзяюся, у мяне ёсьць спадзяваньне. А раптам. Мёртвым я яго не бачыла".

Вольга Захаранка і ейная малодшая дачка Юлія ўжо два гады жывуць у Бэрліне, старэйшая дачка Алена засталася ў Мюнстэры, дзе сям'я апынулася чатыры гады таму, пасьля таго як пакінула Беларусь.

"Нам цяжка было ў Мюнстэры, там адны немцы. У Бэрліне паболей расейцаў, нават беларусы ёсьць. Нам там лягчэй, у Бэрліне. Кантактуем з расейскімі сем'ямі, ёсьць у мяне і дзьве сяброўкі-немкі".

З усёй сям'і Захаранкаў па-нямецку лепей за ўсіх размаўляе пяцігадовы ўнук экс-міністра, Кірыл – зусім без акцэнту. Вользе Захаранка і яе дочкам складана знайсьці ў Нямеччыне добрую працу:

"У Бэрліне вельмі цяжка ўладкавацца на працу, там нават для карэнных немцаў складана з працай. Таму я пакуль што на сацыяльным забесьпячэньні, мая старэйшая дачка працуе. Яе спэцыяльнасьць засталася ў Менску. яна была там інспэктарам па справах непаўналетніх на транспарце. Тут жа працуе афіцыянткай. І малодшая дачка таксама"

Спадарыня Захаранка зазначае, што ў далейшым яе дочкі плянуюць вучыцца.

Часам Вольга Захаранка размаўляе зь Людмілай Карпенка, якая таксама атрымала прытулак у Нямеччыне й жыве ў Штутгарце. Разам з Карпенка яна жадае і надалей займацца палітычнай дзейнасьцю "супраць рэжыму Лукашэнкі", як яна кажа, выступаць у нямецкіх СМІ.

У Беларусі ў спадарыні Захаранка засталіся блізкія сваякі: маці і сястра, а таксама сьвякруха – маці Юрыя Захаранкі, якой яны тэлефануюць кожны тыдзень. Боль вялікай страты ў Вольгі Захаранка не загаіўся. Да афіцыйнага беларускага сьледзтва ў справе зьнікненьня ейнага мужа ў спадарыні Захаранка няма ніякага даверу.

"Яны, па-мойму, замятаюць свае сьляды, вось якое ідзе расьсьледаваньне. Яны замятаюць сьляды, яны не даюць ходу расьсьледаваньню. Я да іх не спрабавала зьвяртацца й ніколі ня буду. Таму што я ўпэўненая, чыіх рук гэта справа. Як я магу зьвяртацца да сваіх ворагаў, якія выкралі й зьнішчылі майго мужа?"

Спадарыня Захаранка абвінавачвае ў арганізацыі гэтага злачынства асабіста Аляксандра Лукашэнку.

"Мой муж не загінуў бязь вестак, яго выкралі структуры Лукашэнкі".

Заклікі Хрыстаса Пургурыдэса з ПАРЭ аб міжнародных санкцыях супраць уладаў Беларусі знайшлі водгук у ейнай душы, спадарыня Вольга лічыць іх эфэктыўным сродкам змаганьня з рэжымам :

"Натуральна, што я падтрымліваю, а як жа, гэта проста мая мара. Пакуль гэтая ўлада знаходзіцца ў Беларусі, ніякага зруху наконт майго мужа, наконт іншых выкрадзеных ня можа быць, і я ніколі ў жыцьці не даведаюся, хто канкрэтна гэта зрабіў і што адбылося".

Высока ацэньваючы пазыцыю Захаду, спадарыня Захаранка спадзяецца, што і ў Расеі нарэшце зразумеюць, каго яны падтрымліваюць у Беларусі, і што ў беларускім грамадзтве таксама кардынальна зьменіцца стаўленьне да Аляксандра Лукашэнкі.

"Такія людзі як ён не мяняюцца. Вы ж бачыце, што робіцца. А будзе яшчэ горш. Але і ягоная сытуацыя пагаршаецца. Я спадзяюся, што людзі зразумеюць, на каго яны паставілі. Гэта мая надзея, я толькі ёю і жыву, што нарэшце прыйдзе канец гэтаму рэжыму. З майго пункту гледжаньня, страшнаму рэжыму".

# Які час — такія творы

**Развагі аб сучаснай беларускай літаратуры**

...У чым праяўляецца сацыяльная запатрабаванасць літаратуры? У тым, што на яе ёсць устойлівы попыт. І сёння ён прысутнічае. Праўда, на што іменна? У ідэале літаратура ствараецца не толькі з-за ўласных жаданняў ці эгаізму, але яшчэ і дзеля грамадства, з якім спадзяецца наладзіць «зваротную сувязь», каб узнятыя ў мастацкіх творах праблемы атрымлівалі неабходны рэзананс, скіроўвалі людзей да агульначалавечых каштоўнасцяў. Аднак грамадства не вельмі любіць такую «дыдактыку». І прыслухоўваецца найперш да ўласных, чыста прагматычных патрэб: купіць хлеб, вопратку... Пытанні духоўна-маральнай перспектывы «нямодныя», «устарэлыя», ды і прымушаюць увесь час сур'ёзна задумвацца над няпростымі пытаннямі жыцця. Адсюль росквіт «бульваршчыны», лёгкага чытва. І гэта цалкам заканамерна ў рынкавай стыхіі.

Каб быць сацыяльна запатрабаванай, літаратура павінна стаць цікавай. У тым, што сёння яна «сумнеўная» якасці, вінаватыя найперш пісьменнікі, якія не змаглі «заваладаць душамі» патэнцыяльных чытачоў. І прычына гэтага не ў беларускай мове, а ў нізкім прафесійным майстэрстве. Які сэнс выкладваць чытачу немалыя грошы за кнігу, каб пасля першых пяці старонак назаўжды развітацца з напісаным? Літаратура павінна ўмець захапіць, усхваляваць, не пакінуць раўнадушным, пастаянна трымаць у напружанні — быць сучаснай. А атрымліваецца: «Ганна выгнала карову з хлява...». Пісьменнік працуе найперш для грамадства — і нясе адказнасць перад ім за сваю працу. Калі яна плённая, удалая і патрэбная, то павінна ўсяляк падтрымлівацца і заахвочвацца дзяржавай. Раздаючы ж бясконцыя «авансы», мы парадждаем нахлебнікаў ад літаратуры. Дзеля чаго?

Калі пісьменнікі не ведаюць, пра што пісаць, — узнікае сацыяльны заказ. І тут, у прынцыпе, нічога кепскага няма. Бо грунтуецца ён на актуальных праблемах часу і падмацаваны пэўнымі маральнымі стандартамі. І толькі ад таленту пісьменніка залежыць, як ён зможа напісаць пра першае каханне, школьныя будні і г.д. Канешне, ад словазлучэння «сацыяльны заказ» патыхае нечым партыйна-савецкім. Аднак, калі ўдумацца... Глабалізацыя, тэракты, бясконцыя войны, асваенне космасу, тэхнагенныя катастрофы... Чытачу цікава ведаць пра гэта як мага больш. І не толькі ў газетна-інфармацыйнай форме. Вось тут і даецца пісьменніку магчымасць асэнсаваць надзённае па-мастацку даходліва, грунтоўна-аналітычна, няхай і суб'ектыўна. Адзіная ўмова — прафесіянальнасць, здольнасць пісаць пра «старое» па-новаму.

Наконт літаратуры як архаічнай з'явы скажу банальнае: яна ніколі не састарэе. Як не састарэюць праблемы, якія там адлюстроўваюцца. Зайздрасць, палітычны кар'ерызм, здрада, двурушнітва, подласць, маральная дэградацыя... Спрадвечныя хібы чалавецтва. Пра іх варта і неабходна пісаць. І можна быць упэўненым, што пра гэта абавязкова прачытаюць. Калі-небудзь. Прыядаецца ўсё: камп'ютарныя гульні, інтэрнэтаўскія парнасайты, бразільскія серыялы, «бульварная» халтура... Застаецца вечнае, заўсёды актуальнае. Бо за ім — духоўны прагрэс.

Пра якасць сучаснай беларускай літаратуры можна гаварыць бясконца. Духоўны застой у жыцці правакуе застой у творчасці. І я катэгарычна не згодны з У. Карызнам і М. Мятліцкім, якія сцвярджаюць, быццам «некаторыя маладыя творцы, акрамя сябе, нікога ў літаратуры не бачаць» і «многае ў маладзейшых ідзе на адмаўленне, на нігілізм». Агульнавядома, што «з нічога» праблемы не нараджаюцца. Калі малады чалавек абвострана ўспрымае недасканалую рэчаіснасць і, супастаўляючы тэкст з рэальнасцю, бачыць шэраг неадпаведнасцяў, то што тут дзіўнага? Гэта натуральна! Калі я, скажам, выхаваны на лепшых узорах сусветнай класікі і маю адпаведныя літаратурныя густы, то лагічна суадношу напісанае «тут» і «там». І калі планка якасці даволі нізкая, аб гэтым нельга маўчаць. Літаратурны працэс толькі тады жывы, калі нагадвае міннае поле — калі любая халтура знаходзіць надзейны крытычны адпор. Іншая справа, што «калупацца» ў тэкстах трэба доказна, абгрунтавана, цэлячы не ў асобу аўтара, а ў яго «шэдэўр». Напісаў, выдаў за ўласныя грошы кнігу — трымай удар. Нясі адказнасць. І пасля крытычных «стрэлаў» не крыўдуй.

Многія беларускія пісьменнікі, апроч сябе, геніяльных, нікога больш не чытаюць. Адсюль — узровень. Амбіцыі. Зайздрасць. І... помслівасць: гэта ж трэба — на самога ўзняў руку! Яны патрабуюць да сябе ўвагі, нават павагі — пнуцца ў Саюз пісьменнікаў. Па-мойму, калі ў паэта ці празаіка адсутнічае ўнутраны крытычны "стоп-кран", што вызначае мяжу дазволенага, — такім "творцам" у літаратуры рабіць няма чаго. І вельмі прыкра бачыць напісанае імі ў часопісах і газетах. Талерантна-бяскрыўдная неахайнасць...

Апошнім часам у нас не было твора-падзеі і, думаецца, з'явіцца ён няхутка. На гэта ёсць свае аб'ектыўныя прычыны. Тое, што сёння друкуецца ў часопісах, у большасці выпадкаў не вытрымлівае ніякай крытыкі. Так, з'яўляюцца нейкія раманы, аповесці, апавяданні, лірычныя вершы — трэба ж запаўняць старонкі «тоўстых» выданняў. Але пры гэтым варта і справядліва ацэньваць надрукаванае — не хваліць усё без разбору. Як, дарэчы, і ганіць. Вось галоўны рэдактар «Полымя» гаворыць пра «выдатны раман Зінаіды Дудзюк «Кола Сварога», змешчаны ў часопісе летась. Гэта пазіцыя М. Мятліцкага як чытача, які ўбачыў у творы «міфалагічныя пачаткі нашай нацыянальнай свядомасці». А мае знаёмыя літаратары, што ледзь не заснулі, чытаючы гэты раман, іншай думкі, як, дарэчы, і я. Падышоўшы да аналізу твора з навукова-мастацкіх пазіцый, бачыш, наколькі ён сыры і недасканалы — гэта пацвярджаюць нават спецыялісты па міфалогіі, з якімі я раіўся. Альбо возьмем «Усход» У. Гніламёдава ці «Рэвізію» А. Федарэнкі. Раманы, здаецца, не зусім «прапашчыя», але...

Кожны мае права мець сваю думку. Больш таго — выказаць яе. Згодны з Р. Баравіковай, якая сказала, што ўжо сама размова пра твор куды важней за крытычныя «разносы» ці кампліментарныя дыфірамбы. Галоўнае — пра літаратуру гаварыць, а значыць — нераўнадушных да яе лёсу няма.

І апошняе. Пісьменнік і ўлада. Зразумела, што палітычны кантэкст гэтай праблемы невырашальны. «Выгнаннікі» і «прыдворныя» існавалі заўсёды. У любой сітуацыі з уладай варта весці канструктыўны дыялог. Гэта рэальны памочнік у ажыццяўленні агульных задач — фарміраванні гістарычнай свядомасці, павагі да народных традыцый, маральным здароўі нацыі.

Добра, калі ўлада разумее, што беларускія літаратурныя выданні павінны быць у кожнай школьнай бібліятэцы. Добра, калі ўсведамляецца неабходнасць прапаганды лепшых набыткаў з напісанага і выдадзенага. Добра, калі самі пісьменнікі не сядзяць сарамліва на месцы, а ідуць «у народ», паказваюць, на што здольныя, чым насамрэч можна ганарыцца. Адным словам, думаюць пра будучыню не толькі літаратуры, але і пра духоўнае адраджэнне роднай Беларусі.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ, /Звязда/
літаратурны крытык.
г. Брэст.

# Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2004 годзе.

| | | |
|---|---|---|
| Міхась Лужынскі | (Аўстралія) | $300.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч | (Англія) | $150.oo |
| Віктар Ліпскі | (Аўстралія) | $100.oo |
| Элізабэт Літаровіч | | $50.oo |
| Барыс Данілюк | | $50.oo |
| Др. Мацьвей Б. Смаршчок | | $40.oo |
| Лявон Кавалёў | | $40.oo |
| М. Баяроўскі | (Англія) | $90.oo |
| Алена Сенько | (Англія) | $90.oo |
| Оля Зынгель | (Англія) | $75.oo |
| М. Залога | (Англія) | $71.oo |
| Марыя Мароз | (Англія) | $71.oo |
| М. Швэдзюк | (Англія) | $62.oo |
| М. Дзейко | (Англія) | $44.oo |
| В. Еўдакімаў | (Англія) | $44.oo |
| І. Дынглі | (Англія) | $35.oo |

**Усім шчырае ДЗЯКУЙ!**





IN MEMORIAM

*Сьв. Памяці*

У Торонто, Канада памерла ведамая беларуская патрыётка Валянціна Пашкевіч (5. 2. 1916 - 25. 3. 2004). Валянціна нарадзілася на Беларусі, а пахаваная ў Канадзе.

* * *

У Нью-Ёрку памёр Уладзімір Пеляса (1. 5. 1918 - 24. 4. 2004). Нябожчык Уладзімір нарадзіўся на Беларусі, а памёр і пахаваны ў Нью-Ёрку, ЗША.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# *Нам Пішуць...*

## АГУЛЬНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

58-ы Агульны Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі /ЗБВБ/ адбыўся ў сыботу 5-га чэрвеня 2004 г. у Лёндане. Зьезд прайшоў у залі Беларускага Культурна-Рэлігійнага Цэнтра і пачаўся паводле прапановы апублікаванай Галоўнай Управай.

Старшыня ўступаючай Галоўнай Управы сп-я Л. Міхалюк прывітаўшы прысутных папрасіла а. А. Надсона пачаць зьезд малітваю. Хвілінай цішыні ўшанавана памяць сяброў, якія адыйшлі ў другі сьвет.

Мандатная камісія ў складзе: М. Швэдзюк, Яўсіловіча і С. Будкевіча спраўдзіла картатэку сяброў супраць колькасьці прысутных і пастанавіла, што кворум ёсьць і абвясьціла зьезд правамоцным. У прэзыдыюм зьезду ўвайшлі: М. Швэдзюк, В. Еўдакімаў і М. Пачкаеў.

Пра працу ўступаючай Управы справаздачу здала сп-я Л. Міхалюк, фінансавую справаздачу здаў скарбнік С. Піткевіч, а справаздачу Нагляднай Управы здаў М. Швэдзюк. Дыскусыі над спраздачамі прадаўжаліся даволі доўга.

Абсалюторыюм Уступаючай Управе з падзякай прапанаваў сп. С. Будкевіч, якога падтрымаў сп. М. Баяроўскі. Зьезд аднагалосна гэта прывітаў.

У новую Галоўную Ўправу былі выбраныя: на старшыню ізноў сп-я Л. Міхалюк, на заступніка старшыні М. Пачкаеў, на сакратара-скарбніка С. Піткевіч. У сябры Ўправы ўвайшлі: сп-я А. Сенька і сп. П. Шаўцоў, а ў наглядную Раду — В. Еўдакімаў, Калінін і Яўсіловіч.

Старшыня новай Управы падзякавала зьезду за такі аднагалосны давер і запрапанавала закончыць зьезд адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Сяброўкі ЗБВБ прыгатавалі традыцыйны пачастунак, у часе якога пры чарцы віна хутка прайшоў час і ўжо трэба было разязджацца дамоў.

*Сыльвэстар Будкевіч*

* * *

Шаноўны Мікола!

...У канцы сакавіка зрабіў 2-ух месячнае падарожжа па Эўропе — Прага - Варшава - Вільня - Лёндан - Манчэстар і Парыж, а ў Франкфурце адведаў свайго настаўніка праф. Кіта.

Мая дачка мае ў Францыі домік, вельмі прыгожыя краявіды, дзе я добра аддыхнуў. Адна бяда — пагода была капрызная: у Празе 3 дні падаў дождж, на поўдні Польшчы першага і другога красавіка падаў густы сьнег, ляжў даўжэйшы час.

Вельмі мне спадабалася Вільня — я быў там у 1993 г., але якая розьніца — горад расьце, прыгажэе, маладзее і хіба ніколі нашым ня будзе. Парыж мяне вельмі захапіў, гэта прыгажун цывілізаваная нацыі. Лёндану ніколі досыць ні нагледзішся. Holden Road старэе, але хутка старэе і наш а. Аляксандар, а замены пакуль няма.

Дай Бог яму і ўсім актыўным людзям добрага здароўя на многія годы.

З пашанай, Міхась /Аўстралія/

**************************************************

## З архіва Міколы Латушкіна:

Сьвяткаваньне 40-гадовага юбілея Беларускай праваслаўнай парафіі «Сьв. Юрыя» ў Чыкаго, 22-га лістапада 1998 г.

Збор фотаздымкаў Беларусаў Чыкаго 20-30 г. XX стагодзьдзя. Зьверху ў першым радку: Язэп Варонка (1891 - 1952), Макар Аблажэй (1902 - 1991)

## Смяротнасць насельніцтва ў сельскай мясцовасці Гродзенскай вобласці ў 4,1 раза перавышае нараджальнасць

Аб гэтым сведчаць даныя, прадастаўленыя «Інтэрфаксу» упраўленнем статыстыкі Гродзенскага аблвыканкама. Так, за перыяд са студзеня па май 2004 года сярод сельскага насельніцтва рэгіёна было зарэгістравана 3857 смерцяў і 948 нараджэнняў.

Матэрыялы абласнога упраўлення статыстыкі сведчаць, што за студзень—красавік 2004 года насельніцтва вобласці скарацілася на 3,6 тысячы чалавек і склала 1142,5 тысячы чалавек. Скарачэнне насельніцтва спецыялісты упраўлення тлумачаць перавышэннем колькасці памёршых над народжанымі (3093 чалавекі) і адмоўным міграцыйным сальда (544 чалавекі). Сярод памёршых 1353 чалавекі (21,1 працэнта) — людзі працаздольнага ўзросту, паведамілі ва ўпраўленні.

У структуры прычын смерці больш за палову (55,4 працэнта) займаюць хваробы сістэмы кровазвароту, 11,9 — анкалагічныя захворванні, 10,4 — няшчасныя выпадкі, атручэнні і траўмы, 8,1 — хваробы органаў дыхання.

Як сведчыць статыстыка, у параўнанні са студзенем—красавіком 2003 года, сёлета на 66,7 працэнта павялічылася колькасць смерцяў у выніку забойстваў, на 20,3 працэнта — у выніку інфекцыйных і паразітарных хвароб, на 14,8 — па прычыне хвароб органаў дыхання і на 14,7 — з-за выпадковых атручэнняў алкаголем. Разам з тым за гэты перыяд зарэгістравана меншая колькасць тапельцаў і самагубцаў.

**************************************************

# Беларускім музыкам Еўропа апладзіруе стоячы

Нядаўна з гастрольнага турнэ па Еўропе вярнуліся Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр і Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Р.Шырмы. І не з пустымі рукамі. На штогадовым конкурсе-фестывалі "Гайноўскія дні царкоўнай музыкі" яны атрымалі Гран-пры. А капэлу захопленыя гледачы назвалі лепшым хорам Еўропы.

У нашай дзяржаве, калі сам аб сабе не распавядзеш, то цябе і не прыгадаюць. Таму кіраўнікі вышэйназваных калектываў пасля гастроляў арганізавалі "круглы стол". Першай слова атрымала Людміла Яфімава, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы Рэспублікі Беларусь імя. Р.Шырмы.

Па яе словах, гэты год для капэлы юбілейны - 65 год. І ўраджайны на замежныя гастролі. У красавіку капэла была ў Нямеччыне. Там на "біс" прайшла менавіта беларуская музыка.

"Атрымалася сапраўдная прапаганда беларускай музыкі, - гаворыць Людміла Барысаўна, - творы нашага кампазітара Яўгена Паплаўскага ўпрошвалі выконваць на кожным канцэрце, ды разабралі ўсе ноты".

Зараз калектыў мае штогадовы ангажэмент у Галандыі. Дзякуючы імпрэсарыо Хансу Мітту капэле заказалі два дыскі акапэльных твораў Рахманінава, якія ў гэтым годзе выйдуць у Галандыі.

Пасля адбыліся гастролі разам з сімфанічным аркестрам у Іспаніі. Там яны таксама пакарылі аматараў харавой музыкі.

Наступны пункт накіравання артыстаў - конкурс-фестываль "Гайноўскія дні царкоўнай музыкі", які праходзіць ужо на працягу 18 год. Там калектыў і быў узнагароджаны Гран-пры. З'явіліся цікавыя прапановы ад замежных імпрэсарыо...

Людміла Яфімава кажа, што беларускім музыкам заходнія гледачы і ў першым і ў другім аддзяленнях заўсёды апладзіруюць стоячы. А нехта з нашых заўважыў, што на адным з канцэртаў, першым, з крыкам "Брава!" падняўся крытык. А гэта ўжо вышэйшая пахвала.